ЛіМ

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

7 СТУДЗЕНЯ 2000г. № 1/4033 КОШТ 65 РУБ.






# Помнік святой

Нарэшце — па добрай традыцыі еўрапейскіх універсітэтаў — пастунова запаўняецца помнікамі дворык галоўнага корпуса Белдзяржуніверсітэта. Пад Новы год там з'явіўся новы помнік Еўфрасінні Полацкай, выкананы маладым скульптарам Ігарам Голубевым паводле выявы гэтай гістарычнай дзяячкі і святой на адным з абразоў.

Постаць нашай асветніцы і патронкі Беларусі стаіць сёння побач з Міколам Гусоўскім і Францішкам Скарынам. А з цягам часу — такая задума — ва універсітэцкім гарадку ўзнікне цэлы пантэон у памяць найвыбітных нацыянальных асоб. Па словах старшыні гістарычнага клуба "Спадчына" Анатоля Белага, які прапанаваў рэктарату БДУ дадзены праект, наступнымі будуць помнікі Буднаму, Цяпінскаму, Каліноўскаму...

**Кірыла ПАЗНЯК**

*Фота Артура ПРУПАСА*



# КОЛА ДЗЁН

***Таемны, няведамы раней міленіум, пра які гэтак шмат гаварылася ў самых розных сродках масавай інфармацыі, прыйшоў. На календары і на вуліцы — 2000-ы, графічны малюнак якога надта ж нагадвае паравозік, як яго малююць дзеці. Той, пра які ў букварах быў калісьці такі вершык: "Свіснуў раз, свіснуў два шустры паравозік і павёз, і павёз за возікам возік..." Паравозік гэтых коціцца сапраўды хутка — вось ужо і Каляды, тыдня Новага года — як і не было, аднак жа коціцца спакойна, без тарганняў і тармазнога скрыгату. І гэта быццам бянтэжыць крыху. Бо пярэдадзень міленіума быў надта ж бурным і непрадказальным: ураганы і паводкі, якія пракаціліся ледзь не па ўсёй зямной кулі, авія- і аўтакатастрофы, захоп індыйскага лайнера з пасажырамі, выбары ў Расійскую Думу, якія сталіся рэвалюцыйным пераваротам, нечаканая і эфектная адстаўка "цара Барыса"... Ну, ды гэта — у свеце, у Расіі. А ў нас, на сцеражонай Богам Беларусі, звыклы спакой, мір ды цішыня. І мы калі й не радуемся гэтаму, дык усё ж і не засмучаемся. Ат, абы ціха...***

### *ПРЫБАЎКА ТЫДНЯ*

З першага студзеня мінімальная зарплата павышана да 2,2 тысячы і тарыфная стаўка І разраду — да 4,5 тысячы рублёў, што дазволіць павялічыць заробкі бюджэтнікаў у сярэднім на 50 працэнтаў. Аднак жа гэта не выклікала асаблівага энтузіязму нашых збяднелых дарэшты грамадзян, бо яны ўжо ведаюць: усё будзе, як і раней, прыбаўка ў зарплаце, не патрапіўшы яшчэ і ў кішэню, будзе з'едзена інфляцыяй і дарагоўляй...

### *МАЛЕБЕН ТЫДНЯ*

У гэтыя дні на Святой Зямлі праходзяць урачыстасці, прысвечаныя 2000-годдзю хрысціянства. У іх прымаюць удзел кіраўнікі праваслаўных краін і праваслаўных цэркваў, сярод іх — і прадстаўнічая дэлегацыя Беларусі на чале з А. Лукашэнкам. Што ж, жыццё наша павярнулася такім бокам, што ўсё гэта ўспрымаецца належным чынам. Ды ўсё ж зніячэўку возьме і прыбяжыць думка: надта ж хутка былыя кампартыйныя і камсамольскія функцыянеры налаўчыліся прымаць "блажэнны" выгляд і жагнацца! Куды хутчэй, чым іхніх бацькоў і дзядоў адвучвалі калісьці ад гэтага...

### *УЗНАГАРОДА ТЫДНЯ*

"За вялікі асабісты ўклад у развіццё і ўмацаванне беларуска-расійскага супрацоўніцтва" Б. Ельцын — наўздагон за яго нікім і няснёнай адстаўкаю — узнагароджаны нашым ордэнам Францыска Скарыны.

### *УПЭЎНЕНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Нядзеля 2 студзеня для банкаўскіх і фінансавых работнікаў сталася яшчэ і днём іх прафесійнага свята. З гэтай нагоды старшыня Нацбанка Беларусі П. Пракаповіч даў інтэрв'ю карэспандэнтцы "Рэспублікі". Пётр Пятровіч у каторы раз цвёрда запэўніў, што рэалізацыя прынятых праграмных дакументаў "дазволіць у 2000 годзе дамагчыся стабілізацыі валютнага курса беларускага рубля, ліквідаваць эканамічныя падставы для функцыянавання так званага "чорнага рынку", стабілізаваць інфляцыю і стварыць неабходныя ўмовы для вырашэння ўсіх іншых задач сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі". І што? А тое, бадай, што нам зноў вельмі хочацца верыць ва ўсё гэта...

### *ПОДПІС ТЫДНЯ*

Адным з першых дакументаў, якія падпісаў выконваючы абавязкі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін, стаў федэральны Закон "Аб ратыфікацыі Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы". Пра гэта БЕЛТА распаўсюдзіла скупое, сціслае, без аніякіх каментарыяў паведамленне. Мімволі згадалася колішняя, ужо прызабытая рубрыка з "Литературной газеты": "Что бы это значило?"

### *РАНЧА ТЫДНЯ*

Як паведамляе друк, у Белавежскай пушчы паявілася першае беларускае... ранча. Спытаеце, што гэта такое? Папулярныя слоўнікі не дапамогуць: няма там такога слова. Памяць падказвае: нешта, звязанае з амерыканскімі каўбоямі. На шчасце, тая ж газетная інфармацыя (у "Советской Белоруссии") растлумачвае: "У далучаным да пушчанскіх угоддзяў Шарашоўскім лясніцтве металічнай сеткай даўжынёй 33 кіламетры абгароджаны ўчастак лесу. Акурат тут дазволены адстрэл жывёлы — дзікіх кабаноў, аленяў паасобных драпежнікаў, якіх выбракавалі селекцыянеры". Уражвае ў інфармацыі і лічба — 33 кіламетры драцянай агароджы. Во якія мы багатыя! Не кожны і амерыканскі мільянер дазволіць сабе такое ранча!

### *РАСПРАЦОЎКА ТЫДНЯ*

Беларускія навукоўцы-аграрыі распрацавалі новую сістэму землекарыстання, укараніць якую маркуецца сёлета, у 2000 годзе. У аснове яе ляжыць прынцып падзелу ўсіх земляў на рэгіёны з дакладнай спецыялізацыяй. З гэтага часу падбор сельскагаспадарчых культур будзе ажыццяўляцца ў строгай залежнасці ад глебавых і кліматычных умоў. Відавочна, што і новая распрацоўка разлічана на старую калгасна-саўгасную сістэму, і, значыць, аніякая рэформа ці структуралізацыя ёй у бліжэйшыя гады не пагражае...

### *РУЧНІК ТЫДНЯ*

Новы год — усё ж новы год! Часам ён сапраўды спараджае неспадзяванкі, па-добраму, здзіўляе. Гэтак вось здзівіў, прытым акурат па-добраму, і першы нумар за сёлетні год усё яшчэ самай савецкай газеты "Белорусская нива". У газеце з'явілася новая рубрыка: "Беларускі ручнік". Рубрыка — літаратурная, а яшчэ больш дакладна — паэтычная. "Частку гэтай невычарпальнай скарбніцы ў выглядзе шэдэўраў беларускай паэзіі мы прапануем увазе нашых чытачоў. Спадзяёмся, што да канца года яны складуцца ў непаўторны па багацці фарбаў і адценняў ручнік, які Беларусь вылучаецца на ўсім свеце. А пачынаем мы наш "Беларускі ручнік" праграмным вершам Янкі Купалы "А хто там ідзе?" Чытайце і шануйце роднае слова...", — гаворыцца ў рэдакцыйным пасляслоўі да новай рубрыкі. Брава, "Белорусская нива"!

### *ПРАГНОЗ ТЫДНЯ*

"Звязда" ў нумары за 31 снежня 1999-га — 1 студзеня 2000 года змясціла астралагічны прагноз знанай ужо на Беларусі Веранікі Кудраўцавай на сёлетні год. Адносіцца да падобных прадказанняў можна па-рознаму, але не сакрэт, што яны ўсё ж выклікаюць цікавасць. І як тут не зацікавішся, калі чытаеш вось такое: "Пачатак 2000 года для Беларусі будзе спакойным, затое, разгарнуўшыся ў сакавіку, кола падзей пачне набіраць абароты. З сярэдзіны сакавіка ўшчыльную будзе вырашацца пытанне аб уведзенні адзінай грашовай валюты ў Расіі і Беларусі, аб стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра. У гэты ж час у нашай рэспубліцы зноў абвострыцца валютная праблема. Канец месяца характарызуецца абуджэннем актыўнасці апазіцыйнага руху, што ў перыяд з 11 па 16 красавіка абяцае выліцца ў акцыі пратэсту..." У сакавіку ў Расіі — выбары прэзідэнта, у красавіку, па ўсім відаць, яго інаўгурацыя. Само сабою, падзеі гэтыя не могуць не адгукнуцца на Беларусі. Якім чынам? Такім, як сцвярджае В. Кудраўцава? Пажывём — пабачым! А пакуль што — чытайма прагнозы...

ПРЭМ'ЕРЫ

# Новыя "Паяцы"

На беларускай опернай сцэне "Паяцы" Р. Леанкавала маюць даўнюю гісторыю. Іх свежай старонкай сталася новая пастаноўка, прэм'ера якой адбылася напрыканцы снежня мінулага года. Музычнае кіраўніцтва ажыццявіў галоўны дырыжор Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі А. Анісімаў, нетрадыцыйнае вонкавае аблічча хрэстаматыйным "Паяцам" надалі рэжысёр-пастаноўшчык С. Цырук ды сцэнограф Л. Ганчарова. У спектаклі заняты Т. Цівунова, В. Курбацкая, М. Майсеенка, А. Саўчанка, У. Пятроў, С. Франкоўскі ды іншыя вядучыя салісты, хор (хормайстар Н. Ламановіч), сцэнічны аркестр (кіраўнік Я. Гелер), артысты Дзіцячага тэатра-студыі.

**С.Б.**

*На здымках: дуэт Каламбіны ды Арлекіна (Т. ЦІВУНОВА, А. ТУЗЛУКОЎ); у цэнтры сцэнічных падзей — Каньё (С. ФРАНКОЎСКІ).*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*





НОВАЕ

# Архівы шмат гавораць

Калі належным чынам ставіцца да любой справы, дык выгаду можна атрымаць і там, дзе, здавалася б, яе няма і быць не можа. Гэта тычыцца і даследавання нацыянальнай мінуўшчыны. А тут, як вядома, непачаты край работы, асабліва калі мець на ўвазе тое, што адбывалася некалькі стагоддзяў назад. Патрэбных жа матэрыялаў захавалася няшмат. Хоць — гледзячы як да ўсяго падыходзіць. Калі ўмець належным чынам чытаць архівы, яны шмат могуць расказаць.

У гэтым пераконвае даведнік "Архіў уніяцкіх мітрапалітаў", што выйшаў пад эгідай Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы і Полацкай грэка-каталіцкай грамады. Укладальнікі С. Паўловіч і Т. Мальцава сабралі матэрыялы па гісторыі царквы ў Беларусі XV—XIX стст., што захоўваюцца ў фондзе "Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі", які знаходзіцца ў Расійскім дзяржаўным архіве ў Санкт-Пецярбурзе.

Дакументы, напісаныя на лацыні, а таксама на старабеларускай, староўкраінскай, польскай, рускай, французскай, італьянскай і грэчаскай мовах, ахопліваюць шэраг пытанняў, а найперш тых, што тычыцца суіснавання хрысціянскіх канфесій, пашырэння ўплыву праваслаўнай царквы пасля падзелу Рэчы Паспалітай. Дакументы адлюстроўваюць і пэўныя палітычныя падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. І калі ўважліва чытаць іх, дык можна атрымаць вельмі каштоўную інфармацыю па гісторыі Беларусі.

З гэтай мэтай, уласна кажучы, і выдадзены даведнік "Архіў уніяцкіх мітрапалітаў". Ён складаецца з трох частак. У першых дзвюх змешчаны апісанні дакументаў, што друкаваліся ў 1897 і 1907 гадах. У трэцюю частку ўвайшлі матэрыялы, даследаваныя ў 1950—1952 гадах, але ў друк яны трапілі ўпершыню. Для зручнасці карыстання ў даведніку ёсць імянны і геаграфічны паказальнікі, а таксама кароткі тлумачальны слоўнік.

**Ю. ВЯРЭНІЧ**

КНІГАРНЯ

# "Беларускі кнігазбор" пашыраецца

"Попыт ашаламляльны", — так эмацыянальна адказала мне маладзенькая прадаўшчыца адной з мінскіх кнігарняў, калі я папытаўся, як разыходзяцца кнігі серыі "Беларускі кнігазбор". І праўда, попыт на першай у айчыннай гісторыі сістэматызаванае шматтомнае выданне нашай тысячагадовай літаратурнай спадчыны аказаўся надзіва вялікі. З усіх канцоў Беларусі сыплюцца нам лісьмы, не змаўкае выдавецкі тэлефон: дзе набыць першыя кнігі серыі — аднатомнікі выбраных твораў Яна Чачота, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Жылкі, Яна Баршчэўскага, зборнік "Беларускія летапісы і хронікі"... Не адразу "раскусіўшы" каштоўнасць гэтай залатой бібліятэкі Беларусі, іншыя чытачы не паспелі "ўхапіць" кнігі унікальнай серыі, якія разляцеліся амаль імгненна.

Чым жа прывабіла шматлікіх чытачоў наша серыя? Перш за ўсё тым, што яна ўпершыню дае магчымасць азнаёміцца з усім багаццем нашай шматмоўнай літаратуры. Так, шматмоўнай, бо на розных этапах свайго развіцця яна стваралася на розных мовах, якія фактычна былі ў свой час на Беларусі літаратурнымі. Апрача беларускамоўных, у серыю будуць уключаны лацінскамоўныя, польскамоўныя і іншыя творы ўраджэнцаў Беларусі ў перакладзе на сучасную беларускую мову. Рускамоўныя творы будуць падавацца ў арыгінале без перакладу — як публікацыя. У "Беларускім кнігазборы" будзе сабраны ўвесь цвет нашага пісьменства за тысячу гадоў яго развіцця. Школьнікі, студэнты, выкладчыкі школ і ВНУ, наогул усе культурныя людзі не змогуць абмінуць гэтыя даволі зграбныя, густоўна аформленыя мастаком Міколам Казловым томікі, у кожным з якіх чытач грунтоўна пазнаёміцца з творчасцю класікаў нашай літаратуры, з надзвычай цікавымі для ўсіх гісторыка-літаратурнымі помнікамі Беларусі. "Беларускі кнігазбор" стане невычэрпнай крыніцай ведаў і духоўнага ўзбагачэння для кожнага беларуса. Вельмі правільна было сказана пра гэтую серыю ў адным з нумароў "Народнай газеты": "Калі-небудзь, верагодней за ўсё ў першай чвэрці XXI стагоддзя, уладальнікі поўнага "Беларускага кнігазбору" — унікальнага 200-томнага выдання — стануць ці не самымі багатымі людзьмі на Беларусі. Зразумела, багатымі ў сэнсе дасведчанасці пра сваю тысячагадовую літаратурную, культурную і гістарычную спадчыну".

Пачынаючы з 1996 года, з дня выхаду першага тома "Беларускага кнігазбору", ужо пабачыла свет ні многа ні мала — 10 тамоў серыі! Апошнія два тамы выйшлі зусім нядаўна, амаль адначасова. Гэта — "Выбраныя творы" сучаснага нашага класіка, народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля і... Але перад тым, як называць наступную кнігу, патрэбна тлумачэнне. Дагэтуль "Беларускі кнігазбор" выходзіў у дзвюх серыях: першая — "Мастацкая літаратура", другая — "Гісторыка-літаратурныя помнікі". З 1999 года міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Беларускі кнігазбор" задумала пазнаёміць беларускага чытача з творчасцю самых славутых класікаў сусветнай літаратуры ў перакладзе з арыгінала на сучасную беларускую мову, тых класікаў, без якіх немагчыма ўявіць дамашнюю бібліятэку кожнага культурнага чалавека. Інакш кажучы, у "Беларускім кнігазборы" з'явілася новая, трэцяя серыя — "Замежная літаратура" (знешне яна будзе вылучаца толькі сінім колерам кніжных вокладак). І пачынаецца яна "Выбранымі творамі" Ёгана Вольфганга Гётэ, 250-гадовы юбілей якога шырока адзначае сёлета сусветная грамадскасць. Гэты аднатомнік і з'явіўся толькі што ў кнігарнях.

У кожным томе серыі — "Замежная літаратура", як і ў дзвюх папярэдніх, будуць змяшчацца найважнейшыя творы пісьменніка, якому гэты том прысвечаны, а таксама грунтоўны ўступны артыкул пра яго жыццё і творчасць, блок ілюстрацый і неабходны каментар.

Разам з айчыннымі аўтарамі ў дом беларуса прыйдуць як свае і займуць ганаровае месца на паліцах сямейных бібліятэк Гамер і Вергілій, Фірдаусі і Ду Фу, Джавані Бакача і Джэфры Чосер, Дантэ Аліг'еры і Франчэска Петрарка, Франсуа Рабле і Уільям Шэкспір, Сервантэс і Мальер, Роберт Бёрнс і Шарль дэ Костэр, Даніэль Дэфо і Жан-Жак Русо, Джонатан Свіфт і Генры Філдынг, Ёган Вольфганг Гётэ і Фрыдрых Шылер, Джордж Гордан Байран і Фенімор Купер, Леў Талстой і Анарэ дэ Бальзак, Тарас Шаўчэнка і Генрых Гейнэ, Фёдар Дастаеўскі і Уолт Уітмэн, Рабіндранат Тагор і Эрнэст Хемінгуэй, Бернард Шоу і Антуан дэ Сэнт-Экзюперы, Вальтэр Скот і Віктор Гюго, Акутагава Рунoскэ і Лу Сінь, Яраслаў Гашак і Гіём Апалінэр, Генрых Сянкевіч і Уладыслаў Рэймант, Жан-Поль Сартр і Альбер Камю, Курт Ванегут і Чэслаў Мілаш і многія іншыя пісьменнікі розных эпох і народаў.

Упэўнены, што кожны культурны чалавек будзе рады мець у сваёй сям'і неацэнныя скарбы сусветнай літаратуры, якія будуць перадавацца з пакалення ў пакаленне.

**Кастусь ЦВІРКА**

ВІНШУЕМ!

# Адзнака таленту і працы

Сярод падзей жыцця музычнага ў гэтым сезоне вылучылася святкаванне юбілею народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі прафесара Яўгена Глебава. 70-годдзе кампазітара адзначалі ў верасні, але праграмы, складзеныя з яго твораў, гучалі ды гучаць у эфіры, у канцэртных залах незалежна ад урачыстых каляндарных дат. Адзін з такіх філарманічных вечароў ладкаваўся за тыдзень да новага года. А неўзабаве з'явіўся Указ прэзідэнта Беларусі аб узнагароджанні Яўгена Аляксандравіча Глебава ордэнам Францыска Скарыны — за вялікі ўклад у музычнае мастацтва...

Віншуючы Я. Глебава з яшчэ адным высокім знакам прызнання ягонага таленту, жадаем яму здароўя, здароўя і яшчэ раз здароўя.



Здымак зроблены падчас аўтарскага канцэрта Я. ГЛЕБАВА 9.01.98 г.

*Фота К. ДРОБАВА*

# Лаўрэаты "Крыніцы"

Рэдакцыйная рада часопіса "Крыніца" прысудзіла штогадовыя прэміі за лепшыя публікацыі мінулага года. Лаўрэатамі сталі чатыры аўтары.

Прэміяй адзначана паэма **Міхася Баярына** "Senectutes", надрукаваная ў N 9.

За мастацкія пераклады прэміі прысуджаны **Лявону Баршчэўскаму** ("Пакуты маладога Вертэра" Ёгана Вольфганга Гётэ, "Жабы" Арыстафана) і яго маладзейшаму калегу **Андрэю Хадановічу** (вершы Стэфана Малармэ).

У галіне эсэістыкі лаўрэатам стаў аўтар "Нататак сумесніка" **Алесь Асташонак.**

ІМПРЭЗЫ

# У будучыню — з аптымізмам

***Час бяжыць звычайна вельмі хутка і няўмольна. Калі сярэдняя працягласць жыцця чалавека многімі ўспрымаецца як дастаткова вялікі часавы прамежак, дык у глабальным, планетарным маштабе, у кантэксце сусветнай гісторыі чалавечае жыццё можна параўнаць з адным імгненнем, з успышкай бліскавіцы... Зменяцца тры-чатыры пакаленні, і ўжо прайшло стагоддзе, яшчэ столькі ж — яшчэ адно, і так да бясконцасці, да канца Свету...***

Сёння побач з намі ёсць нямала людзей, якія яшчэ памятаюць калі не пачатак, дык сярэдзіну "нашага" XX стагоддзя, шмат у чым незвычайнага, вырашальнага для ўсяго чалавецтва стагоддзя. Гістарычны вопыт сведчыць, што менавіта на пераломе стагоддзяў многіх людзей пачынаюць хваляваць пытанні, звязаныя з вынікамі і перспектывамі свайго асабістага жыцця, лёсу ўсёй чалавечай супольнасці. У такія перыяды людзі, азіраючыся назад, асэнсоўваюць сённяшні стан, імкнуцца зразумець вытокі паўсядзённых праблем і цяжкасцей, спрабуюць нібы зазірнуць у будучыню, прадказаць магчымы ход падзей.

Улічваючы вышэйсказанае, выглядае цалкам лагічным і заканамерным правядзенне "круглага стала" пад красамоўнай назвай "Канец стагоддзя — канец свету?". Гэтае мерапрыемства, арганізаванае сумеснымі намаганнямі Польскага інстытута ў Мінску, рэдакцыяй часопіса "Фрагмэнты" і Нацыянальным навукова-асветным Цэнтрам імя Ф. Скарыны, адбылося напрыканцы мінулага года ў гасцінных сценах Скарынаўскага Цэнтра. У рабоце "круглага стала" прынялі актыўны ўдзел прадстаўнікі беларускай інтэлектуальнай эліты, сярод якіх былі вядомыя культуролагі, філосафы, гісторыкі, філолагі. З прывітальным словам да ўдзельнікаў імпрэзы звярнулася дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага Цэнтра імя Ф. Скарыны, кандыдат філалагічных навук Любоў Уладыкоўская-Канапляннік.

Затым з асноўным дакладам выступіў галоўны рэдактар польскага культуралагічнага часопіса "Краснагруда" Кшыштаф Чыжэўскі. Шаноўны польскі госць (якога рэдактар часопіса "Фрагмэнты" Ігар Бабкоў прадставіў як знанага спецыяліста "па праблеме канца свету") у сваёй працяглай і змястоўнай прамове адзначыў, што ў цяперашні час канец свету абсалютна не выключаны, бо яшчэ шмат дзе ёсць нямала неадукаваных, нявыхаваных людзей, своеасаблівых сучасных "варвараў, паганцаў", якія не ведаюць сваёй гісторыі, мовы, культуры, не паважаюць свае народныя традыцыі, звычаі, абрады. Найбольшая колькасць падобных "манкуртаў" мела месца ў краінах т. зв. сацыялістычнага лагеру, дзе ў мінулым панавалі дыктатарская, таталітарныя рэжымы, штучна падаўляліся правы і свабоды грамадзян, адмаўлялася рэлігія, забараняліся старажытныя народныя абрады, святы, звычаі і г. д. Наступствы такіх "сацыяльных эксперыментаў" адчуваюцца і па сённяшні дзень, што ў выніку стварае ў грамадстве сітуацыю духоўнага вакууму, своеасаблівага хаосу культуру. А гэта, у сваю чаргу, робіць дастаткова праблематычнымі шанцы чалавецтва на выжыванне ў бліжэйшай перспектыве, бо сапраўды выжыць і расквітнець можа толькі грамадства, засноўванае на самабытнай культуры, высокай духоўнасці, талерантных адносінах да прадстаўнікоў розных расавай, нацыянальнай, грамадска-палітычнай, канфесійнай, прафесійнай, полаўзроставай прыналежнасці.

Маладыя беларускія філосафы выказалі думкі пра тое, што ўсім нам дзеля выратавання неабходна шукаць не знешнія каштоўнасці, а найперш унутраную свабоду (Міхась Баярын), што эліта грамадства павінна ствараць адмысловую "масавую культуру" для большасці звычайных, простых грамадзян нашай краіны (Максім Жбанкоў). Адзін з удзельнікаў імпрэзы — філолаг Валерка Булгакаў — нават выказаў меркаванне наконт таго, што практычна ўсе агучаныя тут думкі з'яўляюцца своеасаблівай "моўнай гульнёй", якая, зразумела, не можа прэтэндаваць на ісціну ў апошняй інстанцыі. Акрамя таго, на "круглым стале" былі выказаны іншыя цікавыя, неардынарныя погляды і меркаванні, якія часам мелі нават прама дыяметральны, супрацьлеглы характар. Пры гэтым варта адзначыць, што большасць выступленняў па сваім змесце і пафасе можна аднесці да ліку песімістычных у сэнсе бачання перспектыў выжывання сучаснага чалавецтва.

У канцы "круглага стала" кандыдат філалагічных навук Іван Саверчанка падкрэсліў, што разнастайныя ідэі, думкі павінны быць невычэрпнай крыніцай інтэлектуальнага развіцця грамадства. І сапраўды, у сучасны перыяд толькі актыўнымі супольнымі намаганнямі можна вырашаць надзвычай складаныя грамадска-палітычныя, духоўна-культурныя і нават агульнапланетарныя праблемы, якія так часта перад намі ставіць такое вірлівае і непрадказальнае сённяшняе жыццё.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ**

ВЕЧАРЫНЫ

# Калядныя агледзіны

У "Беларускую хатку", у "гасцёўню Максіма" акурат напярэдадні навагодніх святаў завіталі: Казімір Камейша, Віктар Шніп і Аксана Данільчык.

Вядомы паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі А. Куляшова, ён жа намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць" — Казімір Камейша пазнаёміў слухачоў з творчымі планамі свайго выдання, а таксама прачытаў вершы, як са свайго апошняга зборніка "Лінія лёсу", так і зусім новыя, якія яшчэ не з'явяліся ў друку.

Прыязна сустрэлі ў "хатцы" і выступленне маладой паэткі Аксаны Данільчык, якая не так даўно дэбютавала паэтычным зборнікам "Абрыс Скарпіёна". Аксана прачытала новыя вершы, а таксама распавяла пра сваю перакладчыцкую дзейнасць. Як вядома, А. Данільчык апошнім часам шмат перакладае з італьянскай мовы.

Цёпла віталі госці музея і добра вядомага па сваіх ранейшых кнігах паэта Віктара Шніпа. Тым больш, што прыйшоў ён на выступленне не з пустымі рукамі... Віктар паказаў прысутным сваю новую дзіцячую кніжку, якая толькі што з'явілася на паліцах кнігарняў "Наш Максім гаворыць — Гу!"

А вершы Віктар чытаў са свайго "апошняга" зборніка, адметнасць якога ў тым, што "складаецца" ён толькі з аднаго аркуша паперы. Менавіта — складаецца, бо гэта міні-зборнік-буклет, дзе сабрана каля 30 вершаў паэта, ёсць ягоны фотаздымак і кароткая біяграфія. А з'явілася "навінка" дзякуючы выдавецкаму фонду "Гронка", якім апякуецца часопіс "Полымя".

Але, тым не менш, як пажартаваў сам Віктар Шніп: "з-за адсутнасці лепшага — радуешся і таму, што ёсць..."

А вось просьбу праспяваць ягоны шлягер "Усе мы родам з дзяцінства" Віктар Шніп перадарасаваў гаспадару музея і вядучаму вечарыны Эдуарду Акуліну, які паэтычную частку сустрэчы аздобіў лірычным песенным эпілогам.

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬ...

## Юбілейнае выданне

Паўстагоддзя ў горадзе працуе лесаўпарадкавальная экспедыцыя. За гэты час ёю шмат зроблена для таго, каб памнажалася багацце беларускіх лясоў. У свой час працаваў тут і вядомы наш пісьменнік Мікола Кусянкоў. Гісторыя і набыткі Гомельскай лесаўпарадкавальнай экспедыцыі адлюстраваны ў кнізе, якая нядаўна выйшла ў свет пад рэдакцыяй кіраўніка гэтай арганізацыі Ф. Бурака. У стварэнні юбілейнага выдання прымалі ўдзел навукоўцы і кіраўнікі лясных гаспадарак Беларусі. У іх ліку — акадэмік, дырэктар інстытута лесу Нацыянальнай акадэміі навук, незалежны эксперт ААН па лесе ад Усходняй Еўропы, прафесар В. Іпацьеў.

## Творца нацыянальнага каларыту

Прадукцыя акцыянернага таварыства "Добрушскі фарфоравы завод" карыстаецца вялікім попытам далёка за межамі нашай рэспублікі. Славу заводу ствараюць не толькі вытворцы-практыкі, але і мастакі. Іх роспісы — міжнародная сімфонія колераў на чайных і кафейных сервізах, дэкаратыўных талерках, вазах... Адзін з вядомых мастакоў на прадпрыемстве — сябра Саюза мастакоў Галіна Семікашава. Яна — аўтар высокамастацкіх работ "Палессе", "Ручнікі", "Вяселле"... Да новага года мастачка стварыла новы іх цыкл, дзе гармонія форм і колераў арганічна аздоблена каларытам нацыянальных традыцый.

## Прыдняпроўскі край майстроў

Нядаўна пры Палацы культуры металургаў у Жлобіне адкрылася выдатная выставачная зала. У экспазіцыях будзе адведзена месца творам як мясцовых мастакоў, так і з іншых гарадоў Беларусі...

Актыўна працуюць і жлобінскія літаратары, журналісты, бібліятэкары. Яны падрыхтавалі да друку бібліяграфічны дапаможнік "Жлобіншчына літаратурная", які ўключыў розныя матэрыялы пра вядомых пісьменнікаў-землякоў. Вядома, што прыдняпроўская зямля стала крыніцай творчасці для Аляксандра Капусціна, Мікалая Лупсякова, Уладзіміра Федасеенкі і іншых майстроў слова.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

БРЭСТ...

## Палітра роднага Палесся

Творчасць сябра Саюза мастакоў берасцейца Міхася Кебеца ўжо даўно ведаюць не толькі ў яго родным горадзе. Як майстра жывапісных і акварэльных пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў, яго неаднаразова адзначалі на рэспубліканскіх і міжнародных выставах, ён удзельнічаў у пленэрах, што праводзіліся ў розных мясцінах Беларусі, Украіны, Польшчы, Германіі і іншых краін. Але выстава, што адкрылася нядаўна ў Брэсце, асабліва ўражвае, бо гэта — першая буйная выстава мастака, які адзначыў сваё 50-годдзе. Прычым, юбіляр не стаў прытрымлівацца традыцыі — колькі пражытых гадоў, столькі і карцін — і склаў экспазіцыю амаль з сотні прац. Аматары мастацтва, калегі і крытыкі, якія прыйшлі на адкрыццё выставы, захоплена гаварылі пра багатую жывапісную палітру аўтара, яго бездакорнае выканаўчае майстэрства і вернасць асноўнай тэме — роднаму Палессю.

**Сымон АКСЕНІН**

ВІЦЕБСК...

## Альбом Пятра Явіча

Выданне цудоўна ілюстраванага альбома жывапісных твораў Пятра Явіча стала сапраўднай падзеяй у культурным жыцці горада. Напярэдадні новага года ў гарадскім Цэнтры культуры адбылася прэзентацыя альбома.

Мастак-рэаліст напрыканцы дваццатага стагоддзя адзначыў 80-гадовы юбілей. Збор рэпрадукцый выпушчаны Мінскай фабрыкай каляровага друку двухтысячным накладам. Вялікую дапамогу ў выданні альбома аказалі гарадскія ўлады.

## Фларыстыка — мастацтва жаночае

Віцебскі клуб аматараў фларыстыкі "Анюта", які створаны пры Цэнтры народных рамёстваў "Задзвінне", адзначыў пяцігоддзе. Пачынальніцай віцебскай фларыстычнай школы стала доктар медыцынскіх навук Ганна Салаўёва. Фларыстыка — мастацтва жаночае... Людміла Голубева, Людміла Дзмітрук і Алена Ягорава падрыхтавалі да выдання метадычны дапаможнік "Фларыстыка ад "а" да "я". Зараз "Анюта" рыхтуе сваю 28, веснавую, выставу.

**Святлана ГУК**

МАГІЛЁЎ...

## Да Ражства Хрыстова

У гарадскім цэнтры культуры і адпачынку адбылося свята духоўнай і харавой музыкі, прысвечанае двухтысячагоддзю Ражства Хрыстова і асветніку-мысліцелю і прапаведніку праваслаўя Георгію Каніскаму. Свята пачалося з выступлення настаяцеля Магілёўскага кафедральнага сабора айца Генадзя, які расказаў прысутным пра духоўны подзвіг Георгія Каніскага. Затым выступілі лепшыя калектывы абласнога цэнтра: мужчынскі хор кафедральнага сабора, харавыя калектывы "Спадчына", аўтазавода імя Кірава, дзяржуніверсітэта, педфакультэта акадэміі музыкі, камерны хор і харавая капэла.

## Намалявала Біблію

Напярэдадні новага года былі падведзены вынікі міжнароднага конкурсу "Дзеці свету малююць Біблію". Яго дыпламантам стала цяпер ужо былая горацкая школьніца Яўгенія Юрчанка. У Біблейскім садзе Ерусаліма пасаджана дрэва, якое носіць імя дзяўчыны.

## Святочны падарунак

Зараз у Клімавіцкім краязнаўчым музеі праходзіць персанальная выстава вядомага майстра акварэлі Фёдара Кісялёва. "Калядны падарунак землякам напярэдадні новага тысячагоддзя" — менавіта так назваў мастак, які родам з Клімавіцкага раёна, сваю экспазіцыю з 32-х непаўторных па тэхніцы выканання работ. Але самым вялікім падарункам землякам сталі тры карціны, якія Фёдар Кісялёў перадаў Клімавіцкаму музею.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Гучалі вершы

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылося чарговае пасяджэнне дзіцячага літаратурнага аб'яднання "Купалінка".**

**У аб'яднанне "Купалінка", якое ўзначальвае ўсім вядомы дзіцячы пісьменнік М. Чарняўскі, уваходзяць вучні рознага ўзросту чатырнаццаці сярэдніх школ Мінскага раёна. Сімвалічна, што дзеці сабраліся ў Коласавым доме, дзе заўсёды рады прымаць у сваіх сценах юных талентаў. Якуб Колас ніколі не забываў пра дзяцей, шмат твораў напісаў ён для іх і першыя вершы таксама напісаў у дзіцячым узросце.**

**На сустрэчы прысутнічалі вучні і настаўнікі з дзесяці школ Мінскага раёна, супрацоўнікі музея Якуба Коласа, пісьменнікі, прадстаўнікі Мінскага райвыканкама.**

**Распачала і вяла пасяджэнне адказны сакратар аб'яднання "Купалінка" Э. Ярчак, прысутных таксама павітала галоўны арганізатар аддзела адукацыі Мінскага райвыканкама Л. Жаўняркевіч.**

**Прыемна было пачуць выступленні маладых творцаў. Дзеці чыталі ўласныя вершы, невялічкія замалёўкі пра свой любімы край, пра першыя пачуцці, пра родных і блізкіх.**

**З захапленнем слухалі прысутныя выступленне супрацоўніцы музея А. Ігнацюк, якая прачытала свае вершы. Цікавым было выступленне І. Курбекі — старшага навуковага супрацоўніка музея, які ўдала падрабляў галасы вядомых беларускіх пісьменнікаў, прачытаў свае сатырычныя вершы.**

**Гучалі на сустрэчы і вершы настаўніц беларускай мовы і літаратуры Р. Чашун са Ждановіч і Т. Булатавай з Гатаўскай сярэдняй школы.**

**Напрыканцы выступіў М. Чарняўскі. Ён выказаў спадзяванне, што ў будучым юныя таленты папоўняць шэрагі беларускіх пісьменнікаў.**

**Святлана СУБАТ**

## Юбілей настаўніка і паэта

**На вечарыне ў Лідскай педвучэльні было шмат віншаванняў у адрас юбіляра. Як і кветак ды падарункаў. Такой пашаны ўдастоіўся настаўнік беларускай мовы і літаратуры Міхась Мельнік з нагоды 50-годдзя з дня нараджэння. Шчыра віталі яго сябры па педагагічнай працы, выпускнікі вучэльні, мясцовыя паэты і журналісты. З удзячнасцю гаварылі яны аб грамадскай дзейнасці Міхася Іванавіча, які доўгі час узначальваў гарадскую арганізацыю Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Менавіта дзякуючы намаганням юбіляра ў Лідзе адкрыты помнік вялікаму асветніку з Полацка, другі па ліку ў Беларусі.**

**Пра паэтычны дар Міхася Мельніка, мілагучную напеўнасць яго вершаў, на словы якіх напісана нямала песень, распавядалі госці з Мінска — саліст ансамбля народнай музыкі "Свята" Вячаслаў Статкевіч і паэт Пятро Чабор.**

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

## "Роднае слова", N 10

**Па традыцыі нумар адкрываецца словам галоўнага рэдактара "Роднага слова" М. Шаўркіна. Гэтым разам ён разважае на тэму: "Імя тваё — настаўнік". Да 100-годдзя з дня нараджэння А. Бабарэкі змешчаны артыкул У. Конана "Зруйнаванае "Узвышша". Пра жыццёвы і творчы шлях К. Хромчанкі, якому споўнілася 70 гадоў, расказвае І. Чыгрын ("Каля агню Праметэя"). Тут жа публікуецца артыкул К. Хромчанкі "Дэмагогіі й дыктату супраціў" пра літаратурную дыскусію 20-х гадоў на Украіне. Па-новаму прачытвае раман У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" Г. Ішчанка ("Зерне ўваскрасе ў каласах"). А. Нафрановіч ("Спасціжэнне зямлі і нябёсаў") дзеліцца ўражаннямі ад паэзіі Л. Галубовіча і Л. Дранько-Майсюка. Увасабленне сусветных жанраў у беларускім казачным эпасе цікавіць М. Кавалёву ў артыкуле "Бітва на калінавым мосце". Чытач пазнаёміцца таксама з артыкуламі А. Яскевіч "Навукова-асветны гурток Елісея Плецянецкага", І. Лепешава "Спрэчныя пытанні лексікалогіі", М. Прыгодзіча "У слове бачыў ён зямное прызначэнне" (памяці А. Супруна, прапануецца і артыкул А. Супруна "Лексічная структура верша Якуба Коласа "Ручэй"), І. Германовіча "Міхаіл Жыркевіч", Л. Вікторкі "Англійскія імёны ў беларускай мове", Т. Шамякінай "Культура Грэцыі эпохі элінізму". Часопіс віншуе з 90-годдзем патрыярха нацыянальнай літаратуры М. Лужаніна і друкуе яго "Думкі ўголас". А да 60-годдзя М. Мішчанчука публікуюцца яго абразкі. Паэзія прадстаўлена вершамі З. Прыгодзіча, А. Сыса, песнямі А. Фіялкоўскай.**

МЕРКАВАННЕ

# Асцюкі стандартаў на духоўнасць

Беларусазнаўства хараша ўводзіла ў агульную культурна-асветную і адукацыйна-азнаямляльную прастору на 1 курсе ВНУ, давала імпульсы для далейшага авалодвання філасофіяй, сацыялогіяй, этналогіяй, гісторыяй культуры. Табліца множання "раскідана" па ўсяму курсу матэматычных дысцыплін, але яе трэба ведаць найперш. Такі курс "Беларусазнаўства" як інтэгральная дысцыпліна асабліва патрэбны на прыродазнаўчых факультэтах. Тым больш што па гэтай дысцыпліне выйшлі добрыя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, якія створаны выкладчыкамі, што працуюць у тэхнічных ВНУ (І. Саракавік, А. Лозка, Э. Дубянецкі і інш.)...

Здавалася б, усё займае належнае месца, навукоўцы могуць спакойна працаваць, а студэнты — авалодваць ведамі... Але... Нам стала вядома аб існаванні загада Міністэрства адукацыі N 243 ад 29.04.1998 г. "Аб ліквідацыі "беларусазнаўства" як вучэбнай дысцыпліны ў ВНУ".

З цяжкасцю паверылася ў такое. Калі гэта праўда, дык завошта ж так з нявінным прадметам? Ці сёння беларусазнаўства "расстрэльная дысцыпліна", як у свой час была генетыка. Ну а калі хаця б частка студэнтаў пажадае яе вывучыць у такім аб'ёме і ў такім змесце як яна створаная? Нельга... Загадам забаронена... Праўда, аўтары згаданага дакумента спасылаюцца на іншы загад Міністэрства адукацыі N 667 ад 30.12.1998 г. "Аб увядзенні "Гісторыі Беларусі" ў якасці базавай дысцыпліны ў ВНУ", што, на думку чыноўніка, дае падставу "падкараціць" праграму за кошт беларусазнаўства. А "Гісторыя Беларусі" не была "базавай" дасюль? Дзе логіка? І вось ужо выходзіць "Агульнаадукацыйны Стандарт. Вышэйшая адукацыя. Цыкл сацыяльна-гуманітарных дысцыплін" (РД РБ 02100. 5.227—99), дзе зусім ужо няма і напамінку аб вучэбным курсе "беларусазнаўства".

А які слаўны быў курс! Як яго любілі студэнты! З яго дапамогай адразу ўжо з першых дзён навучання ў ВНУ студэнты ўваходзілі ў атмасферу гонару за сваю краіну, за Беларусь, знаёміліся з дзяржаўным уладкаваннем, традыцыямі і сучаснасцю, пазнавалі свой край і сябе ў гэтым краі. Станавіліся патрыётамі дзяржавы. І канцэпцыя выкладання не разыходзілася з дзяржаўнай палітыкай на сучасным этапе.

І раптам! Што такое "РД РБ" за нумарам і датай, адразу і не ўцяміш. Таму для някемных ніжэй расшыфравана строга і дакладна, каб ні ў кога не ўзнікла сумнення ў правільнасці, каб ніхто не змог не паслухацца: "Руководящий документ Республики Беларусь". Вунь як! Але ні ў Канстытуцыі Беларусі, абсалютна нідзе няма такой абрэвіятуры "РБ", якую "прыдумала" наша бюракратыя. Нам вядома толькі адно такое скарачэнне — на надмагільных помніках: "ЗП РБ", што азначае "здесь покоится раб Божий". Вось так была пахавана "раба Божая" вучэбная дысцыпліна "Беларусазнаўства". Навекі! Не ўваскрэсне!!! Хто ж пойдзе супраць "руководящего документа" ("РД РБ 02100.5.227-99"). Стандарт падрыхтаваны і ўнесены Галоўным Упраўленнем вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі даволі салідным спісам паважаных і шаноўных аўтараў-распрацоўшчыкаў. Яшчэ зазначана, што ён зацверджаны і ўведзены ў дзеянне загадам Міністэрства адукацыі ад 6 ліпеня 1999 года, N 436. Гэта зусім выклікае адчуванне безнадзейнасці ў адносінах да лёсу вучэбнага курса "Беларусазнаўства". Праўда, далей ідзе дадатак: "Уведзены ўпершыню". А мо не ўсё так дрэнна. Калі яшчэ ўлічыць сцверджанні, што дадзены "Стандарт" праходзіць апрабацыю ў гэтым навучальным годзе і на яго аснове ў далейшым будуць складзены тыпавыя планы навучання ў ВНУ, дык ажывае надзея, што і курс "Беларусазнаўства" можа быць вернуты ў вучэбныя планы. Чым ужо не даспадобы вучэбная дысцыпліна нашым чыноўнікам ад адукацыі? У каго запяршыла ў горле ад самога слова "беларусазнаўства"?

Калісьці яшчэ ў дваццатыя гады на "заре советской власти" Якуб Колас высмейваў у аповесці "На прасторах жыцця" вучэбныя "комплексы" ў гутарцы галоўных герояў Аленкі Гарнашкі і Сцёпкі Баруты ("А гэта, бачыш, так. Бярэцца які-небудзь прадмет або якая-небудзь з'ява, скажам, "калодзеж", і разглядаецца з усіх бакоў", "Гэта значыць, так: паставілі табе на стол капусту, яечню, кіслае малако, локшыну. Дык вось пазліваць іх у адну пасудзіну — і еш. Глупства гэтыя вашы... комплексы").

А тут... Стандарты! Бяры куды вышэй!

Але ж абсалютна зразумела сёння, што "стандарты навучання" (калі яны нават і патрэбны так моцна?!?) выпрацоўваюцца без уліку патрабаванняў грамадства. А як быць тут з выбарам дысцыплін самімі студэнтамі? Прыклад з вучэбным курсам "Беларусазнаўства" яскрава паказвае, што дапушчаны відавочны перакос у планаванні, дапушчана памылка, якую яшчэ не позна выправіць, вярнуць вучэбную дысцыпліну ў студэнцкія аўдыторыі.

Амаль у адзін час (1993—1994 гг.) з увядзеннем інстытута прэзідэнцтва на Беларусі была ўнесена ў вучэбныя праграмы агульнаадукацыйнай і вышэйшай школы і названая дысцыпліна. Меркавалася, што такі інтэгральны курс патрэбны, бо ён дазваляў пашырыць веды пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, адказваў на шматлікія пытанні існавання, самаруху і развіцця краіны і народа. Без аніякай палітызацыі, на ўзроўні навукова-абгрунтаванага філасофска-паэтычнага і эмацыянальна-ацэначнага тлумачэння вялася гаворка пра духоўныя традыцыі і сучаснасць. Гэта давала магчымасць менавіта на занятках распавесці гутарку пра сённяшні стан і перспектывы развіцця краіны, пра Беларусь у міжнародным супольніцтве ў сувязі з міжнародным падзелам працы і ўзрастаючым з кожным годам культурным узаемаабменам. Тут нам ёсць чым ганарыцца. Ды і сам курс змястоўны, цікавы, адметны.

За апошнія пяць гадоў створаны шэраг падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, з'явілася шмат вучэбна-метадычнага матэрыялу, распрацаваны праграмы. Адкрылася нямала кафедр, многія і многія навукоўцы ўзяліся за сур'ёзнае даследаванне праблем духоўнага жыцця беларусаў. Цяпер усё гэта пускаецца "пад нож"... Гэта нават не па-гаспадарску. Затраціць сродкі, каб пасля ўсё зачыніць. Сёння ўсе асноўныя навуковыя росшукі робяцца на "стыку" розных навуковых сфер: псіхалогіі, філасофіі, этналогіі, гісторыі, сацыялогіі, мовы, літаратуры, геаграфіі, этнаграфіі, фальклору, культуры і мастацтва і інш.

У курсе "Беларусазнаўства" чыталіся тэмы: "Этнагенез беларусаў" (лінгвакраязнаўчы аспект), "Этнічная гісторыя і культура беларусаў", "Ментальнасць", "Нацыянальны характар і нацыянальная псіхалогія", "Беларускія святы, абрады, звычаі", "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці", "Мова", "Прыгожае пісьменства", "Прафесіянальная культура", "Прававядомасць", "Канфесіі", "Нацыянальныя меншасці", "Дыяспара", "Тэрыторыя і назвы нашага краю" і інш. У курсе "Беларусазнаўства" распрацаваны таксама тэмы: "Асноўныя этапы этнічнай гісторыі беларусаў", "Этнічныя традыцыі ў беларусаў", "Антрапалагічная характарыстыка", "Нацыянальная самасвядомасць", "Развіццё культуры", "Прафесійная культура", "Навуковы пошук: прыродазнаўства, вынаходніцтва", "Беларусь як суверэнная дзяржава", "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці", "Геапалітычнае становішча", "Захаванне культурнай спадчыны", "Беларусь у свеце".

Зусім відавочна, што ні ў курсе "Гісторыі Беларусі", ні ў іншых вучэбных курсах дадзеныя пытанні не могуць быць асветлены з дастатковай глыбінёй, на ўзроўні сучасных патрабаванняў. Ці многа беларусаў ведае сёння, адкуль пайшла назва свята "Радаўніца"? Колькі "мытняў" павінна прайсці душа памерлага перад тым, як паўстаць перад тварам господнім? За якія грахі нам прыйдзецца трымаць адказ? У чым ахоўная роля грамнічнай свечкі? Як ладзілі продкі "фэсты" на Сёмуху, кірмашы на "Пакровы"? Канвергенцыя дзвюх ментальнасцей — язычніцкай (паганскай) і хрысціянскай, у чым яна? Беларусы "інтраверты" ці "экстраверты"? "Вербальная магія", што гэта такое? І інш., і інш., і інш...

Студэнты выказваюць жаданне праслухаць падобны курс. Ён цікава ўспрымаецца. Студэнты пішуць рэфераты, складаюць радаводы. Усё гэта іх па-добраму цікавіць. Яны адчуваюць гонар за свой край і глыбей разумеюць саміх сябе, свае карані.

Вучэбная дысцыпліна "знікае" наогул з вучэбных планаў, стандартаў, праграм. Без абмеркавання. Ні слыху, ні дыху...

Дысцыпліна не ўключаецца нават у вучэбныя праграмы для замежных студэнтаў.

У маскоўскіх школах уведзена "Масквазнаўства", усюды існуюць курсы "Краязнаўства" (рэгіянальнага). Такі курс "Краязнаўства" павінен заставацца і ў сістэме адукацыі ў Беларусі.

Калісьці ў людзей пяршыла ў горле ад аўсяных асцюкоў у "хлебе надзённым", няўжо ж нас чакае яшчэ і "голад" духоўны?

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**загадчык кафедры, дацэнт,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**член Саюза беларускіх пісьменнікаў**

ПАМЯЦЬ

# Яго чыталі і ў "ЛіМе"

Ці ёсць у гісторыі нашага музычнага мастацтва прадстаўнікі крытычнай думкі, якіх можна было б параўнаць, скажам, з асобамі буйных прадстаўнікоў рускай музычнай крытыкі: Адоеўскага, Сярова, Стасава, Лароша, Асаф'ева, без якіх цяжка ўявіць культурнае жыццё свайго часу?

Такім, вядомым па маштабе і размаху дзейнасці, па здольнасці бачыць перспектыўнае, музычным пісьменнікам на Беларусі стаў Ісідар Нісневіч (1914—1977), які 21 снежня мог бы адзначыць свой 85-гадовы юбілей.

Музычна-крытычная дзейнасць, якой Ісідар Герасімавіч прысвяціў 30 гадоў свайго жыцця, зрабіла яго папулярным сярод чытачоў не толькі нашай краіны, але і далёка за яе межамі. Здаецца, у нас увогуле не было перыядычных выданняў, дзе б не друкаваліся яго працы. Найчасцей рэцэнзіі, нарысы, творчыя партрэты і інтэрв'ю І. Нісневіча з'яўляліся на старонках часопісаў "Советская музыка", "Музыкальная жизнь", "Полымя", "Нёман", "Работніца і сялянка"; газет "Советская культура", "Звязда", "Советская Белоруссия", "Мінская праўда". Сустракалася яго імя ў перыядычных выданнях Душанбе, Варшавы, Вільні, Рыгі. Вядомы І. Нісневіч і як аўтар кніг, брашур, артыкулаў у розных зборніках, у Музычнай, Тэатральнай, Беларускай савецкай і Вялікай савецкай энцыклапедыях.

Як ні дзіўна, але свой прафесійны шлях у галіне музычнай крытыкі І. Нісневіч абраў не адразу. Яго, як асобу таленавітую, прываблівалі вельмі розныя сферы навукі. Спачатку Нісневіч атрымліваў адукацыю на фізіка-матэматычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта і адначасова наведваў клас фартэпіяна ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, але ўрэшце захопленасць музыкай перамагла — на ўсё яго далейшае жыццё. Нісневіч нейкі час выкладаў у кансерваторыі, потым працаваў у Саюзе кампазітараў Беларусі.

Лёсавызначальнай была для яго сустрэча з выдатным музыкантам і выкладчыкам, кампазітарам В. Залатаровым, які адразу, адным з першых адзначыў крытычны талент І. Нісневіча, яго палемічны літаратурны дар і здольнасць да яркіх абагульненняў. Не без уздзеяння Залатарова Нісневіч паступова адышоў ад выканальніцкай і выкладчыцкай працы і цалкам прысвяціў сябе публіцыстыцы.

Адным з першых выданняў, у якім адбыўся дэбют Нісневіча-крытыка, была газета "Літаратура і мастацтва". Тут да канца свайго жыцця ён друкаваў разнастайныя матэрыялы пра музычнае, тэатральнае, канцэртнае жыццё Беларусі, ставіў праблемы кампазітарскай творчасці, выканальніцкай і педагагічнай дзейнасці. Сярод тэм, якія хвалявалі Нісневіча, заўсёды першай была тэма нацыянальнай музычнай культуры Беларусі. З асаблівай павагай пісаў ён пра выдатных дзеячаў беларускага музычнага мастацтва: Р. Шырму, М. Чуркіна, Я. Цікоцкага, А. Багатырова і іншых. А колькім новым творам і імёнам прадвызначала шчаслівы лёс яго разумнае і дакладнае слова!

У меркаваннях гэтага крытыка было нешта вельмі значнае, паводле слоў А. Багатырова, — "здольнасць бачыць перспектыўнае". Відаць, таму многія яго матэрыялы вытрымалі выпрабаванне часам.

Маштабы дзейнасці Нісневіча атрымалі высокую адзнаку не толькі сярод дзеячаў беларускага мастацтва: у 1984 годзе выдавецтва "Советский композитор" выпусціла зборнік музычна-крытычных артыкулаў Нісневіча — адзіны такога кшталту, бо крытычныя матэрыялы іншых прадстаўнікоў нацыянальнай думкі пра музыку ў аналагічных зборніках ніколі не друкаваліся.

Шырокае кола тэм, грунтоўнасць іх распрацоўкі, вялікая інфармацыйная насычанасць, — усё гэта сумяшчалася ў працах І. Нісневіча з адметнасцю літаратурнага таленту. І сёння яго крытычная спадчына можа быць вельмі павучальным прыкладам для тых, хто стаў на цяжкі, але вельмі прывабны шлях музычнай крытыкі.

**Ірына СЫРЫЦА**

***Мы, людзі, не надта схільныя вучыцца не толькі на чужых, але і на сваіх уласных памылках. Ды ўсё ж — вучымся. Як кажуць, жыццё прымушае. Згадаем. Яшчэ зусім нядаўна, нейкіх семдзесят гадоў назад, а гэта практычна жыццё двух пакаленняў, наш паэт са шчымлівай тугою і радасным спадзяваннем марыў аб тым часе, калі Беларусь стане "краем фабрык дымных і машын". Неўзабаве, і вельмі хутка, усяго праз два-тры дзесяцігоддзі, гэта здзейснілася. Наша зялёна-блакітная старонка гэтак задыміла-закуродыміла, што мы ўжо заспявалі зусім іншае: як ратаваць і зямлю нашу, і саміх сябе ад гэтага хімічна-машыннага атручвальнага прагрэсу. Мы загаварылі аб вынасе найбольш шкодных вытворчасцей за межы гарадоў, аб перапрафіліроўцы тых ці іншых прадпрыемстваў, каб зменшыць іх небяспечны ўплыў на чалавека і навакольную прыроду.***

***Гэтыя праблемы востра стаяць ва ўсіх нашых гарадах, у тым ліку і ў сталічным Мінску. Рэдка які горад у былым Савецкім Саюзе мог пахваліцца такімі імклівымі тэмпамі росту, як сталіца Беларусі. І ў выніку мы маем сёння тое, што маем: у многіх раёнах Мінска ўзровень загазаванасці паветра, скажам, асабліва ў летнюю спёку, перавышае ўсялякія дапушчальныя нормы. Гарадское асяроддзе не спрые, а, наадварот, шкодзіць чалавеку, ягонаму творцу — такі вось выбрык цывілізацыі.***

***Дзеля чаго кажу пра ўсё гэта? Што сталася прычынаю для гэтых згадак і разваг? Кароткае газетнае паведамленне аб тым, што мэрыя нашага Мінска ўхваліла новую канцэпцыю развіцця беларускай сталіцы да 2030 года. Канцэпцыю, у аснову якой пакладзена думка аб тым, што галоўны горад краіны павінен развівацца найперш як яе культурны і інтэлектуальны цэнтр з высокаадукаваным насельніцтвам. Звяртала на сябе ўвагу акурат гэтае слова — НАЙПЕРШ. Яно пазначала несумненны і адмысловы паварот у тысячагадовай гісторыі Мінска. А гэта не магло не выклікаць зацікаўленасці. Так я аказалася ў праектна-даследчым інстытуце "Минскградо" (такая, на жаль, зараз рэальнасць беларускай сталіцы, што ў жыцці яе амаль не застаецца месца беларускаму слову, вось і згаданы цэнтр названы чыноўніцка-расійскім словаспалучэннем, якое і перакласці цяжка, і ўзяла інтэрв'ю ў яго дырэктара — кандыдата архітэктуры, замежнага члена Расійскай акадэміі архітэктурна-будаўнічых навук Аляксандра КАЛАНТАЯ.***

# Горад людзей

**— Аляксандр Мікалаевіч, перш чым гаварыць пра новую канцэпцыю развіцця Мінска, можа, варта сказаць пра тое, чым была выклікана яе неабходнасць?**

— Выклікана яна нашым часам, правільней — акалічнасцямі нашага часу, новымі грамадска-сацыяльнымі і эканамічна-палітычнымі стасункамі. Мы ўваходзім — бокам, скокам, задам наперад ці яшчэ якім чынам — у новыя эканамічныя адносіны, баючыся іх, падазраючы іх ліха ведае ў чым, прымаючы іх і адначасова адкідваючы, але — уваходзім! Бо іншага шляху няма. Бо мы не ведаем іншых інструментаў, акрамя інструментаў рынкавай эканомікі, якая, улічваючы інтарэсы розных людзей, знітоўвае іх, акумулюе і рэалізуе сродкі і магчымасці грамадства дзеля агульнай карысці. У гэтай сітуацыі мы павінны цвяроза паглядзець на рэальныя магчымасці горада, яго эканамічнага патэнцыялу і насельніцтва з пункту гледжання ўзроўню жыцця, фінансавых патокаў і патрэб. Старая сістэма, якая ад дзяржавы пачыналася і дзяржавай заканчвалася, пры якой, напрыклад, кватэры дарылі-размяркоўвалі, аджыла сваё. Мы ўваходзім у новыя правілы горадабудаўніцтва з прыцягненнем тых людзей, якія жадаюць і могуць нешта рабіць у гэтай справе. На якую хваробу пакутуе наша грамадства? Найперш — на поўную адсутнасць адказнасці за што б там ні было. Мы ўсё яшчэ спадзяёмся, што нехта за нешта недзе будзе адказваць, а самі мы не можам прывесці ў парадак нават свой пад'езд, свой двор. Сістэма магчымасцей і адказнасцей у нас, як і пры савецкай уладзе, па-ранейшаму не збалансавана.

Сёння ў будаўніцтве горада можа ўдзельнічаць кожны. Нехта будуе дом на сваім зямельным участку, нехта ўкладвае сродкі ў будаўніцтва офіса, прадпрыемства, у рэканструкцыю парку ці крамы і г. д. Значыць, павінны быць і пэўныя працэдуры рэалізацыі гэтых магчымасцей, і правілы суадносін розных інтарэсаў на розных участках, рэгіёнах, тэрыторыях горада. Такая задача — каб адзін дакумент рэалізоўвала велізарная колькасць людзей — раней не ставілася. Таму дакумент павінен быць дастаткова гнуткі і дастаткова жорсткі: каб ён не скоўваў ініцыятывы, не абмяжоўваў сферы магчымага, з аднаго боку, і вымагаў абавязковага выканання пэўных правілаў і законаў, з другога.

Вось такім, вобразна кажучы, дакументам сталася і наша новая канцэпцыя развіцця нашай сталіцы на бліжэйшыя тры дзесяткі гадоў.

**— І ў чым жа яе галоўная сутнасць? На што, як кажуць, робіцца ў ёй галоўны акцэнт, што пакладзена ў аснову?**

— Мінск — гэта не проста буйнейшы адміністрацыйны, палітычны, эканамічны і культурны горад краіны. Мінск — сталіца Беларусі, сталіца дзяржавы. А сталіца жыве па іншых законах, чым усе іншыя гарады. Прынамсі, не па законах звычайнага, няхай сабе і буйнога, прамысловага цэнтра. На першае месца тут выступае сфера абслугоўвання, сфера навукі, адукацыі, культуры, адпачынку. У сталіцы — зусім іншая якасць насельніцтва, іншыя абсягі і накірункі яго занятасці. А калі гэтак, дык і зусім іншая, скажам, экалогія горада. Паглядзіце, што сёння робіцца ў Мінску. Асноўныя выкіды гарадскіх прадпрыемстваў-гігантаў забрудзілі ўвесь наш Паўднёвы Усход. Гэтыя ж праблемы маем мы і ў цэнтры горада, бо Мінск сфарміраваўся ў Свіслацкай катлавіне, у якую па рачной даліне сцякаюць усе брудныя патокі. У Шабанах у нас наогул мяжа экалагічнай якасці, само сабою — у адмоўным плане. На жаль, не ўсе яшчэ разумеюць, што для Мінска — не самае важнае нарошчванне магутнасцей прамысловых гігантаў.

Дык вось, калі функцыя горада змяніцца, адпаведна зменіцца і ўся ягоная ўтваральная база. Возьмем прамысловыя прадпрыемствы Мінска. Яны павінны быць забяспечаны працоўнымі рэсурсамі. А працоўныя рэсурсы — гэта не рабочыя-адзіночкі, а — сем'і. Усё гэта трэба ўлічваць і пралічваць. Намі былі распрацаваны пэўныя нарматывы шчыльнасці насельніцтва для Мінска, пэўныя патрабаванні вытворчай забудовы, паркавых аб'ектаў, аб'ектаў культурнага прызначэння. Частка прамысловых комплексаў ужо сёння трансфармуецца пад жыллёвыя і сацыяльныя аб'екты. Звычайна ў сталіцах прамысловы сектар займае 8—10 працэнтаў тэрыторыі, у Мінску ж — больш за 16 працэнтаў. Сярод прадпрыемстваў горада, да ўсяго, нямала шкодных. Яшчэ і раней прымаліся пастановы аб вынасе за межы горада 64 заводаў і фабрык са шкоднай вытворчасцю, аднак яны так і не былі выкананы. Бо зрабіць гэта не так проста. Гэта цягне за сабою і перамяшчэнне тых самых працоўных рэсурсаў. Значыць, прадпрыемствы са шкоднай вытворчасцю можна і трэба перапрафіліроўваць. Бо калі ўступіць у дзеянне — а ён уступае! — рынкавы механізм, гэта значыць, механізм рэнты, экалагічных падаткаў і штрафаў, то прадпрыемствам будзе проста нявыгадна трымаць шкодныя цэхі на тэрыторыі горада. Прадпрыемствы, якія маюць вялікія санітарныя зоны, павінны будуць плаціць за іх утрыманне падаткі, як і ўсе іншыя, а не спадзявацца на тое, што яны будуць заплачаны з мясцовага бюджэту. Калі ўладальніку прадпрыемства скажуць, што ён не мае права вырабляць вось такую прадукцыю па такой вось тэхналогіі, дык ён будзе перад выбарам: ці мяняць тэхналогію, ці наогул мяняць профіль вытворчасці.

Карацей кажучы, паводле новай канцэпцыі наогул забараняецца размяшчэнне і функцыянаванне ў межах горада прадпрыемстваў І і ІІ класаў санітарнай шкоднасці.

Асобна варта сказаць пра чалавечы фактар. Пры выпрацоўцы канцэпцыі мы пралічвалі, вывяралі ўсемагчымыя дэмаграфічныя тэндэнцыі. Сёння ў Мінску — 1 мільён 730 тысяч жыхароў. А колькі будзе заўтра, праз 10, 20, 30 гадоў? Мы выйшлі на дзве версіі, дзве лічбы: 1 мільён 900 і 1 мільён 700 тысяч. Так, не выключана апошняя тэндэнцыя — на змяншэнне насельніцтва, бо і сёння ўжо натуральны прырост яго — нулявы і калі не будзе прытоку звонку, дык і будзе адбывацца гэты працэс змяншэння. Усё гэта пралічвалася, вывучалася, вывяралася. У выніку і была створана гнуткая праграма, паводле якой далейшы рост насельніцтва Мінска мы лічым немэтазгодным. У будучым Мінск павінен фарміраваць гарады-спадарожнікі вакол сябе, у якіх можна будзе будаваць камфортнае жыллё, у якіх будзе нармальная экалогія і якія будуць звязаны са сталіцаю зручнымі транспартнымі артэрыямі.

Тым не менш, тэрыторыя, ці плошча Мінска да акрэсленага перыяду павялічыцца амаль удвая: з 29 тысяч гектараў да 42 тысяч. І гэта пры досыць высокай шчыльнасці насельніцтва — прыкладна 7 тысяч чалавек на квадратны кіламетр. У Маскве і Барселоне, скажам, гэты паказчык яшчэ вышэйшы, але затое ў Празе, Будапешце і Варшаве — удвая ніжэйшыя. Само сабою, многае тут залежыць ад жыллёвай палітыкі. Асноўная



*Фота Ул. КАГУЦЭНКІ.*

тэрыторыя адводзіцца акурат на жыллёвае будаўніцтва. Але ўзнікае пытанне: а колькі мы можам дазволіць сабе будаваць жылля? Год назад цалкам дэкларатыўна было прынята рашэнне будаваць у Мінску за год па мільёну квадратных метраў жылля. Хто будзе будаваць, якімі сіламі і за кошт якіх сродкаў — нічога не пралічвалася, і што? А тое, што аказалася: і палова гэтага нам пакуль не пад сілу. Летась мы выйшлі ўсяго толькі на 330 тысяч. Інакш і быць не магло, пакуль у нас сярэдняя зарплата будзе недзе ў межах 30-40 долараў. Нармальная жыллёвая палітыка можа ажыццяўляцца толькі тады, калі гэты паказчык узрасце да 300-400 долараў. Сёння ж атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: мы будуем такое ж дарагое жыллё, як на Захадзе, хоць бы ў тых самых Чэхіі, Польшчы, а насельніцтва наша ў 10 разоў бяднейшае, чым там. Гэта прыводзіць да таго, што мы засмечваем тэрыторыю горада дрэннымі архітэктурна-будаўнічымі рашэннямі. Таму і стаяла перад намі задача, што хочацца падкрэсліць яшчэ раз: усё ўзважыць, цвяроза падлічыць, колькі нам патрэбна зямлі, што на ёй будаваць, якой якасці і пры якіх эканамічных умовах. І гэтыя падлікі і разлікі далі нам магчымасць вызначыць перспектыўную рысу беларускай сталіцы.

**— І дзе пройдзе гэтая новая рыса? Яшчэ ж зусім нядаўна Мінская кальцавая дарога была далекавата за рысай горада. Сёння ж Мінск у многіх напрамках пераступіў цераз яе. А па новай канцэпцыі — у якіх напрамках будзе крочыць сталіца за кальцавую? Дзе будуць асноўныя раёны наваселляў?**

— Уся МКД трапіць у межы гарадской рысы, а таксама тэрыторыя, якая прылягае да кальцавой. Пашырэнне Мінска будзе ісці ва ўсіх напрамках. У раёнах Навінак, Ждановіч, Мінскага мора будуць самыя вялікія гарадскія паркі, будаўніцтва тут будзе весціся самае мінімальнае. Дачныя пасёлкі гэтых раёнаў пераводзяцца ў ранг пастаяннага жылля. Ужо сёння ў раёне вуліцы Прытыцкага развіваюцца мікрараёны Каменная Горка і Кунцаўшчына, а далей ужо за МКД, — мікрараён Тарасава. Неўзабаве будзе завершана будаўніцтва Сухараўскіх мікрараёнаў, а на поўнач ад ТЭЦ-4 — мікрараёна Дзегцяроўка. Вакол будучай станцыі метро "Універсітэцкая", насупраць "Малінаўкі-9", паўстане новы мікрараён з насельніцтвам у 30 тысяч чалавек. За кальцавой дарагой ля пасёлка Шчомысліца вырастуць два вялікія мікрараёны на 40 тысяч чалавек. На поўдні Мінск пашырыцца за кошт мікрараёна "Сенніца", далей, у паўднёва-ўсходнім напрамку, — за кошт мікрараёнаў "Лошыца" і "Новы Двор". Па Магілёўскай шашы Мінскам стане свабодная эканамічная зона раёна Ельніцы. Там жа ідзе рэканструкцыя і развіццё вёскі Трасцянец. А далей — паўза, горад застаецца ў межах МКД. Гэта невялікі ўчастак ад Сенніцы да чыгункі Маскоўскага накірунку. Туды горад не плануе развівацца, там няма ніякай інфраструктуры, гэтая тэрыторыя можа быць экалагічным запаведнікам, там цудоўны лес. Гэты сегмент, скажам так, завяршае наша славутае Уручча. А на паўночным усходзе горад завершыцца новымі мікрараёнамі — "Усход-3" і "Баравая". Новых прамысловых раёнаў не плануецца, адно будзе завершана рэканструкцыя старых і невялікіх участкаў у раёне ТЭЦ-4 і ў раёне аўтарынку. У нас, у Мінску, і без таго, як я ўжо казаў, прамысловыя карпусы займаюць зашмат тэрыторыі. Вытворчасць павінна развівацца ў гарадах-спадарожніках Мінска. А насельніцтва сталіцы, чвэрць якога, дарэчы, мае вышэйшую адукацыю, павінна займацца больш інтэлектуальнай дзейнасцю. Яно павінна мець магчымасць для рэалізацыі свайго разумовага патэнцыялу, бо ў адваротным выпадку будзе адбывацца "сыход мазгоў", людзі будуць мяняць профіль сваіх інтарэсаў і заняткаў, а гэта ўжо нонсенс для сталіцы.

**— Аляксандр Мікалаевіч, пашырэнне межаў горада — гэта абвастрэнне і без таго вострых транспартных праблем. Што мяркуецца зрабіць у гэтым плане да 2030 года? Якія перспектывы ў Мінскага метро і іншых транспартных сістэм?**

— Метро — транспарт надзвычай дарагі, будаўніцтва яго новых трас і станцый вымагае вельмі значных укладанняў. Таму гаварыць нешта пэўнае, акрамя таго, што ўжо запраектавана і будуецца, не выпадае. Апошняе ж відаць усім пасажырам са шматлікіх схем у вагонах падземкі. Тым не менш, метро, вядома ж, не спыніцца, яно будзе развівацца. І чым багацей мы будзем жыць, тым інтэнсіўней будзе гэтае развіццё. Само сабою, значную нагрузку, як і зараз, будзе мець трамвай, тралейбус і аўтобус. Дарэчы, усе гэтыя сродкі для гарадскіх пасажыраперавозак Мінск зараз выпускае сам, і не толькі для ўласных патрэб, але і на экспарт. Будуць спецыяльныя лініі прыярытэтнага руху гарадскога пасажырскага транспарту. Істотна паболее ў Мінску легкавых машын — таксі. Зараз легкавы аўтатранспарт перавозіць недзе 10-11 працэнтаў пасажыраў, рэшту — 80-90 працэнтаў — іншыя віды транспарту. Да 2030 года на грамадскі гарадскі транспарт прыпадзе 75-80 працэнтаў пасажыраў, а на легкавы — каля 25 працэнтаў. І яшчэ. Сёння ў Мінску на 1000 жыхароў прыпадае 145 прыватных аўтамабіляў. Па нашых падліках, праз 30 гадоў іх колькасць узрасце да 350 штук на 1000 жыхароў. І гэта — мяжа. Бо калі іх будзе больш, сталіцы пагражае экалагічная катастрофа.

**— На праблеме асабістага аўтатранспарту хачу затрымаць вашу ўвагу, Аляксандр Мікалаевіч, яшчэ на хвіліну, балазе — сама аўтамабілістка. Не захлынецца Мінск ад нашых жалезных коней? Будзе нам чым дыхаць? А куды мы іх дзенем? Ужо сёння двары застаўлены аўтатранспартам мінчукоў. А што будзе праз 20-30 гадоў? Набудуем мы гаражоў — наземных і падземных? Вы пра гэта думалі?**

*(Працяг на стар. 14—15)*

## “Гістарычнае падарожжа для дзяцей”

**Правільней, гэтая кніга называецца “Беларусь”, а падзагаловак — “Гістарычнае падарожжа для дзяцей”. Жыццё ж ёй далі ТАА “Лекцыя” і яшчэ адна недзяржаўная выдавецкая структура — “Бацькаўшчына”. Аўтар — вядомы пісьменнік, які даўно распрацоўвае гістарычную праблематыку, Кастусь Тарасаў.**

**Калі ж у некалькіх словах адзначыць вартасць выдання, дык трэба засведчыць, што нічога падобнага дагэтуль на Беларусі не выпускалася. Гэтая кніга-альбом — шматколернае вялікага фармату падарункавае выданне, у якім змешчана 112 старонак арыгінальных малюнкаў і невялікіх, надзіва лаканічных і разам з тым вельмі**




**змястоўных тэкстаў, што знаёмяць з тысячагадовай гісторыяй нашай Бацькаўшчыны, пачынаючы з таго моманту, калі на тэрыторыі сучаснай Беларусі з’явіліся першыя славянскія плямёны да абвяшчэння дзяржаўнасці ў 1918 годзе, а таксама з выдатнымі асобамі, знакамітымі помнікамі розных эпох.**

**Можна даведацца пра бітвы, якія вартыя таго, каб пра іх памятаць; пра шматлікія святыні, у тым ліку і рэлігійныя. Ёсць мажлівасць прачытаць і пра дахрысціянскія *вераванні нашых продкаў*, зірнуць у радаслоўную князёў, якія пакінулі сваёй дзейнасцю глыбокі след у нацыянальнай гісторыі.**

**А да ўсяго — гэтае “гістарычнае падарожжа” — магчымасць адчуць непаўторнасць беларускага мастацтва і адметнасць рамёстваў. Адным словам, зірнуўшы ў мінуўшчыну, зразумець, наколькі яна прывабная, непаўторная, багатая. І зразумець адну вельмі важную ісціну, без усведамлення якой наўрад ці можна лічыць сябе свядомым беларусам: усё тое, што рабілася да нас, рабілася і для нас. І яно, калі мы будзем даражыць сваёй нацыянальнай памяццю, не знікне бясследна, а перадасца і нашым наступнікам.**

**Наконт сувязі мінулага, сённяшняга і будучага ў свайго роду звароце да чытача К. Тарасаў гаворыць наступнае: “Старадаўняя Беларусь знаходзіцца ў мінулым часе. Трапіць туды можна толькі ў думках. Але навошта юнаму чалавеку падарожнічаць у мінуўшчыну, калі ягонае жыццё — наперадзе? З тае прычыны, што там, у даўніне, — справы, здабыткі, страты, перамогі і паражэнні, каханне і здрады, радасць і слёзы нашых дзядоў і прадзедаў, нашы таямнічыя карані. Цікава ведаць, чаму мы нарадзіліся тут, а, прыкладам, не ў Гасконі, чаму рознімся ад суседзяў мовай і звычаямі, чаму ў нас іншыя песні, іншыя святыя і пакутнікі, іншыя героі. Будучыня прыходзіць сама, мінулае адкрываецца толькі цікаўнаму”.**

**А кніга — свайго роду энцыклапедыя. І хоць адрасавана яна ў першую чаргу вучням 4—9 класаў, з цікавасцю будзе прачытана кожным, хто хоча лепш і болей ведаць пра мінуўшчыну сваёй Айчыны. Лёгкаму ўспрыманню выкладзенага матэрыялу спрыяе тое, што К. Тарасаў, як ужо адзначалася, надзіва лаканічны, але прапануючы той ці іншы тэкст, імкнецца сказаць як мага больш. І гэта тычыцца як матэрыялаў, што з’яўляюцца па сутнасці агляднымі, так і тых, якія прысвечаны канкрэтным падзеям, людзям, з’явам.**

**Запеўкай жа да кнігі з’яўляецца вядомы верш Я. Купалы “Спадчына”. Знайшлося і месца багдановічаўскай “Пагоні”. А яшчэ прыемны падарунак чытачы атрымаюць у канцы выдання, дзе друкуюцца тэксты любімых у народзе песень. Вядома, у нечым аўтар “гістарычнага падарожжа” і суб’ектыўны, але і тое, што змешчана, вартае ўвагі. А гэта такія песні, як “Купалінка”, “Туман ярам, ярам-далінаю”, “Вяне рута”, “Ой, сівы конь бяжыць”, “Там каля млына”, “Як сарву я ружу-кветку”, “Ці ўсе лугі пакошаны”, усё гэта, як вядома, фальклорныя творы, але ёсць і дзве песні аўтарскія, якія таксама даўно ўспрымаюцца як народныя: “Явар і Каліна” на словы Я. Купалы і “Зорка Венера” М. Багдановіча.**

**У наш няпросты фінансавы час такі выдавецкі праект ажыццявіць няпроста, таму трэба адзначыць, што знайшліся тыя, хто ўспрыняў выданне “гістарычнага падарожжа” як справу патрэбную, таму К. Тарасаў і “выказвае шчырую павагу ўсім, хто дапамагаў выпусціць гэтую кнігу”, называючы іх прозвішчы. Кнігу апекавалі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Беларуская Асацыяцыя журналістаў, Касцёл святых Сымона і Алены (Мінскі Чырвоны касцёл), заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь Міхаіл Пастухоў, Фонд Генадзя Грушавога.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

*Кожны творца пачынаецца*
*з натхнення.*
*А яно віруе ў маладосці.*
*Атрымаеш з неба блаславенне*
*ды змайструеш*
*самастойна штосьці.*
*Карабель ці прыгажуню-ляльку,*
*для яе квяцісты гарнітурчык,*
*і пачнеш вясёла фестываліць,*
*як непаўналетні авантурнік.*

Так разумеецца натхненне паэтам з Гародні Юрыем Гуменюком. Даволі арыгінальны пачатак, але ўжо па другой страфе адчуваецца, што тое, небам дадзенае, паступова йдзе на спад, а пятая заключная страфа і ўвогуле “абвісае”, як пыльны мяшок з-пад бульбы на вясковым плоце.

***Вось чаму так хочацца напіцца***
***і зямлю апырскаць угнаеннем,***
***разгуляцца ці развесяліцца,***
***каб не страціць кайфу ад натхнення.***

Ці не заўважаеш ты, шаноўны чытач, як лючым стане духоўнай “ломкі” пасля працяглага перыяду высокатэхналагічнай “перадазіроўкі”... Адбываючы ў канфедэратыўна-асабовай камеры сваю незалежную літаратурную рату, і вычарпаўшы ўвесь запас савецкіх наркатычных летуценняў, мы пачынаем задыхацца ад недахопу касмапалітычнага адрэналіну ў нацыянальнай крыві... Мы — крычым, галосім, скрыгочам зубамі, молім, упрошваем... але словы нашыя — няпэўныя, няўцямныя, нязвязныя і неўразумелыя тым, да каго яны звернуты, — чытачам.

Ствараецца ўражанне, што літаратура, як гадзюка, вылазіць з панцыра састарэлай скуры і паступова абнаўляе свой знешні выгляд. Аднак раздвоены язык і зяпа з атрутным зубам — застаюцца ўсё тыя ж...

Таму няма чаго здзіўляцца, што яна, як маўзалейная мумія, не зазнала аніякіх зменаў з часоў сацыялістычнага рэалізму.

Як бы й не з’явілася за апошнія пятнаццаць гадоў новых імён і новых пісьмёнаў!

Нікольні не камплексуючы, *але ўсё ж* як Анатоль Сыс, Славамір Адамовіч ды паасобных *афрыканцаў з племені* “Бум-Бам-Літ”, як то Ілля Сін, Зміцер Вішнёў, Альгерд Бахарэвіч...

Урэшце, мне і не замінала б гэтая “пахвальба”, каб у пасляслоўі я не прачытаў адваротнае: “Гумянюк, калі ўсё ж пашукаць ягоную нішу, стаў заснавальнікам мастацкай плыні беларускага анархізму (на жаль, гэтае слова большасць постсавецкіх людзей атаясамляе з гвалтам, рабункам, анархіяй). Анархізм, мне здаецца, адпавядае беларускаму менталітэту — шматканфесійная талерантнасць, нацыянальная цярпімасць, шматслойнасць і нават эклектызм культуры”.

Чамусьці любіць, не ўпершыню заўважаю, Алесь Аркуш зводзіць многія творчыя імёны да літаратурнай “нішы”, як да маўзалейнага лежбішча, хоць, праўда, і Гумянюк не супраць, каб асвойтаць піраміду Тутанхамона.

І што ж, выходзіць, ваяўленая Аркушам скандальнасць не адпавядае творчай са-

# Рытуал постмадэрніста

сучасная літаратура спакваля пераходзіць у новыя формы і спрабуе набыць новы змест і нават іншую якасць?

Ад часопіснай публікацыі, рукапісу і кніжкі — да ўласнай старонкі ў Інтэрнэце і перформансу на тэатральнай сцэне ці ў выставачнай зале...

Літаратура з чытанкі на нашых вачах пераўтвараецца ў новы від візуальнага мастацтва. Уражваць і здзіўляць — вось яе асноўны сённяшні пафас. Мудрасць, душэўнае пачуццё і разумовае рэзюме “заганяюцца” ў глыбокія сутарэнні падтэксту (чытай — падсвядомасці).

На шматбаковае, а тым больш аб’ёмнае і шматстаронкавае мысленне-апісанне, разважанне і маралізатарства проста бракуе часу ў наш вокамгненны нейтронна-лазерны век, перанасычаны інфармацыйным доследам. Творчай высокадухоўнай энергіі ўжо не хапае ні на ўнутраны маналог, ні на знешні шчыры дыялог са светам. Усё лакалізуецца й лаканізуецца ў афарыстычныя формы і фармулёўкі. Чалавек эвалюцыяніруе і яго літаратура пра сябе адпаведна перафарміроўваецца...

Я не магу безапеляцыйна сказаць, што сучасны малады чалавек задавальняе мяне сваімі паводзінамі і мысленнем. Але і сам я не адпавядаю таму чалавечаму вобразу, які *хацелі бачыць* ува мне мае бацькі. А іх паводзіны, у сваю чаргу, здаюцца настолькі кансерватыўнымі, наколькі і алагічнымі...

Мне самому, як умеранаму прагматыку, і шкада развітвацца з былым, і не стае часу нават на горкую слязу расстання, бо ўжо набягае на светлы цень майго меланхалічнага мунілага злы касмічны дэміург блізкага будучага...

Тым часам сацрэалізм зрабіўся маскультурай, а Шамякін, Марыніна і К$^{0}$ (сярод якіх шмат здольных нашых паэтаў і пісьменнікаў, што пішуць на заказ рускамоўнае “чтиво” для свайго любімага суверэннага народа) сталі *следчымі павадырамі* сляпога сённяшняга чытача і патэнцыяльнага электарата...

Аднак паэты і пісьменнікі ад Бога не павінны звяртаць на гэта асаблівай увагі і праяўляць матэрыяльнай рэўнасці. Мінуў нарэшце-такі час партыйных гуру і духоўных айцоў нацыі. Літаратура спрабуе стаць самадастатковай, грэбліва адкідваючы ці змушана пазбаўляючыся былых дзяржаўных падпорак — грашовага і ідэалагічнага забеспячэння.

Але напачатку без мыліц хадзіць цяжка, таму кожны самастойны крок — гэта як спасціжэнне аўтаномнага існавання ў Сусвеце — своеасаблівая сітуацыя “новага Ноева каўчэга” — і апрабацыя асабістай духоўнай волі, калі Слова пачынае адпавядаць Богу і тым самым аб’ектыўна выяўляць чалавека як ён ёсць...

І тут узнікаюць праблемы. Рознага кшталту і процілеглых арыентацый. Бо, відавочна, што на Беларусі сёння, у стромых берагах яе грамадска-палітычнага супрацьстаяння, — вобмаль крытычнага мыслення. Уся духоўная апазіцыя зводзіцца да нацыяналістычнага літання: мова, сімвалы, суверэннасць!.. Спрадвечны традыцыйна-фальклорны матыў малых нацыяў, мінулае і сучаснае якіх пазбаўлена перспектывы самаўсведамлення, а будучае праступае цьмяна і невыразна, па ўсё тым жа купалаўскім шаблоне: “А хто там ідзе, а хто там ідзе // У агромністай такой грамадзе? // — Беларусы. // ... // А чаго ж, чаго захацелась ім, // Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім? // — Людзьмі звацца”.

І ўсяго толькі?! У той час як сусветная культура знаходзіцца ў своеасаблівым бапрапусціўшы сваё пакаленне, хацелася пагарбачоўску спытаць пра наступнікаў: “Ху ёсць ху”? Пацюпа, Шніп, Гумянюк, Аркуш, Булыка, Бабкоў, Рублеўская, Касцюкевіч, Дубянецкая... А хто можа прыпомніць сур’ёзны й крытычны разгляд творчасці тых жа Анатоля Сыса і Славаміра Адамовіча?!

Здзіўляешся не толькі *незаўважанасці* гэтых і іншых нашых цікавых творцаў, але і *няўважнасці* да іх творчасці той таленавітай крытычнай плыні, якую складаюць Сяргей Кавалёў, Пятро Васючэнка, Галіна Тычка, Ганна Кісліцына, Людміла Корань, Ірына Шаўлякова...

Адзін Валянцін Акудовіч ужо дзесяць гадоў *адбівае* ў “тазік” ратавальнае “sos!”, каб нейкім чынам вывесці нашу творчую моладзь з правінцыйнай пустэльні... Няўжо, як Майсею, — яму спатрэбіцца яшчэ трыццаць?!

Нешта падобнае пісаў у нядаўнім нумары “Нашай нівы” Сяргей Паўлоўскі (у свеце — Дубавец): “...беларуская літаратура апрытомневае пасля камунізму, ці сапраўдны катарсіс або, калі хочацца, крызіс яшчэ не наступіў? На карысць першага адказу сведчыла б ажыванне крытыкі — галоўнага санітара і парадкавальніка літаратурнага працэсу. Аднак ніякага такога ажывання не назіраецца — ніхто нават не спрабуе расставіць кнігі па паліцах. (...) Пра авангард ці нейкую навіну, новае слова ўсе ўжо і думаць забылі. Тут бы выжыць, абы пераажыць...”

Праўда ў дадзеным выпадку ў мяне ўзнікае пытанне да самога Сяргея Іванавіча: а ці дастаткова зроблена ім, як адным з найцікавейшых нашых крытыкаў, для таго, каб выправіць падобнае становішча ў нашым пісьменстве? Прынамсі, з публікацый “Нашай нівы” гэтага не вынікае. Па сутнасці не адкрыта там ні аднаго новага таленавітага імя, не зроблена глыбокага літаратурнага аналізу творчасці таго ці іншага маладога творцы...

У тым жа нумары той жа газеты поруч з артыкулам Сяргея Паўлоўскага выдрукавана эсэ Наталлі Бабінай з такім вось пасажам-адступленнем: “Андрэй Дынько з іншай нагоды некалі напісаў: “Праблема з беларускай савецкай літаратурай заключаецца ў тым, як яе забыць”. Стылістыка каструбаватая, але — пэўная. Так і жывём: не забываючыся на ўчарашняе і не ўладкаваўшы сённяшняе...

Можна сказаць, што літаратура наша засядзелася ў *дзеўках,* састарэла, і крытычныя *кавалеры* сталі абыходзіць яе й стараніцца... І гэта б — нічога, каб яны, пры ўсёй сваёй амбітнасці, “паклалі” вока хоць на які літаратурны першацвет. А то — сноўдаюць наўкола: ні то *апаненты*, ні то *імпатэнты...* Міжволі ўзнікае небяспека і для саміх кавалераў — як бы й ім не застацца ў *бабылях* пры такім раскладзе...

Усе гэтыя сумбурныя думкі, бы вірлівы пчаліны рой, пранесліся ў маёй галаве — і пакінулі мяне спустошаным і знямелым, як пляц Якуба Коласа пасля шматлюднага мітынгу...

Вось чытаю ўжо трэцюю кніжку, выдадзеную ў Полацку Таварыствам вольных літаратараў у серыі “Анталогія”. Новы паэтычны зборнік гарадзенца Юрыя Гуменюка “Рытуал”. Як заўжды — пачынаю з анатацыі і пасляслоўя. І адразу натыкаюся на прэтэнцыёзнасць і неадпаведнасць. У анатацыі напісана, што “Юры Гумянюк — адзін з самых скандальных беларускіх паэтаў”.

Спадар Аркуш адназначна “перахвальвае”, дзеля рэкламы выдання такога мілага і лагоднага маладога чалавека. Тым больш, што ўвесь беларускі *прыкультурны* свет начуты пра такіх літаратурных, рэцыдывістаў, праўднасці паэта? І — так і не зусім...

Бо як жа тады быць з “авангардна-палітызаванымі” вершамі Гуменюка, з іх цынізмам і вульгарнасцю, што падчас могуць даць фору вядомым рыфмаванкам Славаміра Адамовіча?! Балазе, культура выдання не дазваляе “апускацца” да іх цытавання.

Адным словам — постмадэрн! Альбо, кажучы чатырма талстоўскімі: “Все смешалось в доме Облонских”...

Але — бліжэй да Гуменюка, а то ў нашых словаблуддзях мы пра яго й забудзем. А менавіта ён і меўся быць галоўным героем гэтага опуса.

Гуменюка я ведаю каля дзесяці гадоў. Ад самага пачатку яго літаратурнага поступу. У тым юным чалавеку на зачыне 90-х было шмат энергіі, прэтэнцыёзнасці і ў той жа час — элегантнасці, культуры і, рэдкага ў паэтычных тусоўках, інтэлекту...

Я добра памятаю яго крамяную яблычную ружовашчокасць з адлівам сарамотнай дзявочай цнатлівасці, чырвоны матылёк пад падбароддзем беласнежнай кашулі і пяшчотны голас выканаўцы іспанскіх рамантычных рамансаў “а-ля Федэрыка Гарсія Лорка”:

***Элітарная дзяўчынка***
***зноў сумуе на балконе,***
***А базальтавыя вокны***
***не падобны да звычайных.***

Вось як вызначаў сам Гумянюк тыя свае першыя намеры да “незвычайнасці”: “...рамантычная свядомасць — саломінка-выратавальніца, што дапамагае ўзняцца над гнойнаю бытавухай, натуралістычным прымітывам, шматлікімі комплексамі, атрыманымі ў спадчыну ад папярэдняй гістарычнай эпохі”. (“Крыніца”, N 7, 1995 г.)

Вядома, паэтычная поза, стыль пісьма і паводзін — усё гэта ляпніна аўтарскага літаратурнага іміджу. І калі гэтым не займацца “змалку”, то ў старасці ад паэтычнага вобліку нічога, апроч пасмяротнай маскі, можа і не застацца. Так сведчыць гісторыя літаратуры, хоць з усякіх правілаў бываюць свае выключэнні...

Багемнае жыццё настолькі фанабэрлівае і чуйнае, што кожны свой творчы, грамадзянскі і быццёвы крок літаратар павінен разлічваць з карысцю для ўласнай вечнасці аж да апошняй магуліны. Асабліва ў тым выпадку, калі з талентам у яго праблемы. Можна назваць для прыкладу колькі імёнаў, чыё паэтычнае мінулае “трымаецца” толькі дзякуючы створанаму імі ўражанню на публіку. Скажам, Піліп Пестрак, Мікола Засім, Антон Бялевіч...

У звязку з гэтым згадваецца першы паэтычны зборнік Гуменюка “Водар цела”, як, дарэчы, і наступны — “Твар Тутанхамона”, што надалі іміджу нашага паэта дастаткова імпазантнае (фрэйдаўскае) адценне. Алесь Аркуш у сваім пасляслоўі “Дабранач, рэвалюцыя, гудбай!” назваў іх (згаданыя вышэй зборнікі. — **Л. Г.**) “адмысловымі культуралагічнымі акцыямі з пэўнымі мэтамі, задачамі і перспектывамі”. Чытаем у “Апошнім каханні” з першага зборніка:

***Ды не бяда, калі згубілі ўчора скварку.***
***Галоўнае — дзікунскі перфарманс!***
***Спяваючы ясенінскі раманс,***
***свае галовы пакладзем на цыркулярку.***

Трэба зазначыць, што імідж ствараецца не толькі самім творцам, але і яго атачэннем. Часам гэтае атачэнне (раней — ідэалагічная служба, цяпер — сябры, грантаўцы й гарантадаўцы) ляпілі і спрабуюць ляпіць “жывыя помнікі” на пустым месцы.

Мне падаецца, што, у адрозненне ад Анатоля Сыса і Славаміра Адамовіча, якія пакутліва ствараюць свой імідж “сваімі ру-

ПРОЗА

# АЎТОГРАФ АД СПІЛБЕРГА

АПАВЯДАННЕ

Раіса БАРАВІКОВА



Божа, як заснуць? Як заснуць?! Гэты не ў меру спякотны чэрвень, душны вечар і Вася пад балконам. Сусед Вася. Нашыя кватэры знаходзяцца на адным паверсе. Ну, чаго ён крычыць? Што, каму ён даказвае? “Закадзіраваны на ўсё жыццё! Вось тут... у паперцы напісана. А я п’ю. І піць буду! — усё гэта я чую праз расчыненае акно. — Ну, куды ж вы, Сенечка? Сенечка, куды ж вы?!” — крычыць Вася. І мне ўсё зразумела.

Вася, які ўжо быў на добрым падпітку, гэта чулася ў ягоным голасе, паказваў сваю паперку яшчэ аднаму майму суседу, які жыве паверхам ніжэй, — Сенечку. І дарэмна. Таму што Сенечку, як гаворыцца, да фені Вася і ягоная паперка. Сусед Сенечка думае пра сваё, як гэта захаваць бадзёрасць духу, як мага далей, каб не спаць. Зусім не спаць. Таму што Сенечку палохаюць ягоныя сны. А ў мяне баліць сэрца, у мяне кепскі настрой і ў мяне ўсё наадварот, не гэтак, як у суседа Сенечкі. Я хачу заснуць і мне не спіцца. Бедны Вася! Бедны Вася! Невядома, як і чаму ён стаў героем майго апавядання “Санаторый смерці”. І Сенечка таксама мой герой, які так трапна ўпісаўся ў апавяданне “Сненні стомленага Сенечкі”. І вось тут цікавы момант. Ужо некалькі тыдняў на маім пісьмовым стале ляжыць ліст ад нейкай не вядомай мне чытачкі, дзе яна пытаецца: “А чаму гэта назвы многіх вашых апавяданняў пачынаюцца з літары “С”? Што гэта такое: творчая задума ці выпадковасць?” Сапраўды, што гэта такое? Я не ведаю, што ёй адказаць. У мяне ёсць апавяданні, якія я ўжо назвала вышэй, а таксама: “Сіні сандалет”, “Снег сыходзіць”, “Сажалка Соні”... Але я добра ведаю, што задумваліся іншыя: “Кватэра бэзавых світанняў”, “Вока Сусвету”, “Каб не каханка Лагуцкага”, “Спадарыня “БМВ”... У думках ужо выпісаны былі сюжэты, але на паперу леглі менавіта гэтыя з пачатковымі літарамі “С” у назвах. І я не знаходжу тлумачэння, адкуль што з’явілася? Чаму менавіта яны?! Хаця... Я помню, калі гэта здарылася. У які момант пачалі з’яўляцца гэтыя дзіўныя назвы.

Адварочваюся ад сцяны і адразу позірк упіраецца ў кніжную паліцу. Я не хачу туды глядзець, а гляджу. Там, за шклом на паштоўцы з ілюстрацыяй “Летняга вечара на Біч” Петэра Северына Кройера размашысты аўтограф: “Стывен Спілберг!” Але гэта я ведаю, што там распісаўся Стывен Спілберг. А для таго, хто не ведае — проста дзве літары “С”, адно, што англійскія, за якімі штосьці невыразна-хвалістае. З гэтага аўтографа ўсё і пачалося...

Тады таксама было лета. Цёплае навальнічнае лета ў Чыкага. Я гасцюю ў стрыечнай сястры Джойс і ў свайго дзядзькі Сашы. Каб пабачыцца са мной, з Лос-Анжэлеса разам з мужам Эрыкам прыехала Таня. Яна таксама мая стрыечная сястра. А Эрык — славутасць, кінаактор, які здымаецца ў Галівудзе. Млосны вечар. Сядзім у гасцёўні вялікага дома Джойс: родныя і стрыечныя, а лепш, як гаворыць дзядзька Саша, “усім прозвішчам”. Да мяне падыходзіць Таня, трэцца шчакою аб маю шчаку, кажа:

— Ра-а, можа, трошкі пройдземся... Тут такая тлумная гамана! Не пагаворыш.

І мы выходзім на прыцемненую Woodland. Роўненькі ланцужок прыватных дамоў. Роўненькія газоны перад імі. Няяркія ліхтары. Пад адным з іх Таня спыняецца. Бярэ маю руку ў сваю, у голасе сум.

— Ра-а, заўтра раненька мы з Эрыкам вяртаемся ў Лос-Анжэлес. У Эрыка — здымкі. Ён цяпер здымаецца ў Спілберга. Фільм будзе называцца “Каспер”. Спілберг не любіць, калі не з’яўляюцца на здымкі. Нам трэба ляцець! — яе голас робіцца зусім ціхім. — Ра, што мы можам для цябе зрабіць? Я... Я чытала ў газетах, што ў вас там... усё безнадзейна кепска. — Яна перахоплівае мой згаслы позірк і замаўкае. Потым зноў адзываецца. — Добра, Ра. Я не буду пра тое, што ў вас там... І ўсё ж! Усё ж, што мы можам для цябе зрабіць?

Цёплая хваля абдае мой твар. Ну, што можа зрабіць жонка галівудскага мільянера, хай сабе і сваячка, для вядомай беларускай пісьменніцы? Выключна нічога. Тут трэба альбо доўга смяяцца, альбо горка плакаць. І раптам мне штосьці цюкнула, нейкае хвіліннае жаданне.

— Таня, калі ты ўжо намерылася... Калі, сапраўды, хочаш штосьці зрабіць для мяне... Дык, ведаеш... А што?! Папрасі і прышлі аўтограф Спілберга. Чаму б і не? Цікава... Сусветна вядомы кінарэжысёр!

— Ра-а, — Таня сціскае маю руку. — Я хацела, як лепш. Ну, а аўтограф... Вядома... Я папрашу ў Стыва. Ніякіх праблем. О’кей. Ты атрымаеш ягоны аўтограф.

І я атрымала яго праз некалькі тыдняў ужо ў Мінску.

Гэты ўспамін расслабіў. Хочацца, як мага глыбей схавацца пад коўдру, каб нічога не чуць і не бачыць. Ні гэтых дзвюх літар за шклом, ні гэтага надрыўнага плачу. Так, я чую, як там, за акном плача Вася. Бедны Вася! П’яныя слёзы таксама могуць быць горкімі. На тое ў Васі ёсць усе прычыны. У Васі былі бацькі. У Васі была бабуля. Былі ў яго жонка і маленькі сын. А потым бабуля захварэла на сухоты і на некалькі месяцаў трапіла ў адпаведны дыспансер. І ў тым дыспансеры пазнаёмілася з такім жа семідзесяцігадовым, як і сама, хворым на сухоты. Больш таго, выйшла за гэтага хворага замуж. У жыцці можа быць і такое. Але той хворы большую палову свайго жыцця правёў у розных калоніях ды камерах папярэдняга заключэння. Толькі ж Васеву бабулю гэта не спалохала. Ёй хацелася шчасця. Звычайнага жаночага шчасця. І яна вярнулася з дыспансера дамоў разам з гэтым дзедам у сваю законную двухпакаёвую кватэру. Як яны жылі, што там адбывалася ў вялікай сям’і суседзяў, ніхто не ведае. Яны раптоўна замкнуліся ў сабе. Але неўзабаве не стала Васевых бацькоў, а потым памерла і сама бабуля. Ну, а маладзенькая Васева жонка разам з маленькім сынам некуды з’ехала. І Вася застаўся адзін, дакладней, адзін на адзін з гэтым... Не ведаю, як і сказаць, бо яго ніхто ніколі не бачыў, не размаўляў з ім, адно чулі ад Васевай бабулі, якая зрэдку любіла сядзець на лавачцы ля пад’езда: “Пайду, мой ужо, напэўна, злуецца. Трэба гатаваць абед. Мой прывык, каб роўна ў дзве гадзіны на стале стаяў суп. А я яму яшчэ і скварачку строю”. Цяпер, мабыць, гэтую скварачку строіць Вася. Мне яго шкада. Бедны Вася! Але, як даймаюць гэтыя ягоныя п’яныя ўсхліпы! Дзякуй Богу, ёсць коўдра. Я яшчэ паспяваю падумаць, што трэба было б усё-ткі штосьці напісаць маёй чытачцы і, далібог жа, засынаю...

— Дазвольце-дазвольце!.. Вы ўжо другі раз з’яўляецеся сюды! Я ж вам сказаў, вы не той тып жанчыны, які мне патрэбен!

— Містэр Спілберг, але я не наконт здымкаў! Я не хачу здымацца ў кіно. Я атрымала ваш аўтограф... Вы не памятаеце? З таго моманту гэта і пачалося, усё перавярнулася ў маёй творчасці... Я пішу не тое, што мне хочацца.

— Нічым не магу дапамагчы! — разводзіць рукамі Спілберг і на імгненне задумваецца. — Аўтограф? Я шмат каму даю аўтографы.

— Гэты ў вас прасіла Таня... Таня Айдл! Для мяне.

— Магчыма, — Спілберг падумаў і дадаў. — Я ўжо спазніўся. У мяне дамоўленасць з Хары...

— Хочаце сказаць з Харысанам Фордам, ага-а?! Ну і няхай пачакае Форд. Я глядзела “Храм лёсу” і ўсё астатняе... Але вашыя ініцыялы... Вашыя два “С”, яны ўплываюць на назвы маіх апавяданняў. Што гэта можа быць? Энергія вашага таленту ці штось іншае? Вы нейкім чынам уздзейнічаеце на мяне, скоўваеце маю ўласную творчую фантазію.

— Глупства! — кідае Спілберг і раптам у ягоным позірку з’явілася цікавасць. — Чаму вас не арыштавалі?! Няўжо вас не спыніў ніводзін паліцэйскі? Вы разгульваеце па Лос-Анжэлесе ў гэтым турэцкім вырабе амаль голая... Ці вы на аўтамабілі? Тады, дзе прыпаркаваліся? Я не чуў, каб сюды пад’язджаў аўтамабіль!

На мне сапраўды начная кашуля турэцкай вытворчасці, купленая на мінскім стадыёне “Дынама”, але як гэта я разгульваю?! І які можа быць аўтамабіль?!

— Містэр Спілберг... Вы чагосьці не разумееце. Я не разгульваю па Лос-Анжэлесе. Я сплю ў Мінску, у сваёй кватэры на праспекце імя газеты “Известия”. Ага-а, газеты... Вам не смешна, што хтосьці мой спальны праспект назваў газетай?

— Я зрэдку чытаю “Moscow News”, — хутка адказвае Спілберг. — Ваша газета мяне не цікавіць. Ды прыкрыйцеся вы, нарэшце! У крэсле плед... Я не магу глядзець на вашыя голыя ногі. Яны ў жахлівых дрыжыках.

— Не глядзіце! Ногі, як ногі. Мне проста трэба разабрацца, чаму ў назвах маіх апавяданняў вашыя “С”? Дарэчы, вы нават не запыталіся, што ў мяне ў руках? А гэта штотыднёвікі... Ага-а... “Літаратура і мастацтва”, містэр Спілберг! Газета нашай творчай інтэлігенцыі. Якраз у ёй усе гэтыя апавяданні і надрукаваны. Можаце паглядзець! “Санаторый смерці”, “Сненні стомленага Сенечкі”, “Сіні сандалет”... — і я шпурляю штотыднёвікі на ягоны пісьмовы стол. Але Спілберг не звярнуў на іх ніякай увагі. Ён глядзіць на мае голыя ногі.

— Дзе ваш абутак?! Паслухайце... А, можа, вас абрабавалі? Дык гэта вашыя! Угу-у, яны самыя! Цяпер у Амерыцы разбоі ўчыняе руская мафія.

— Містэр Спілберг, я — беларуска... Я не маю ніякага дачынення да рускай мафіі!

— Добра! Вы — беларуска і вы жывяце ў Айдлаў? Вы іхняя сваячка, та-ак?! Эрык і Таня ў Каліфорніі. У Эрыка там здымкі і вы тут сабе дазваляеце...

— Божачкі, містэр Спілберг! Дзе “тут”?! Якое можа быць “тут”! Ну калі да вас нарэшце дойдзе! Я не жыву ў Айдлаў, мяне ўвогуле няма ў Лос-Анжэлесе! Я сплю! Сплю ў сябе ў Мінску...

— А вы, часам, не наркаманка? Які Мінск? Які сон?! Даруйце, мне гэта ўсё пачынае надакучаць! Мяне ўжо паўгадзіны чакае Хары. — І Спілберг пачынае кудысьці тэлефанаваць, набірае нумар за нумарам і ўсё не тое. Ён нервуецца і злуецца, але, нарэшце, некуды датэлефанаваўся... Ну, вядома, да Айдлаў! Як гэта я не здагадалася адразу, а Спілберг ужо працягвае мне трубку, маўляў, размаўляйце!

— Але-е, — няўпэўнена прамаўляю я і адразу ж пазнаю голас стрыечнай сястры.

— Ра-а, — Таня хвалюецца і абвальвае на мяне суцэльны вадаспад пытанняў. — У цябе нейкае падарожжа? Чаму ты не папярэдзіла?! Ты даўно ў Лос-Анжэлесе?! Стыў кажа, што ў цябе, напэўна, узніклі праблемы?! Толькі не адчайвайся, Ра-а, прашу цябе! Стыў завязе цябе да нас, ты не супраць? Я зараз скажу яму. Ён возьме ключы ў нашых агульных знаёмых. У доме ты знойдзеш усё, што табе патрэбна: абутак, адзенне... Прымераеш, штосьці табе абавязкова падыдзе. Пашукай у шафах. Ага-а, грошы! Ра-а, у цябе ёсць грошы? Я папрашу Стыва... Ён дасць табе, колькі трэба. Мы пасля яму вернем. Не саромся! Ра-а, абавязкова патэлефануй у Чыкага... Ра-а... Ра-а!. Я не чую цябе!

— Таня, перадыхні! Ты мяне проста ашаламіла... Якое падарожжа? Якія грошы?! Мяне няма ў Лос-Анжэлесе. Я сплю ў сваёй кватэры ў Мінску. І хутка прачнуся. Вось-вось... Зараз... Я ўжо прачынаюся. Напэўна, днее... Мне чуецца знаёмае пазвоньванне. Гэта — Вася, Таня. Мой сусед Вася. Ён збірае парожнюю тару пад вокнамі...

— Ра-а, які Вася? Якая та-ара?! Перадай трубку Стыву...

І я не паспяваю перадаць трубку Спілбергу. Я расплюшчваю вочы. Сапраўды, ужо днее. Ах, Вася, Вася, як не да часу ён з’явіўся пад маім балконам! Калі б не звон ягоных бутэлек, я, напэўна, праехалася б са Спілбергам па Лос-Анжэлесе, пабыла б у Таніным доме і Бог ведае дзе яшчэ! Але што не дадзена, тое не дадзена і, калі ўжо я прачнулася, трэба ўставаць. Зараз жа выйду на балкон і як след паўшчуваю Васю. Але нехта мяне апярэджвае.

— Вася! — чуецца за акном жаночы голас. — Ва-ася!

— А-а, спадарыня Сенечкава! Вы таксама выйшлі?! У вас таксама безграшоўе?! Спазніліся, шаноўная... Доўга спіцё! Я ўжо тут усё пазбіраў!

— Цяпер ва ўсіх безграшоўе, Вася. Але я не збіраю бутэлькі, я шукаю свайго Сенечку. Уяўляеш, Вася, ён не начаваў сёння дома. Сеню даймаюць сны. Жахлівыя сны, Вася! Ты памятаеш, у нас быў цюцька... Такі рудзенькі, калмаценькі... Мы і звалі яго Рудзік. А Сенечка вяртаецца з працы стомлены — стомлены і галодны, Вася. Заўжды галодны. І я пакідаю яму ў халадзільніку сасіску. І вось тую сасіску, Вася, дзеці скармілі Рудзіку. Сеня, вядома, раззлаваўся, Сеня быў вельмі стомлены... І ён вывез Рудзіка за горад... Выпусціў з машыны і паехаў... А Рудзік бег за нашым “Масквічом”, бег, бег... А потым, раптам, з-за павароткі выкаціў вялізны “МАЗ”, Вася. Сенечка ўсё гэта бачыў у бакавое люстэрка... І адвярнуўся. А калі зноў паглядзеў, Рудзіка ўжо не было, Вася. Была рудзенькая плямка на асфальце. Ва-ася, цяпер усё гэта Сенечка штоночы бачыць у сваіх снах... Але гэта, Вася, ужо не Рудзік бяжыць за нашым “Масквічом”, гэта бяжыць сам Сенечка ў выглядзе Рудзіка... І ён бачыць той “МАЗ”, і ведае, што вось зараз, зараз і здарыцца тое... І застанецца толькі рудзенькая плямка... І Сенечка падхопліваецца, і ён увесь дрыжыць, Вася, і абліваецца потам. Я схіляюся да яго, я пытаюся: “Сенечка, Сеня, што здарылася?!” І ён мне адказвае: “Га-аў! Га-аў!” Гэта так страшна, Вася-я, так страшна, калі ты пытаешся, што здарылася, і табе адказваюць: “Га-аў!”

— Во-о, даюць! — ускрыквае Вася. — Бля-я... Толькі зірніце! Вунь з таго акна, з сёмага паверха, пятая пляшка ўжо вылятае! Ну і народ! От-т, д-дае! От-т, жлукціць! Відно, добра сядзяць хлопцы!

— Ва-ася, ты мяне паслухай, Вася! Я ведаю... ты ж закадзіраваны. Усе ведаюць... У цябе ёсць паперка. Ты і мне паказваў: на ўсё жыццё! Дык скажы мне, Вася, ці можна закадзіравацца ад сноў?!

Мне гэта чуць нецікава. Мне толькі вельмі шкада Рудзіка, і я ўстаю з ложка. Мімаходзь азіраю сябе ў люстэрка. І як гэта Спілберг вызначыў, што на мне акурат турэцкі выраб? Самая што ні ёсць звычайная кашуля! “Чаму вас не арыштавалі? Няўжо вас не спыніў ніводзін паліцэйскі?!” — чамусьці ўспомніліся ягоныя словы. Вось яна, хвалёная амерыканская дэмакратыя! Але чаго толькі не прысніцца! Вунь сусед Сенечка пасля сваіх сноў гаворыць: “Га-аў!” Зараз пайду, зраблю ранішнюю каву, а пасля пачну будзіць сваіх сямейнікаў. І калі, нарэшце, усе разыдуцца, можна будзе сесці за пісьмовы стол. Хаця ахвоты ніякай, амаль высільваю з сябе чарговае апавяданне “Сямейны спектакль Сякеркаў”. Вядома, што ні сям’я, то свой спектакль, але бы хтосьці падкінуў мне сюжэт і, зноў жа, гэтыя “С” у назве... Ну, Спілберг, Спілберг!

Але тою раніцай сесці за пісьмовы стол мне не давялося. Было шмат неабавязковых тэлефонных званкоў. Гэта выводзіла з сябе і раздражняла. Заставалася адно: адключыць тэлефон, што

*(Працяг на стар. 12)*

шурамі, часопісамі па спецыяльнасці. Усё гэта вельмі спатрэбілася для працы, якой у Мінску аказалася, як кажуць, вышэй вушэй.

Першым мінскім экзаменам на сталасць была для палескага хлопца праца балетмайстра-пастаноўшчыка Беларускай дзяржаўнай філармоніі з ансамблем "Свята". Тут ён ажыццявіў свае новыя харэаграфічныя пастаноўкі: "Лядзецкая полька", "Лапці мае", "Народныя замалёўкі" і іншыя, якія атрымалі высокую адзнаку гледача. Пры Мінскім абласным навукова-метадычным цэнтры М. Котаў стварыў народны ансамбль песні і танца "Кола". Паспрыяла творчаму росту М. Котава цеснае супрацоўніцтва з Беларускім саюзам фалькларыстаў, з яго старшынёй Васілём Ліцвінкам.

Многія фальклорныя гурты адчулі творчую дапамогу Мікалая Конанавіча. Напрыклад, у рэпертуары Морацкага фальклорнага гурта Клецкага раёна з'явілася ўпадабаная гледачамі харэаграфічная пастаноўка "Марачаначка", новыя цікавыя пастаноўкі — у народным хоры "Пачастунак" Слуцкага мясакамбіната, у роднай Тураўскай "Прыпяці", Рудзенскім народным ансамблі "Крынічанька", церабяжоўскім гурце Столінскага раёна. Папрацаваў М. Котаў і як педагог-рэпетытар — у Беларускай акадэміі мастацтваў, універсітэце культуры, у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, Дзяржаўным цырку. Знаходзіць час, каб наведаць агульнаадукацыйныя і школы-інтэрнаты, дапамагчы іх танцавальным фальклорным гуртам. А яшчэ ўдзельнічае ў падрыхтоўцы тэлеперадач, звязаных з харэаграфіяй народных і абрадавых танцаў, пастановак. Гэта і "Залатыя ключы", і "Запрашаем на вячоркі"...

Няўрымслівы таленавіты чалавек заўсёды ў творчым пошуку. Таму і стварыў у 1996 годзе ў Мінску з дапамогай беларусаў Амерыкі (у прыватнасці, Фундацыі імя Пётры Крычэўскага ў асобе доктара гістарычных навук Янкі Запрудніка і яго жонкі Надзі, прадпрымальніка Жоржа Навумчыка, Стасі Сумскіх, Сцяпана Мядзвядок, Стэфані Міровіч, Лізы і Лёні Літаровічаў, Луіз Колі, сям'і Дубягаў і многіх іншых) першы на Беларусі тэатр абрадавага фальклору пад назвай "Бераг белых буслоў". А ў канцы 1997 года (з дапамогай той жа Фундацыі імя Пётры Крычэўскага) выдаў сваю невялікую кніжку сцэнарыяў народных абрадавых святаў беларусаў "Закукуй, зязюленька", у якой з замілаваннем і любоўю апісвае найпрыгажэйшыя народныя абрады, што захаваліся да сёння на родным яму Палессі.

"Бераг белых буслоў" на чале з Міколам Котавым... Тры гады — невялікі тэрмін для гісторыі тэатра, але яго ведаюць ужо многія мінчукі — ад навучэнцаў да пажылых людзей. Як гаворыць сам кіраўнік, гэта тэатр дзяцей і дарослых, што добра відаць нават паводле складу ўдзельнікаў. У ім — таленавітыя браты Золатавы, Арцём і Аляксей, навучэнцы сярэдняй школы. Яны дасканала валодаюць скрыпкай, клавесінам, барабанам. І — мастацкім чытаннем. З двума ўнукамі спрычынілася да тэатра артыстка-пенсіянерка Раіса Канстанцінаўна Пупко. Усе яны спяваюць, а ўнукі яшчэ і танцуюць. З "Берагам белых буслоў" супрацоўнічаюць знаны саліст Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча Аляксандр Крамко, спявачка і танцорка Ніна Мароз, гарманіст Саша Драніч.

...Увесь той дзень проста на вуліцы працягвалася свята праводзінаў зімы і сустрэчы вясны. Трэба было трымаць многія сотні ўдзельнікаў і гледачоў у цэнтры сваёй увагі, весяліць і забаўляць іх. Зрабіць цікавым іх вольны час. І ў той жа вечар, нягледзячы на стомленасць, Мікола ўзяўся за працу над чарговай пастаноўкай, прысвечанай святу "Вялікдзень", задумаўся і над падрыхтоўкай да 35-годдзя свайго найлюбімейшага дзіцяці — ансамбля "Прыпяць". Зрэшты, пра ўсё, што задумвае, зрабіў і робіць нястомны збіральнік і захавальнік фальклорных, найперш харэаграфічных, традыцый, расказаць, бадай, немагчыма. Дзіва што: на яго асабістым творчым рахунку больш за сто аўтарскіх пастановак, каля паўтары тысячы канцэртаў у розных кутках краіны і за яе межамі!

"У яго — самабытны прыродны талент. Ён — дзіця палескай прыгажосці. Таму яго пастаноўкі натуральныя і паўнакроўныя", — адзначае прафесар, доктар мастацтвазнаўства Ю. Чурко. "Ён дасканала валодае таямніцамі мастацтва народнага танца. Гэта дае яму магчымасць не парушаць гармонію і першародную чысціню", — дадаў галоўны балетмайстар Акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча В. Варановіч. "Адметная яго рыса: як мага больш назапасіць фальклорнай спадчыны — асновы для стварэння непаўторных, яркіх харэаграфічных малюнкаў на сучаснай сцэне", — мяркуе мастацкі кіраўнік і галоўны балетмайстар ансамбля "Харошкі" В. Гаявая. А мастацкі кіраўнік ансамбля "Свята" В. Купрыяненка вылучае незвычайную харэаграфічную лексіку Котава, яго паважлівыя адносіны да аўтэнтыкі і ўдумлівасць пры адборы мастацкіх фарбаў даўніны, што робіць пастаноўкі запамінальнымі, адметнымі.

Усе гэтыя людзі ў свой час былі яго настаўнікамі і станоўча паўплывалі на творчае развіццё М. Котава.

Пра далейшыя планы Мікалай Конанавіч распавядае коратка: працягваць працу над удасканаленнем выканаўчага майстэрства тэатра "Бераг белых буслоў", падтрымаць "юбіляра" — тураўскі народны ансамбль танца "Прыпяць", дапамагаць танцавальным фальклорным гуртам у павышэнні іх майстэрства.

Даўняе сяброўства звязвае яго з добра вядомым нашым збіральнікам народных мастацкіх скарбаў Міколам Макарцовым. Іх творчыя дарогі, як піша мне ў лісце Мікалай Конанавіч, перакрыжоўваюцца ўсё жыццё. Разам рыхтавалі і праводзілі масавыя народныя святы, канцэрты. "Цяпер, — піша М. Котаў, — я прапанаваў Макарцову ставіць разам са мной казку ў тэатры імя Янкі Купалы. Думаю, што ў нас атрымаецца".

Новых творчых поспехаў!

**Людміла МЕЛЬНІКАВА.**

---

незвычайна лёгкім і адначасова выкананым з моцных, дарагіх матэрыялаў і высакародных металаў.

Сцэнаграфія "Князя Вітаўта" здаецца кранальна-адухоўленай, надзеленай жывой трапяткой душой, нягледзячы на ўсю складанасць інжынернай канструкцыі дэкарацыі. Высакародныя аблічча святых, застылыя ў цёмных змрочных аканіцах, спакойна і пільна глядзяць на тое, што адбываецца навокал і па-свойму беражліва захоўваюць тое сапраўднае і чалавечае, што павінна не памерці і застацца ў памяці стагоддзяў.

Касцюмы персанажаў спектакля ўдала спалучаюцца з колеравай гамай мастацкага афармлення. Усе яны па-майстэрску выкананы, пачынаючы ад раскошных убораў каралевы Ганны, князя Вітаўта і іншых вяльмож і заканчваючы простым адзеннем прыслугі і сялян. Натуральныя тканіны і ўпрыгожанні сёння, напрыканцы XX стагоддзя, ізноў вяртаюцца на сцэну і становяцца своеасаблівым адкрыццём, прыводзяць у захапленне сучаснага гледача, які даўно ўжо адвык ад падобных празмернасцей.

У спектаклі В. Раеўскага і Б. Герлавана з'яўляюцца адухоўленымі не толькі прадметы і сцэнаграфічныя дэталі, але жывой, дыхаючай становіцца і сама прастора, у якой існуюць героі "Князя Вітаўта". Яна ўвасабляе ў сабе той далёкі, цудоўны і жорсткі час, які мы сёння з сумам і зацікаўленасцю згадваем і разгадваем.

У да непрытомнасці высокай герлаванаўскай прасторы прыгожыя далёкія ад нас людзі здаюцца такімі маленькімі! Маленькімі, але ні ў якім разе не нікчэмнымі. Маленькія і адначасова — значныя... У гэтай шматзначнасці, унікальнасці і непаўторнасці чалавечых фігур і праяўляецца прафесійная мудрасць Барыса Герлавана.

— Мы ўжо шмат год працуем з Валерыем Раеўскім і шмат год ідзём насустрач адзін аднаму. З ім цікава працаваць, хаця і не заўсёды лёгка, таму што патрабавальны і прынцыповы рэжысёр. Мне даводзілася працаваць і з іншымі рэжысёрамі — Барысам Луцэнкам, Барысам Эрыным... Тут часцей за ўсё даводзілася сутыкацца з творчымі непаразуменнямі. Так, напрыклад, п'есу чытае рэжысёр і сцэнограф. Яны розныя людзі і ў іх могуць быць розныя задумы. Бываюць несупадзенні. Здараецца і так, што рэжысёр не тое што не разумее, хутчэй, не бачыць нават самую лепшую задуму мастака-пастаноўшчыка. І гэта самы горшы варыянт творчых узаемаадносін. У такім выпадку рэжысёр проста выкарыстоўвае мастака. Яму неабходны выканаўца, а не сааўтар яго задумы. На шчасце, пры стварэнні спектакля, у нас з Валерыем існуе, як мне здаецца, псіхалагічная сумяшчальнасць. І гэта з'яўляецца першаступенным у рабоце. Хаця былі і такія выпадкі, калі Раеўскі не прымаў мае прапановы, якія я і да сённяшніх дзён лічу вельмі ўдалымі, і мне іх усё яшчэ шкада. Шкада, што яны засталіся нерэалізаванымі. Даводзілася рабіць нейкі варыянт, які, на мой погляд, быў не лепшым. Але такі ўжо закон тэатра — рэжысёр з'яўляецца аўтарам спектакля. І гэта нельга перайначыць...

У кожнай новай тэатральнай рабоце з асаблівай увагай назіраю за маладымі сцэнографамі, рэжысёрамі, акцёрамі. У тэатры павінен ісці пастаянны пошук, тады ён будзе заўсёды цікавы свайму гледачу. У Купалаўскім тэатры з поспехам ідуць спектаклі: "Крывавая Мэры" і "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча". Яны створаны няўрымслівым, энергічным сярэднім пакаленнем купалаўцаў. Гэта таксама іх пошук.

...Каардынаты Сусвету Барыса Герлавана нельга вызначыць дзесьці ў канкрэтным месцы. Яны выходзяць далёка за межы Купалаўскага тэатра і купалаўскай сцэны, звычайнага зямнога існавання. І, магчыма, яшчэ не адно дзесяцігоддзе будуць імкнуцца ў недасягальную касмічную прастору.

**Веранiка ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

---

# Турботы і клопаты

## НАТАТКІ З НАГОДЫ ПРАВЯДЗЕННЯ МІЖНАРОДНАГА ДЗІЦЯЧАГА ПЛЕНЭРУ

Міжнароднаму дзіцячаму пленэру споўнілася пяць год. Але з гэтым юбілеем павіншавалі сябе толькі самі арганізатары, кіраўнікі студый, бацькі, юныя ўдзельнікі.

Мы можам з чыстым сэрцам пахваліцца дасягненнямі. За пяць год у працы пленэру паўдзельнічала каля 200 дзяцей з розных куткоў Беларусі, а таксама госці з Арменіі, Украіны, Малдавіі, Балгарыі, Германіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Расіі. Выйшла чатыры каталогі, якія не маюць аналагаў на постсавецкай прасторы, прайшлі выставы ў Нацыянальнай мастацкай галерэі пры СМ Беларусі. Мы прысвячалі нашы пленэры значным сусветнавядомым асобам — М. Шагалу, А. дэ Сэнт-Экзюперы, А. і М. Рэрыхам, М. Чурлёнісу, К. Малевічу. Наступны, шосты пленэр мы мяркуем прысвяціць Ф. Скарыне, які знакавая постаць для беларускай культуры, але якога многія з нас ведаюць вельмі павярхоўна.

Але пяць год — крытычны ўзрост. Напрыклад, прыхільнікі мастацтва памятаюць дзіцячыя фестывалі "Я люблю балет", арганізаваныя ў Мінскім харэаграфічным каледжы яго былым дырэктарам Л. Каробкінай. На іх прыязджалі ўдзельнікі не толькі з краін СНД, Прыбалтыкі, але і з Кітая, Японіі, Італіі, Францыі, Афрыкі. У каледжы наладжваліся музычныя вечарыны, паэтычныя сустрэчы, мастацкія выставы. На жаль, фестывалі, не атрымаўшы падтрымкі дзяржавы, перасталі наладжвацца, а заяўкі ідуць дасюль...

У свеце такая форма абмену вопытам, як пленэры, існуе ўжо не адно дзесяцігоддзе і паспяхова развіваецца. Гэта натуральна, бо мастаку аплачваецца дарога, матэрыялы, стыпендыя. У Беларусі першы жывапісны пленэр правёў М. Бушчык, першым "афіцыйным" пленэрам стаў пленэр М. Шагала ў Віцебску. Наш дзіцячы пленэр таксама быў першым у 1995 г. На наступны год на нашым вопыце адбыўся дзіцячы пленэр імя І. Рэпіна ў Віцебску, пасля рэспубліканскія дзіцячыя пленэры ў Гродне, Бабруйску, асобныя гарадскія і абласныя. У кожнага з іх — свае задачы, галоўнае, што быў запалены агеньчык дзіцячага мастацтва.

Здаецца, задача гэтая высакародная. Але прайшло пяць пленэраў, а нам не стала лягчэй іх арганізоўваць. Кожны год я нібы зноў іду на Галгофу. Першы пленэр цалкам аплачвалі спонсары, у правядзенні другога, выданні каталога дапамагло Міністэрства культуры і асабіста былы міністр культуры А. Бутэвіч. На жаль, сёння адносіны Міністэрства культуры да нас пагоршыліся. Пры падрыхтоўцы, напрыклад, апошняга пятага пленэру, мы звярнуліся да Міністэрства культуры з просьбай аплаціць нам толькі харчаванне, прычым гэта акцыя ўвайшла ў план іх асноўных мерапрыемстваў на 1999 г. Сума пры параўнанні з арганізацыяй Славянскага базару — мізэрная. Але падпісаны У. Рылаткам ліст ішоў да выканаўца з 6-га на 3-ці паверх чатыры дні, а грошы былі пераведзены толькі праз тры дні пасля пачатку пленэру. З-за гэтага наша мерапрыемства магло б і не адбыцца, бо гасцей адмаўляліся прымаць да атрымання сродкаў. На жаль, да пленэраў адносяцца як да майго асабістага хобі, ці яшчэ горш — як да нікому, акрамя мяне, не патрэбнай акцыі.

Але ж дзеці так палюбілі нас, што дасылаюць свае заявы задоўга да афіцыйна разасланых умоваў конкурсу. Выкладчыкі, мастакі аддаюць маладому творцу, які яшчэ не адбыўся і, магчыма, ніколі не адбудзецца, свой час і намаганні. Свет трымаўся і будзе трымацца на энтузіястах.

Усе гэтыя пяць год побач з намі былі Саюз мастакоў, Міністэрства адукацыі, Беларускі дзіцячы фонд. Мінскі мастацкі камбінат, рэстараны "Бергама", "Канстанцін", "Араб-снек" і абавязкова Беларускі Народны Банк, які дапамагае апошнія гады выдаваць каталогі пленэраў. Аказвае дапамогу і спецыяльны фонд прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі, Міжнародная канфедэрацыя мастакоў.

Усім вядома, што адносіны дзяржавы да культуры далёка не ідэальныя. Але ж... Вось ужо тры гады Саюз мастакоў дасылае ў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, у Савет Міністраў лісты з прапановаю стварыць музей дзіцячага выяўленчага мастацтва. Менавіта музей, а не галерэю. Галерэя мусіць быць натуральнай пры кожным цэнтры дзіцячай творчасці, пры кожнай школцы. Толькі наш пленэр адкрыў тры такія галерэі. Творы дзяцей з розных краін свету мы падаравалі дзіцячаму санаторыю "Астрашыцкі гарадок", Дзіцячаму дому N 4 Мінска, Рэабілітацыйнаму цэнтру "Надзея". Астатнія работы захоўваюцца ў галерэі "Калібры". У музея павінна быць іншая функцыя — павінна весціся навуковая праца па вывучэнні феномена дзіцячай творчасці і яе развіцці.

Так і не спраўдзілася мара — стварыць дзіцячы музей — вядомага беларускага дзіцячага педагога Сяргея Каткова. У яго дачкі дасюль захоўваюцца работы яго вучняў, многія з якіх сталі цяпер вядомымі мастакамі. У гэтых работах — гісторыя нашай краіны, пасляваеннае будаўніцтва, новыя мікрараёны Мінска. Змяняюцца тэмы, змяняюцца і матэрыялы — ад лістоў сшыткаў да ватмана, ад звычайнага алоўка да акрылавых фарбаў. Пасля прэс-канферэнцыі БСМ, на якой былі адказныя асобы з міністэрстваў, з упраўлення адукацыі, з Нацыянальнага цэнтра творчасці, з раённых цэнтраў, кіраўнікі мастацкіх гуртоў, дзе, дарэчы, таксама назапашваецца на паліцах мноства малюнкаў — думкі не разыходзіліся ў неабходнасці стварэння музея. А пасля публікацыі матэрыялаў у друку мы атрымалі шмат званкоў ад дзяцей з пытаннем, куды дасылаць малюнкі...

Але пакуль, акрамя "замкнёнага кола" — чыноўніцкіх "спіхванняў" з міністэрства ў міністрэства і адпісванняў, мы не атрымалі нічога пэўнага. Нашу ініцыятыву, і за гэта яму вялікі дзякуй, падтрымаў толькі галоўны архітэктар горада А. Чадовіч, але толькі маральна. Па статусе музей павінен быць на балансе Міністэрства культуры, але міністэрству ён непатрэбны. Саюз мастакоў атрымаў ліст за подпісам міністра культуры, што стварэнне такога музея — справа несвоечасовая. Але ж мастакі, выкладчыкі ўпэўнены ў неабходнасці існавання такога музея. Дык хто вырашыць гэту невырашальную праблему?

Недалёка мы даедзем у XXI стагоддзі на возе шоу-бізнесу, у якім ад высокай культуры і нацыянальных каранёў засталіся толькі што этнаграфічныя стужачкі. БСМ спрабаваў праводзіць маладзёжную выставу "Час. Прастора. Асоба", выводзячы там на першы план канцэптуальнае мастацтва, вясною правёў першую выставу-семінар сучаснага маладога мастацтва з дапамогаю Дзяржкамітэта па справах моладзі, Канфедэрацыі творчых саюзаў, нават Міністэрства культуры парупілася выдзеліць аўтобус. Але вынік усіх нашых намаганняў не адстаць ад сусветнай культуры часта бывае несуцяшальны...

Арганізацыяй пленэраў мы таксама намагаемся вывесці дзяцей па-за межы адной педагагічнай сістэмы, даць ім магчымасць пашырыць межы свайго разумення свету і мастацтва,ператварыць рамяство ў творчасць, свабоднае мысленне. І часта выкладчыкі распавядаюць, што юны мастак, адзін раз пабываўшы на пленэры, мяняецца, раскоўваецца, сапраўды стварае свой мастацкі свет.

Нам пяць год — дзіцячы ўзрост. А намі ўжо апанавалі сапраўдныя праблемы — абыякавасць і бюракратыя.

**Ірына КУЗНЯЦОВА,**
**рэферэнт БСМ па працы з дзецьмі і моладдзю**

## З душой паэтычнаю

ЛЮДМІЛЕ ЗАБАЛОЦКАЙ — 50



**Першая кніга паэзіі Людмілы Забалоцкай называлася "Сакавік". Выйшла яна ў 1974 годзе, калі паэтэса заканчвала філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. А перад гэтым (нарадзілася 27 снежня 1949 года ў горадзе Крычаве) скончыла Крычаўскае медыцынскае вучылішча, паспела папрацаваць карэспандэнтам чавускай раённай газеты "Іскра". Ды любоў да слова, да літаратуры, а калі канкрэтней — да паэзіі перамагла. Ды і як жа інакш, калі душа ў Л. Забалоцкай па-сапраўднаму паэтычная, акрыленая, а вершы так і просяцца на паперу. Таму і першую кнігу яна назвала менавіта так — "Сакавік". Сакавік — гэта вясна, абуджэнне прыроды, самыя светлыя думкі і парыванні. Гэтым і былі напоўнены многія вершы паэтэсы. А яшчэ з самага пачатку сваёй творчасці Л. Забалоцкая пісала пра любоў да родных краявідаў, апявала душэўную прыгажосць людзей, якіх ведала. Не абыходзіла яна і балючай тэмы — памяці пра Вялікую Айчынную вайну. Падобныя творы можна знайці і ў такіх кнігах Л. Забалоцкай, як "Радаводны васілёк", "Святло палыну"... Такая паэзія яе — лірычна-прасветленая, жыццёва-напоўненая, роздумна-засяроджаная. А лірычная гераіня Л. Забалоцкай — наша сучасніца, якая жыве, кахае, гадуе дзяцей і, як кожны чалавек, імкнецца да лепшага.**

**З поўднем веку, шаноўная Людміла Васільеўна! З Новым годам вас і з новымі жыццёвымі і творчымі поспехамі!**

## З глыбокім веданнем

ВАЛЯНЦІНЕ СМЫКОЎСКАЙ — 60

**Валянціна Іванаўна — з тых шчасліўчыкаў, для каго Новы год заўсёды супадае з днём нараджэння. Цяпер жа свята для В. Смыкоўскай — двайное. Уступаючы ў год 2000-ы, яна адзначае свой чарговы круглы юбілей. Нарадзілася ж Валянціна Іванаўна ў вёсцы Міхалкі Мазырскага раёна ў сям'і настаўнікаў. Давялося вучыцца ў некалькіх школах, але сярэднюю адукацыю атрымала ў той, якая працавала ў роднай вёсцы. У 1957 годзе В. Смыкоўская паступіла на філалагічны факультэт Мазырскага педагагічнага інстытута, які скончыла ў 1962 годзе. Пасля свой лёс звязала з тагачасным Гомельскім педагагічным інстытутам, а цяперашнім Гомельскім дзяржаўным універсітэтам. Была старшым лабарантам, працавала выкладчыкам, старшым выкладчыкам. З 1979-га — дацэнт. У 1973 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме "Палеская хроніка" І. Мележа. Творчая задума і яе мастацкае ўвасабленне". З артыкуламі і рэцэнзіямі Валянціна Іванаўна выступае ў друку з 1963 года. Даследуе сучасную беларускую літаратуру, асаблівую ўвагу ўдзяляючы творчасці народнага пісьменніка Беларусі І. Мележа. У 1976 годзе ў яе выйшла кніга "Творчая канцэпцыя пісьменніка. Задума і яе мастацкае ўвасабленне ў "Палескай хроніцы" І. Мележа". В. Смыкоўская з'яўляецца аўтарам шэрагу дапаможнікаў і навукова-метадычных распрацовак.**

**Віншуем Валянціну Іванаўну з юбілеем! Зычым новых жыццёвых і творчых поспехаў!**

## Тут любяць творцаў

**У санаторыі "Алеся", што ў Іванаўскім раёне, адпачываюць не толькі хлебаробы з усёй Беларусі, хоць ён і належыць ім, але і дзеячы літаратуры і мастацтва. А творцаў тут любяць. Загадчыца бібліятэкі Марыя Пятроўна Міневіч, у прыватнасці, заўсёды ладзіць сустрэчы з літаратарамі, што адпачываюць у санаторыі. Вось і нядаўна быў праведзены творчы вечар пісьменніка з Гомеля Анатоля Бароўскага. Празаік прачытаў свае творы, адказаў на шматлікія пытанні.**

**У бібліятэцы санаторыя, вядома ж, засталіся і кнігі з аўтографамі пісьменніка.**

**Ігар ЛЯСНЫ**

## "ЛіМ"-ФОТА



*БУДНІ "ЖРЫЦЫ АШВІНАЎ".*

*Вольга ІПАТАВА ў вёсцы Заазёрная, верасень 1991 года.*

*Фота А. КАЛЯДЫ.*

# АЎТОГРАФ АД СПІЛБЕРГА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

ўжо рабіла неаднойчы. Але тады пачнуць з'яўляцца думкі, а раптам штосьці пільнае, выключна неадкладнае, ды і свае ж хатнія... У любы момант можа патэлефанаваць муж: "Ты не забылася, што ў мяне канчаюцца цыгарэты?" Альбо: "А ці ёсць у нас там гарбата?" І трэба бегчы па цыгарэты і па гарбату... І які ўжо пісьмовы стол! Хочаш мець сямейны камфорт, дык сама яго і арганізоўвай. Вось і зноў хтосьці звоніць...

— Але-е-е...

— Ра-а?! Ты-ы?! Ра-а, гэта сапраўды ты?! Што ж адбываецца, Ра? — Таня ажно захлёбваецца ад узбуджанасці. — Стыву даводзілася здымаць рознае, але ў жыцці, Ра-а, яму давялося пабачыць штосьці такое ўпершыню! Ра-а, Стыў не ведае, што і думаць?! І мы з Эрыкам таксама! Стыў кажа, ты знікла... Стаяла перад ім і знікла, бы растала... Я адразу жператэлефанавала Стыву, і ён гэта ўсё сказаў... Ён аглушаны! Ён у вялікім недаўменні! Ра-а, дык што ж гэта?! Як ты магла апынуцца дома?! Ты ж была ў Стыва ў Лос-Анжэлесе... Мы размаўлялі...

— Ага-а, была... Але, даруй, адкуль ты ведаеш пра гэты мой сон? — пытаюся я і сама міжволі пачынаю хвалявацца, спрабуючы ўнікнуць у ейныя словы, у тое, што яна мне тут наказала.

— Ра-а, які сон? Не заблытвай усё да канца. Ты была ў Стыва і за гэтым штосьці хаваецца. Уявіць немагчыма, але гэта ўсё праўда, Ра-а! Я ледзь стаю на нагах, мяне ўсю калоціць! Эрык дае мне нейкія кроплі...

— Таня, супакойся... Мы з табой маглі бачыць аднолькавы сон. Мы ж свякі... У свякоў такое бывае!

— Глупства! Я, дзякуй Богу, яшчэ пры сваім розуме... Я не звар'яцела, Ра-а. Стыў сказаў, што ты нават пакінула ў яго нейкія свае газеты. Што там надрукаваны твае апавяданні, і ён не ведае, што з імі рабіць цяпер?!

І тут я не вытрывала, нервовае напружанне лопнула. Я проста ўзарвалася:

— Як гэта Стыў Спілберг, вялікі кінарэжысёр стагоддзя, не ведае, што рабіць з апавяданнямі, якія нейкім чынам трапілі да яго?! Няхай не будзе атлусцелым снобам! Няўжо ў яго няма элементарнай цікавасці: а што ж там, у той маленькай еўрапейскай краіне, адбываецца? А якая там культура, мастацтва, літаратура, нарэшце?! Хай возьме і прачытае...

— Як ён гэта можа зрабіць, Ра-а?

— Звычайна! У Амерыцы поўна нашых. Дык няхай расшукае англамоўнага беларуса... І ніякіх праблем з гэтымі апавяданнямі...

І я замаўкаю: "А пра якія гэта апавяданні я ёй тут распавядаю?! Тыя штотыднёвікі, у якіх яны надрукаваны, ляжаць на паліцы над маім пісьмовым сталом". І я гляджу на паліцу, і не бачу ніякіх штотыднёвікаў. Там, дзе яны яшчэ ўчора ляжалі, стаіць статуэтка нейкага кітайскага мудраца. Дык, сапраўды, што ж гэта такое робіцца? Мне стала цяжка дыхаць.

— Ра... Ра-а... Не маўчы!

— Ну што, не маўчы?! Што?! На паліцы няма штотыднёвікаў, і гэта ўжо сапраўдны абсурд. Фантасмагорыя! А ўсё... Усё ўпіраецца ў гэты злашчасны аўтограф! Ва ўсім вінаваты сам Спілберг. З ягонага аўтографа ўсё пачалося... Гэты аўтограф атручвае маё жыццё!

— Ра-а, дык чаго ты?! Супакойся... Калі ў цябе такія вялікія праблемы з аўтографам Стыва... Парві! Вазьмі і парві яго! Гэта ж так проста! Стыў не пакрыўдзіцца. Ён і ведаць пра гэта не будзе.

І я ўжо не слухаю Таню. Мне карціць як мага хутчэй падысці да кніжнай шафы, выцягнуць з-за шкла тую прыгожанькую паштоўку, і, няхай мне даруе мастак Пецэр Северын Кройер, разарваць ягоны "Летні вечар на Біч" на драбнюсенькія шматкі... Што я, вядома, і зрабіла, як толькі развіталася са стрыечнай...

І вось стаю на балконе. З задавальненнем гляджу, як лёгкія папяровыя кавалачкі плывуць у паветры, падаюць на траву. І мне чамусьці вельмі радаснаназіраць за гэтым іхнім лётам.

— Гэ-эй, суседка!

Падымаю позірк... Ах, Вася! Зноў сусед Вася. У яго таксама добры настрой. Ён ужо, напэўна, здаў у прыёмны пункт сваю парожнюю тару і цяпер паспеў добра затаварыцца. З кішэняў ягоных штаноў выглядваюць бліскучыя коркі "Двух буслоў".

— Суседка, — працягвае ён, — а чаго гэта вы смеціце пад балконам? Вунь колькі смецця нараскідалі!

— Гэта не смецце, — весела адказваю я. — Гэта, Вася, аўтограф славутага Стывена Спілберга.

І міжволі хапаюся за парэнчу. У галаве бы ўдарыла болем: "Спілберг смяецца" заварушылася там... Бог мой, зноў два "С", няўжо зноў нейкая назва?! Але далей яе не пайшло. Ніякага сюжэта ў мяне не з'явілася. І, далібог жа, хутка ўся гэтая гісторыя з аўтографам Стывена Спілберга, як ні дзіўна, забылася.

Але калі надышоў кастрычнік, поўны дажджу і шалёнага ветру, калі неяк зусім нечакана ўдарыў першы зазімак і ў адначассе каштаны ля ганка нашага дома скінулі свае шырокае, пышнае лісце, з Чыкага патэлефанаваў дзядзька Саша.

— Ну, што там з усімі вамі здарылася? Дзе вы прапалі?! Куды падзяваліся? Ніяк не магу датэлефанавацца...

— А што такое, дзядзьку?

— Нічога асаблівага... Проста тут усіх нас замучвае Спілберг. Хоць ты куды хавайся! Дастае немагчыма... Уяві, ён хоча мець у сябе твой аўтограф!..

ПОСТАЦІ

Валянціна КУЛЯШОВА

# З крыніц маленства

*Быў пылам
я ў імклівым карагодзе
Гадоў, трухой
і зернем на таку,
Хацеў бы век, які ўжо на зыходзе,
Забраць мяне з сабой, а я руку
Гарачую працягваю прыродзе —
З дваццатага
ў трыццатае стагоддзе...*

Давайце прыкінем, ці мог роздум паэта, што знайшоў сваё адлюстраванне ў радках верша “Завея лісцяў...”, выглядаць востра-актуальным у 1963 годзе — часе свайго напісання? А, можа, ён здаваўся сяму-таму “адцягненым” і “штучным”, як вершы паэта пра Космас у трыццатых?

Невыпадкова, мабыць, зборнік філасофскай лірыкі на рускай мове “Новая кніга”, адкуль узяты гэтыя радкі і які выклікаў захапленне Аляксандра Твардоўскага, не атрымаў Ленінскай прэміі за 1964 год, на якую вылучаўся ад Беларусі. Не атрымаў ён яе і пасмяротна, у 1978-ым, як і не стаў Героем Сацыялістычнай Працы. Усё гэта факты грамадскага прызнання творчасці, а не аб'ектыўнай вартасці яе самой. І хоць у аснове гэтых жыццёвых “няўдач” Куляшова ляжалі вядомыя сёння інтрыгі “сабрата па пяры”, факты адлюстроўваюць тыповую сітуацыю: у ёй заўсёды апынаецца творца, які па дасканаласці свайго майстэрства і глыбіні мыслення абганяе свой час, каб параўняцца з нашчадкамі.

Паэт маштабу Аркадзя Куляшова выклікае цікавасць да сябе, як да асобы, бо без разумення чалавека нельга глыбока асэнсаваць яго творчасць. Паняцце “творчая асоба” шырэй за паняцце “творчасць”. У духоўны Пантэон народа творца ўваходзіць як асоба.

Каб зразумець чалавека, трэба ведаць умовы фарміравання яго духоўнага свету, што прыпадае на дзяцінства.

“Колькі б нам потым ні набягала дзесяткаў, яны не могуць напоўніць гэты ангар, у які залятаюць па ўспаміны, як вучэбныя аэрапланы па бензін. Іншымі словамі, гэтыя гады ў нашым жыцці складаюць частку, якая пераўзыходзіць цэлае”, — пісаў Барыс Пастэрнак.

Куляшоў прытрымліваўся той жа думкі і па-мастацку афарыстычна замацаваў яе ў радках уступу да паэмы “Далёка да акіяна”:

***Выток і рэк і шляхоў адзіны:
Ад непрыкметнае ручаіны
Паходзяць плыні
рэк паўнаводных,
Шляхі —
ад рэчышчаў
пешаходных.
Жыццё —
шляхоў і рэк падабенства:
Рух падарожны
распачынае
Юнацтва наша
з крыніц маленства...***

Аркадзь Куляшоў прыйшоў на свет 6 лютага 1914 года на ўсходняй ускраіне Беларусі — у мястэчку Саматэвічы.

Сам бацька часцей за ўсё называў Саматэвічы “Самацеевічамі” ці “Саматэевічамі”, таму, відаць, што яму, як, зрэшты, і другім, не давалася этымалогія назвы. Адказ на гэтае пытанне дае публікацыя М. Аўсеенкі ў часопісе “Маладосць” (N 9 за 1964 г.), прысвечаная, дарэчы, куляшоўскаму юбілею. У артыкуле “Мая Бесядзь” ён піша:

**“Калісьці, дакладна ніхто не ведае, на пагоркавым узбярэжжы ракі Чарнавуткі пасялілася некалькі сем'яў. То былі, можа, вандроўнікі, якія, а мо і надзельнікі, што купілі ў пана кавалак зямлі. Ім гэтае месца спачатку не спадабалася, яны пакінулі яго і падаліся далей. А праз колькі часу падаліся назад.**

**Старажылы, заўважыўшы іх, казалі: — Вунь самыя тыя...**

**Адсюль, нібыта, і назва Саматэвічы”.**

Што, акрамя водару старасветчыны, данесла да нашых часоў прыгожая легенда?

Па-першае, дакладнае ўказанне на месца, дзе спыніліся тыя вандроўнікі. Гэта правы, бо высокі (у легендзе “пагоркавы”), бераг прытока Бесядзі, ракі Чарнавуткі. А чаго на старажытнасці варта адна толькі назва “Чарнавутка”, першапачатковая, мабыць, “Чорна вутка”?

Тое месца ў Саматэвічах, дзе нарадзіўся Аркадзь Куляшоў, сапраўды знаходзіцца на правым беразе Чарнавуткі, якая працякае за хатай бацькоў будучага паэта. Гэтая хата, наколькі мне вядома, будавалася як карчма, ці заезны двор і ўжо ў момант прыходу на свет малога Аркадзя налічвала багата гадоў. Аляксандр Мікалаевіч, мой дзед, называў лічбу “дзвесце”. Што да бацькі, то ў паэме “Далёка да акіяна” ён прыводзіць іншую. Рознагалосіца тлумачыцца тым, што бацькі паэта пасяліліся тут толькі ў 1913-ым, прыехаўшы ў Саматэвічы настаўнічаць.

Хата займала на мясцовасці стратэгічнае, можна сказаць, месца. Там, дзе яна стаяла, шлях перасякаўся з ракой, там быў мост праз Чарнавутку. Хата нагадвала доўгі прастакутнік, што выцягнуўся ўздоўж ракі. На Чарнавутку выходзіла глухая сцяна, супрацьлеглая глядзела ў двор. Уваходныя дзверы знаходзіліся пасярэдзіне. Насупраць іх у вялікіх сенцах стаяла неабдымная печ з такімі ж шырокімі палацямі побач. Двое дзвярэй вялі ў правую і левую палавіны хаты. Пра старадаўнасць сведчыла таўшчэзнае бярвенне, з якога яна была складзена. Уздоўж “парадная” сцяны хаты, на ўсю яе даўжыню, цягнулася адкрытая галерэя: насціл пад дахам з дранкі трымаўся на круглых драўляных падпорах.

Мне не давялося пабачыць гэты дом. У 1952 годзе, калі я ўпершыню трапіла ў Саматэвічы, ён ужо быў перабудаваны тагачаснымі гаспадарамі: ад старога будынка застаўся толькі матэрыял — тое самае бярвенне, якое цяжка было суаднесці з новай маленькай хаткай. Аднак я бачыла макет бацькавай роднай хаты ў краязнаўчым музеі ў Касцюковічах. Макет быў зроблены па малюнку, які Куляшоў накідаў для дырэктара музея У. Ламінскага, калі ў 1977 годзе ў апошні раз наведаў сваю малую радзіму. Як хацелася бацьку захаваць памяць пра родную хату і прысады — ліпавую алею, якая вяла да школы!

Бацькава пачуццё да роднай хаты было такім, што ў адухоўленай істоты магло выклікаць узаемнасць. На падобныя разважанні наводзіць здарэнне, якое адбылося падчас апошніх бацькавых адведзін малой радзімы. У той паездцы ён быў з зяцем, Валерыем, які сядзеў за рулём легкавушкі. У дзень ад'езду яны заседзеліся ў бацькавага любімага настаўніка Сцяпана Андрэевіча Брыльянтава. Валеры ўжо пачынаў хвалявацца, але бацька супакоіў яго, заўважыўшы, што “ведае тут кожны кусток”.

Нарэшце рушылі. Ехалі паволі, курылі, ведучы нетаропкую гаворку, аж раптам зразумелі, што збіліся з дарогі. Калі выехалі на нейкае поле ці луг, — убачылі далёкі агеньчык.

— Ну вось і нейкае жытло, — сказаў бацька. — Там і распытаем. Папятляўшы па лузе, намацалі каляіну. Праз колькі часу ўбачылі людзей — маладую пару.

— Дзе мы? — спыталіся ў іх гаравандроўнікі.

— Дзе? Ля моста Куляшова! — прагучала ў адказ.

“Дык гэта Саматэвічы! — выгукнулі мы са здзіўленнем і радасцю, — расказваў мне потым бацька і вочы яго свяціліся шчасцем. — Ведаеш, Ваня, Саматэвічы не хацелі мяне адпускаць...”.

Трэба дадаць, што “куляшоўскім” называлі той самы масток праз Чарнавутку, што знаходзіўся побач з бацькавай хатай. На ім яшчэ з часоў яго юнацтва захоўваўся надпіс: “Аркадзь Куляшоў красну шапачку знайшоў!”

Заблукаўшы, вандроўнікі пад'ехалі да моста з другога боку. Іх быццам вярнулі сюды агеньчыкі роднай хаты...

***Хату, аб каторай я памяць берагу,
Я з самой гісторыяй параўнаць магу.
З дробнаю дзяржаваю, дзе няпэўны лад,
Дзе за гучнай славаю крочыць занапад.***

Хата, лічыў Куляшоў, гэта выток паняцця “радзіма”, гэта яе першы круг з тых, на якія падзяляецца працэс асваення жыцця.

Родная хата дала будучаму паэту выключна многа. У пару Аркадзевага дзяцінства тут яшчэ панавала цёплая атмасфера радавага гнязда, заснаванага на каханні. Да таго ж гэта было гняздо сельскай інтэлігенцыі, якая яшчэ жыла тым, што вось-вось павінна будзе адысці ў нябыт — набыткамі рускай, дваранскай, пераважна, культуры XIX — пачатку XX ст.

Вось што расказваў бацька пра сваё першае знаёмства з літаратурай у артыкуле “Тры сустрэчы з Лермантавым”: “...калі верыць успамінам маіх бацькоў, знаў Лермантава я літаральна з калыскі, з таго самага моманту, калі сярод іншых цацак і забавак увага мая спынілася на хатнім альбоме. То быў альбом пісьменнікаў — дадатак да часопіса “Пробуждение”, які выпісвалі мае бацькі — вясковыя настаўнікі. Добра і нават багата аформлены, ён, можна сказаць, пазнаёміў мяне з гісторыяй рускай літаратуры ў асобах. Хутка я беспамылкова адрозніваў Жукоўскага ад Пушкіна, Лермантава ад Някрасава, Тургенева ад Талстога, Горкага ад Леаніда Андрэева. Чамусьці асабліва маёй увагай, любоўю і прызнаннем карысталіся Пушкін і Лермантаў. Яны адразу і цвёрда ўвайшлі ў мой калысковы лексікон. Не таму, вядома, што я ўжо тады прадчуваў нялёгкі лёс перакладчыка іх твораў на беларускую мову. Жарты жартамі, але, як знаць, можа б, і іншай была мая будучая любоў і цяга да літаратуры без гэтага завочнага знаёмства”.

Народжаны на духоўнай мяжы стагоддзяў, Аркадзь Куляшоў ужо не паспяваў уліцца ў працэс будаўніцтва гэтай культуры — ламаліся яе ўмовы, масава знікалі стваральнікі і носьбіты. Але ён паспеў стаць яе выхаванцам, што падвяло надзейны падмурак пад яго ўласную будучую творчасць. Перш за ўсё ў плане высокай планкі крытэрыяў. Гэта не значыць, што сам ён адразу пачаў пісаць на ўзроўні класікаў, але ўзорам для яго назаўсёды стануць іх творы і ў рэшце рэшт сфарміруюць уласнае майстэрства Куляшова.

Так паступова закладваюцца ўмовы з'яўлення ў культуры паэта, які стане летапісцам сваёй эпохі.



Аркадзь Куляшоў.



З Якубам Коласам.

На этапе, пра які ідзе гаворка, этапе фарміравання эмацыйнага свету дзіцяці, мастацкае слова ў жанры казкі праходзіць другім планам, а на пярэдні бязмежна пануе музыка. Бацькі паэта былі музычна адоранымі людзьмі, надзеленымі добрымі галасамі і слыхам. Без асаблівага перабольшвання можна сказаць, што яны не спявалі толькі тады, калі вялі ўрокі ў школе. Маці спявала нават з сярпом у руцэ, а пра хатнюю працу і гаварыць не даводзіцца. Надышоў, праўда, момант, калі з носьбітам жывога песеннага майстэрства стаў сапернічаць грамафон:

***Песні грамафонныя
У вячэрні час
Пад трубой зялёнаю
Зноў збіралі нас,
Зноў гучалі згадкаю
Зборышчаў былых,
Дзе — за самапрадкаю —
Напявала іх
Маці нам, — за пяльцамі
Альбо за шытвом, —
Гэткім, як у Вяльцавай,
Срэбным галаском...***

Грамафон быў падораны песеннай настаўніцкай сям'і сёстрамі Галынскімі, саматэвіцкімі памешчыцамі і мецэнаткамі мясцовага маштабу, якія дбалі пра культуру і адукацыю насельніцтва.

Гэта ўскосна дзякуючы ім Аркадзь Куляшоў пазнаёміўся з мастацкім словам на беларускай мове. Пад уплывам зборніка Янкі Купалы “Шляхам жыцця” Куляшоў, які пачаў складаць першыя вершы на рускай мове, зразумее, што паміж мовай яго паэтычнага куміра Лермантава і яго ўласнай існуе істотная розніца, і што на гэтай мове таксама можна пісаць вершы, як гэта робіць Янка Купала.

А зборнік Купалы быў падараваны бацьку Аркадзя настаўнікам Саматэвіцкай школы, які з ласкі сясцёр Галынскіх вучыўся на курсах Чарняева ў Пецярбурзе разам з Янкам Купалам.

Гэтыя дзве жанчыны, апошнія прадстаўніцы роду Галынскіх, здаўна мелі ўладанні на гэтых землях. Мястэчка Саматэвічы, напрыклад, таксама належала ім і ў 1861 годзе было перайменавана ў Дзмітраўск — у гонар чарговага спадчынніка, Дзмітрыя Станіслававіча. Новае імя, як бачым, не прыжылося. Этымалагічна цьмяная назва “Самацеевічы” аказалася вельмі трывалай эмацыйна. У легендзе, з якой пачыналася наша гаворка пра малую радзіму Куляшова, ёсць, мне здаецца, указанне на сапраўдную, першапачатковую назву. Апошняя, як сведчыць легенда, паходзіць ад словазлучэння “самыя тыя”. Мне сустракалася прозвішча “Саматыевіч”. Ясна, што яно перадае даўнейшую назву. Яна гучала, як “Саматыевічы”, але ўвесь час імкнулася да спрашчэння, пакуль не спынілася на “Саматэвічах”.

Калі ўжо мы вяртаемся да легенды, то варта адзначыць і яшчэ адну цікавую акалічнасць: яна ўтрымлівае звесткі прыблізныя, праўда, і скупыя, пра час заснавання Саматэвічаў. Гэтую інфармацыю нясе ў сабе словазлучэнне “пасяліліся некалькі сем'яў”.

**Саматэвічы ўпершыню згадваюцца ў пісьмовых крыніцах у 1585 годзе, як сяло Крычаўскай воласці (і староства) Мсціслаўскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Наступная згадка пра Саматэвічы адносіцца да 1795 года. Цяпер гэта сяло Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні, у якім 46 двароў і 220 жыхароў. Французскія навукоўцы ў сярэдзіне нашага стагоддзя падлічылі, што ўсё сучаснае насельніцтва Францыі, каля пяцідзесяці мільёнаў, узыходзіць да двухсот сем'яў (калі вярнуцца да стану насельніцтва тысячагадовай даўнасці). Выходзіць, што можна было б вылічыць і час заснавання Саматэвічаў.**

Гістарычныя звесткі пра бацькава роднае мястэчка падрыхтавала гісторык Валянціна Віталёва, зямлячка Аркадзя Куляшова па Магілёўшчыне. Мой бацька, на жаль, такой інфармацыяй не валодаў. Аднак старажытную прысутнасць чалавека на гэтай зямлі адчуваў інтуітыўна. І не памыляўся. Археолагі знаходзілі і знаходзяць тут шматлікія стаянкі першабытнага чалавека. Гарадзішча, дарэчы, існуе і на Бесядзі, якраз там, дзе падлеткам любіў праводзіць час Куляшоў.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Для дзетак-малалетак

ВАСІЛЮ КАРПЕЧАНКУ — 75



**За плячыма Васіля Васільевіча — Вялікая Айчынная вайна, у час якой ён быў тройчы паранены. А нарадзіўся 7 студзеня 1925 года ў вёсцы Будзішча цяперашняга Чачэрскага раёна. У 1939—1941 гадах вучыўся ў Нова-Беліцкім лесатэхнічным тэхнікуме. Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе настаўнічаў у Сідаравіцкай і Роўкавіцкай школах Чачэрскага раёна. Скончыў Гомельскае педагагічнае вучылішча, Магілёўскі педагагічны інстытут. Працаваў загадчыкам аддзела пісем, адказным сакратаром рэдакцыі магілёўскай раённай газеты "За камуністычную працу", у Рэчкаўскай СШ Магілёўскага раёна — дырэктарам, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, намеснікам дырэктара па ваенна-патрыятычным выхаванні. У друку выступае з 1953 года. Для дзяцей выдаў кнігу "Сонейка ўзышло". Творы яго ўключаны ў школьныя падручнікі для малодшых класаў. Друкаваўся ў калектыўных зборніках.**

**З 75-годдзем, Васіль Васільевіч! Яшчэ доўгіх год жыцця вам, творчых поспехаў!**

## З паэзіяй і песняй

МІКОЛУ ТРАФІМЧУКУ — 50



**Свой поўдзень веку Мікола Трафімчук адзначыў 3-га студзеня. Родам ён з вёскі Осаўцы Драгічынскага раёна. Пасля заканчэння Белінскай сярэдняй школы вучыўся ў Брэсцкім ГПТВ-65 будаўніком, а ў 1968 годзе паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. У 1971 годзе перавёўся на завочнае аддзяленне і настаўнічаў у школах Драгічынскага і Бярозаўскага раёнаў. Пасля атрымання ў 1975 годзе дыплома аб вышэйшай адукацыі працаваў у рэдакцыях раённых газет, на Брэсцкім тэлебачанні, у газетах "Мінская праўда", "Звязда", у Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі, у рэдакцыі газеты "Наша доля"... З першымі вершамі выступіў у друку ў 1970 годзе, выдаў некалькі кніг паэзіі. Асобныя вершы М. Трафімчука пакладзены на музыку, сталі папулярнымі песнямі.**

**Віншуем Міколу Мікалаевіча з юбілеем! Зычым яму новых жыццёвых і творчых поспехаў!**

## "Кантакты і дыялогі", N 11—12

**Змешчаны артыкулы Я. Запрудніка "Развіццё беларусазнаўчых даследаў на Захадзе (пачынаючы з 1945 г.)", В. Астрогі "Гісторыкі-ўсходазнаўцы беларускага паходжання (1917—1991)", Л. Уладыкоўскай-Канаплянік "Сімвал роднага слова: роздум пасля Варшаўскага кангрэса універсалістаў". Публікуюцца артыкулы-персаналіі пра М. Будыку, Н. Каваленку, З. Кальвіш, А. Міхалюк, Ч. Сэнюха, якія знойдуць месца ў будучым энцыклапедычным даведніку "Беларусы ў свеце". Пад рубрыкай "Хто ёсць хто ў беларусістыцы" можна прачытаць пра Д. Зіберт. У нумары прадстаўлены раздзелы "Рэцэнзуем кнігі", "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця", іншыя матэрыялы.**

# З крыніц маленства

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

А пазней, ужо будучы студэнтам Мсціслаўскага педтэхнікума (1928—1930 гг.) паэт, з захапленнем чалавека гістарычнага мыслення, адкрываў для сябе ў старажытным Мсціславе жывыя доказы сувязі часоў. Адбітак гэтага духоўнага працэсу мы знаходзім у паэме "Далёка да акіяна" ў радках, прысвечаных гораду яго юнацтва:

***А каб сам са змрочнае***
***Выбраўся імглы,***
***Зноў з гары Дзявочае***
***Глянуў на валы,***
***На будынак з вежамі***
***Гулкі як набат, —***
***Захлынуўся б вершамі,***
***Як паветрам, бард.***
***Услаўляў бы ратныя***
***Справы, меў калі***
***Горад не заштатнае***
***Месца на зямлі.***

Вяртаючыся да гаворкі пра Саматэвічы, працытуем і ўсё астатняе, з тых гістарычных завестак, якія за амаль тры дзесяцігоддзі працы ў архівах удалося сабраць бацькавай руплівай зямлячцы:

**"У 1842 годзе ў Саматэвічах пабудавана праваслаўная Троіцкая царква.**

**У 1864-ым — адкрыта народнае вучылішча.**

**З 1867-га тут праводзілася два кірмашы ў год".**

Бацька згадваў той, што праводзіўся на Іллю, — 2 жніўня па новым стылі. Для яго гэта была падзея. На кірмашы з'язджаліся нават з Чарнігаўшчыны і Браншчыны. Ішоў бойкі гандаль, а карчма гудзела ад гамонак і спеваў. Моладзі таксама было чым заняць сябе: апроч іншага, тут працавала карусель. Хвіліны, праведзеныя на каруселі, на ўсё жыццё зрабіліся для Куляшова сімвалам шчасця, бо, як і сам працэс творчасці, выклікалі адчуванне палёту. Гэты вобраз — сінонім шчасця — праходзіць праз усю творчасць Аркадзя Куляшова. Верш пад гэтай назвай быў напісаны ў лютым 1939 года. У ім адбіліся ўражанні лета 1938-га, якое ён правёў на Хоцімшчыне, у Ялаўцы, і адкуль, па юначай звычцы, схадзіў на кірмаш у Саматэвічы.

На гэтым кірмашы паэт зноў сустрэўся з Алесяй, якая ўсё жыццё валодала яго паэтычным уяўленнем, як вобраз першага кахання (ён закахаўся ў дзяўчыну з першага пагляду, калі ў 1925 годзе бацькі Алесі прыехалі па нейкай справе разам з дачкой да бацькоў Аркадзя; ёй было 13, а яму — 11 гадоў). Верш "Карусель" Куляшоў пісаў напярэдадні свайго дваццаціпяцігоддзя. Самы росквіт жыцця! Пік замілавання да кожнай яго прывабнай дэталі. Вось некалькі строф гэтага верша:



*Аркадзь Куляшоў у час вайны.*



*З жонкай Аксанай Фёдараўнай.*



*З Аляксандрам Твардоўскім і Міхасём Лынькковым (на пярэднім плане).*

***Мы адны з ёй. З нашых — больш нікога.***
***Той жа рып гармоняў, бубнаў гром.***
***Тая ж з кірмаша пад гай дарога.***
***— Што ж, пайшлі?***
***— Пайшлі...***
***І мы ідзём.***
***Сем гадоў не бачыліся — раз,***
***Замуж выйшла,***
***Добра ладзіш з мужам;***
***Дзе ж ты, карусель? За ўсё адкружым,***
***Як усё кружылася за нас.***
***Добры дзень, знаёмыя мясціны,***
***Карусель,***
***Крылатая душа!..***
***Гай шумлівы, гоман кірмаша,***
***Печанага хлеба водар кмінны.***

Сюжэт, як быццам, і мінорны, чуецца нават усхліп душы, параненай весткаю пра шчасце былой каханай з другім, але агульны тон — мажорны, як настрой

# Горад людзей

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

— Безумоўна! У гэтым плане вядзецца досыць жорсткая палітыка. Забаронена будаўніцтва боксавых гаражоў: яны не вырашаюць праблемы. Калі ў нас было 80 машын на 1000 жыхароў, пад іх будаўніцтва адводзіліся закінутыя тэрыторыі, пустэчы, прычыгуначныя палосы. Цяпер такіх тэрыторый у нас няма, каб можна было будаваць арэалы, скажам, на 100-200 машын, што забяспечвала б мінімальныя патрэбы ў паркоўцы таго ці іншага жылога раёна. Тым больш, што боксавыя арэалы не маюць якаснай архітэктуры, яны забруджваюць падземныя воды, наогул парушаюць экалогію.

**— А выйсце якое?**

— А выйсце такое. Пры будаўніцтве шматкватэрнага высотнага жылля трэба адразу ж закладваць і месца для захоўвання машын: ці то пад самім домам, ці то між жыллёвымі блокамі. Такія праекты па Мінску ўжо зроблены. У многіх гарадах свету забаронена будаваць шматпавярховы дом парковак, гэта адназначная норма. Дык вось, ужо і ў нас ёсць элітныя дамы, дзе жыхары самі, загадзя закладваюць для кожнай сям'і па паркавачным месцы, а то й па два. Пры будаўніцтве прадпрыемства, офіса, адміністрацыйнага будынка ў праект таксама павінна закладвацца і фінансаванне парковак. Зараз вядзецца работа па перспектыўных шматпавярховых гаражах, куды будуць акумулявацца сродкі патэнцыяльных спажыўцоў.

**— З паведамленняў друку вядома, ды і вы ўжо гаварылі пра гэта, што новая канцэпцыя развіцця Мінска прадугледжвае стварэнне найбольш спрыяльных умоў для ягоных жыхароў, гэта значыць, для нас, нашых дзяцей і ўнукаў. Што тут перш за ўсё маецца на ўвазе?**

— Сталіца ўжо як бы асуджана на тое, каб развівацца як інтэлектуальны і культурны цэнтр. Сталіца краіны заўсёды ўзаемадзейнічае з іншымі культурнымі, навуковымі, адміністрацыйнымі цэнтрамі іншых краін. Мінск, скажам, мае нямала гарадоў-пабрацімаў па ўсіх канцах свету, у якіх мы можам многаму павучыцца. Сталіца павінна вырашаць пытанні культурна-эканамічнай палітыкі, якія вымагаюць пэўнага — немалога, скажам так, — інтэлектуальнага ўзроўню ад насельніцтва. Мінск павінен мець такое насельніцтва, выхоўваць, рыхтаваць яго ў сваіх навучальных установах. І Мінск мае такое насельніцтва, такіх жыхароў. Новыя ўмовы мяняюць і спосаб, лад жыцця людзей, якія хочуць і могуць зрабіць Мінск канкурэнтным гарадам у рамках еўрапейскай супольнасці. Вось, скажам, ва ўмовах рынкавай эканомікі ў рэалізацыю новай канцэпцыі развіцця Мінска мы прадугледжваем прыцягненне вялікай колькасці інвестараў. Гэта — адно. Другое — што мы глядзім на Мінск не як на індустрыяльны цэнтр прылеглых тэрыторый, а як на патэнцыяльны рынак, які ўваходзіць у міжнародны падзел працы. Чаму сюды не прыходзяць "Сіменс", "Філіпс" і іншыя вядомыя на ўвесь свет кампаніі? Таму што ў нас яшчэ не тыя ўмовы. Чаму тут не размяшчаюцца філіялы вядучых міжнародных інстытутаў? Бо мы яшчэ не стварылі тое канкурэнтнае асяроддзе, якое б "паклікала" іх. А мы павінны стварыць такія ўмовы і такое асяроддзе, каб Мінск мог канкурыраваць з Варшавай, Прагай, Будапештам. У гэтым і заключаецца адказ на ваша пытанне. Калі ў нас будуць створаны такія ўмовы, тады зменіцца не толькі змест, але і якасць жыцця нашых людзей. Тады жыхары Мінска будуць жыць нармальна. Нармальна не ў нашым разуменні гэтага слова, а ў агульначалавечым, — гэта значыць, жыць шчасліва. Тады і ўся краіна наша зажыве нармальна.

**— Значыцца, наша сталіца будзе развівацца як інтэлектуальны і культурны цэнтр краіны. А ўжо сёння вы можаце сказаць, хоць бы прыкладна, якія мяркуецца адчыніць у Мінску музеі, канцэртныя і выставачныя залы, якія помнікі гісторыі і культуры будуць адрэстаўраваны і вернуты да жыцця, якім славутым дзеячам Беларусі будуць пастаўлены помнікі на мінскіх вуліцах і плошчах?**

— На жаль, пытанне трохі дачаснае. Мы распрацоўваем канцэпцыю, а не канкрэтныя планы, хаця многае, самае важнае, пазначылі. Скажам, аднаўленне гарадской ратушы, усяго Верхняга горада, які цяпер у нас заселены офісамі. Вядзецца распрацоўка праекта Дзяржаўнага музея Беларусі. Галоўнаму музею краіны павінна быць нададзена прыярытэтнае значэнне, каб "падняць" са сховішчаў усе пласты беларускай гісторыі і культуры і паказаць сучаснікам. Распрацоўваецца таксама праект Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі. Мяркуецца размясціць яго на Юбілейнай плошчы, стварыць там магутны культурны і інтэлектуальны цэнтр. Ідзе праца і над праектам рэканструкцыі Лошыцкага парку. Гэта адзін з лепшых паркаў краіны, ён вылучаецца унікальнасцю ландшафту. Праграма рэканструкцыі прадугледжвае ўзнаўленне ансамбля будынкаў, у тым ліку канюшань, карчмы, бровара, алеяў, сцежак, усяго таго асяроддзя, якое некалі існавала ў гэтай зоне.

героя ў цэлым. Сумная навіна ўжо не засціць свет, як колішняя ростань з Алесяй у вершы "Бывай!". З замілаваннем глядзіць лірычны герой на шумлівы гай, яго слых песціць змалку знаёмы гоман кірмаша, са смакам ўдыхаецца кмінны запах вясковага хлеба.

Доўжачы гісторыю Саматэвічаў, спынімся на наступных датах:

**1886 год: 523 жыхары, 94 двары, праваслаўная царква, касцёл, валаснoе праўленне, школа, бальніца, вятрак, заезны двор, 6 крамаў, вінакурны завод.**

**1888 год: мястэчка Саматэвічы (яно ж Дзмітраўск) уласнасць Дзмітрыя Станіслававіча Галынскага, ужо цэнтр воласці, які налічвае 97 двароў, мае Гайдукоўскае паштовае аддзяленне і 744 жыхары.**

Галынскія... Я ўжо згадвала сясцёр Галынскіх. Яны, дарэчы, пэўны час вучылі і малога Аркадзя, але больш дакладных звестак пра гэта ў нас няма. Галынскія, мабыць, адыгралі немалую ролю ў лёсах Магілёўскага краю, калі нават у біяграфіях продкаў Куляшова, прычым з абодвух бакоў, гэтае прозвішча сустракаецца неаднойчы. Мяркуйце самі: Кацярына Фамінічна Ратабыльская, маці Аркадзя Куляшова, нарадзілася ў вёсцы Галынка Магілёўскай губерні; прапрадзеда будучага паэта па бацькавай лініі, арганіста па прозвішчы Мільто, прывёз на Беларусь Галынскі; Кацярына Фамінічна нарадзіла сына Аркадзя не ў роднай Галынцы, а ў чужых для яе на той момант Саматэвічах, якія здаўна былі прыватным уладаннем Галынскіх.

**1909 год: у Саматэвічах 144 двары і 1006 жыхароў.**

Усе нашы новыя веды пра Саматэвічы ствараюць вобраз іх незаштатнага мінулага. Адначасова статыстыка паказвае, што лепшыя часы жыцця Саматэвічаў прыпадаюць на пачатак стагоддзя, тыя часы, калі лёс спыніў свой выбар на гэтым мястэчку, як на калысцы будучага паэта.

Галоўнае, што меў у дзяцінстве Куляшоў, — гэта воля. Лясныя сцежкі ў грыбных і ягадных мясцінах, пастухоўскія вогнішчы, коні; начлегі пад адкрытым небам, на сенавалах, лугах і лясных палянах: шматкіламетровыя вандроўкі з сябрамі... І ўсюды над табой — купал неба. І зорная россып на ім.

Вечарамі бацька вельмі любіў глядзець на зоры. Нават з акна кабінета. Неба, зацягнутае хмарамі, яго засмучала. Як нізкая столь у пакоі. Зоры жывуць нават у яго літаратурных вобразах: "засілі (ад слова "сіло") іх ноч каўшом зорнае Мядзведзіцы!" — гэта пра закаханых у паэме "Далёка да акіяна".

Сялянскай працы бацька не любіў. Яна, трэба думаць, закабаляла яго духоўна. Яму было гадоў шэсць, калі на просьбу маці дапамагчы ёй выбіраць бульбу сын адказаў:

— Я лянуюся...

— А ты працуй, працуй, сынок, і ахвота сама прыйдзе!

І хоць потым сын занёс параду маці ў скарбонку важных жыццёвых урокаў, — бульбу тады выбіраць не стаў, а, лежачы ў баразне, "дивився на небо", як герой украінскай песні, якую так любіў спяваць бацька Аркадзя.

Знамянальна, што маці не абразілася, а сын засвоіў урок: усё сваё жыццё ў паэзіі ён працаваў з матчынай руплівасцю.

Не буду гаварыць пра змрочныя бакі бацькавага дзяцінства. Ён сам расказаў пра іх у аўтабіяграфічнай паэме "Далёка да акіяна". А калі б не расказаў — мы б здагадаліся, ведаючы, што нарадзіўся паэт "у год вайны". У куляшоўскім лёсе ўсё працавала на прызванне — паэзію. Спрацавала і безнадзорнае, па сутнасці, дзяцінства: стварыла прастору саманазірання.

Факт свайго прыходу на свет у год пачатку Першай імперыялістычнай бацька ўспрымаў як фатум, і ўсё жыццё насіў пры сабе манету з датай: 1914.

Падобныя дробязі не заслугоўвалі б, магчыма, ніякай увагі, калі б не адметная духоўная прырода будучага паэта:

"Аднойчы я ішоў у Ялавец да сваіх бацькоў. Гэта было перад досвіткам. Яшчэ месячнае жоўтае святло залівала жытняе поле, а ад рэчкі ўжо слаўся перадранішні туман. Цяпер ужо не памятаю, пра што тады думаў, але раптам адчуў, паверыў, што ўсё здзейсню ў жыцці, усё, што захачу, што задумаў. І гэта была такая лёгкая, аж расхліствала душу, і імклівая, быццам прыўзнімала ад зямлі, упэўненасць", — расказваў карэспандэнтцы "Известий" Аркадзь Куляшоў у дзень, калі яму спаўнялася шэсцьдзесят. Спыняюся на гэтым факце духоўнай біяграфіі паэта, каб звярнуць увагу на феменальна моцную эмацыйную памяць Куляшова.

**1986 год: у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС (26.04.1986 г.) жыхары вёскі Саматэвічы выселены.**

Калі жонка паэта і мая маці Аксана Фёдараўна даведалася пра скрушны лёс Саматэвічаў, яна ціха, нібы самой сабе, прамовіла: "Як добра, што Аркадзь не дажыў да гэтых часоў..."

Перажываючы трагедыю Чарнобыля, мы нават і дапусціць не маглі, што бацька прадчуваў трагічны лёс сваёй малой радзімы і нават замацаваў сваё бачанне ў перадсмяротнай нізцы вершаў. Вершы, іх чатыры, знаходзіліся сярод папер, якія прывезлі з Нясвіжа разам з другімі ягонымі рэчамі.

Без гэтых апошніх вершаў творчасць Аркадзя Куляшова не была б, мне здаецца, завершанай. Два з іх ("Попел" і "Карусель") маюць прамое дачыненне да бацькавых змрочных прадчуванняў. Перш чым працытаваць некалькі строф з доўгага верша "Карусель", дазволю сабе звярнуць увагу на саму назву. Мы ўжо згадвалі верш 1939 года з аналагічнай назвай. Разам з апошняй "Каруселлю" гэтыя два вершы набываюць у творчасці Куляшова нейкую новую якасць, нібы закальцоўваючы яе:

*Дзе ж вы, дзе, майго дзяцінства коні,*
*Паскакалі без мяне куды вы?*
*Больш не чутна за спіной пагоні...*
*Дзе спынілі вы свой бег імклівы?*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Эх, негадаваны, незвычайны*
*Мой табун! Майго маленства коні, —*
*З памяці выходзьце, як са стайні,*
*Вось ён, цукар на маёй далоні.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Ухапіцца б мне рукой за грыву,*
*На сядло б ускочыць мне з разгону*
*І ляцець пад музыку імкліва*
*І кружыцца б гэтак — аж да скону.*
*Каб плылі ў вачах гарачна плямы —*
*І нічога больш ужо не трэба!*
*Ты ляціш над полем, над лясамі*
*І над гарадамі — проста ў неба.*
*Проста ў неба, што яшчэ не знае*
*Наслання, якое гібель сее.*
*Толькі старажытныя, былыя,*
*Нібы жыта, зоры паланеюць.*

"Насланнё, якое гібель сее" — хіба можна больш дакладна сказаць пра радыеактыўны попел, што асеў на малую радзіму паэта з чарнобыльскіх хмар?

Апошнія два радкі гэтай страфы маюць у рукапісе два варыянты. Гэты — першы. Другі гучыць так:

*Дзе адна зара, зара другая,*
*Нібы жыта ў полі, паланее.*

Гэта бацькаў апошні варыянт, але першы ўяўляецца мне цікавейшым.

*Коні масці варaной, мышастай,*
*Не знікайце гучнаю чаргою.*
*Прыпыніся, мой табун грывасты,*
*І хутчэй вазьмі мяне з сабою.*
*Праплывае міма пабрацімства,*
*Коні, коні дыхаюць гарача.*
*Каруселі кружаць, а дзяцінства*
*Убаку стаіць маё — і плача.*

Ёсць нешта па-куляшоўску містычнае ў тым, што мы пазнаёміліся з новымі вершамі паэта ў юбілейныя дні, якія ён мог бы святкаваць разам з намі.

Васьмідзесяціпяцігоддзе Аркадзя Куляшова прыпадае на апошні год XX стагоддзя. Чалавецтва — на падвойнай мяжы: стагоддзяў і тысячагоддзяў. Гэтая, рэальная для рамак бацькавага жыцця мяжа, стала прыцягвала да сябе ўвагу паэта — чалавека касмічнага светаадчування:

*Век наш! Калі ты перадасі*
*Колас атручаны — коласу,*
*Разам з рукамі — наручнікаў звон, —*
*Маску сваёй двухаблічнасці,*
*Знай, мы парушым нябожчыцкі сон,*
*Трун і крыжоў акалічнасці,*
*Выйдзем, табой затаптаныя ў пыл,*
*Спаленыя ў крэматорыі,*
*З брацкіх магіл і не брацкіх магіл —*
*Грукаць у дзверы гісторыі!*

У асобе Аркадзя Куляшова XX стагоддзе дало беларускай культуры паэта, які, як усякі геніяльны творца, працаваў на далёкую перспектыву, і таму ён мае шанц перакрочыць мяжу свайго стагоддзя і апынуцца ў трэцім тысячагоддзі разам з нашчадкамі — прыхільнікамі яго паэзіі.

*Фота У. КРУКА*

# Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК



26 снежня 1999 года памёр вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Верамейчык.

Уладзімір Міхайлавіч Верамейчык нарадзіўся 1 лістапада 1937 года ў вёсцы Петрыцкае Брагінскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. У 1955 годзе скончыў Рэчыцкае педагагічнае вучылішча. Год працаваў старшым піянерважатым Міхайлаўскай сярэдняй школы Мазырскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі (1956—1959). Пасля дэмабілізацыі паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, які скончыў у 1964 г. Працаваў завучам, дырэктарам Ведрыцкай васьмігадовай школы Рэчыцкага раёна, пасля рэарганізацыі гэтай школы ў сярэднюю (1966) — яе дырэктар.

Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалём.

Першы верш надрукаваў у 1955 г. у Рэчыцкай раённай газеце. Аўтар зборнікаў вершаў "Прыпяць" (1973), "Яснасць" (1978), "Люблю" (1981), "Клянуся Прыпяццю" (1988), кнігі публіцыстыкі "Гарызонты сельскіх педагогаў: Запіскі дырэктара школы" (1984).

Творчасць Уладзіміра Верамейчыка — характарызуецца багатым запасам жыццёвых назіранняў і ўражанняў. Кожная кніга паэта сведчыць, што аўтар яе мае лірычны голас, яго лепшыя вершы прысвечаны Радзіме, землякам, таварышам па вучобе і службе ў Савецкай Арміі. Радкі вершаў гучаць дакладна і проста, яны выклікаюць у душы добрыя чыстыя пачуцці.

Светлы вобраз Уладзіміра Верамейчыка назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, працаваў з ім.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Рэдакцыя "Вожыка" смуткуе ў сувязі з раптоўнай смерцю нашага таленавітага аўтара пісьменніка-сатырыка Уладзіміра Міхайлавіча ВЕРАМЕЙЧЫКА. Выказваем глыбокае спачуванне родным і блізкім, калегам і выхаванцам Уладзіміра Міхайлавіча, усім ведрычанам.**

Дзякаваць Богу, што, нягледзячы на ўсе неспрыяльныя ўмовы, сёе-тое захавалася ў старой частцы горада. Наша задача — усё рэстаўраваць, узнавіць і зберагчы. Вельмі важна пры гэтым не сапсаваць маштаб асяроддзя, у якім гэтыя помнікі знаходзяцца. У рамках гэтай праграмы мы распрацоўваем асаблівы раздзел — "Помнікі гісторыі і культуры і іх рэгуляванне". Прадугледжваецца забарона высотнага будаўніцтва ў цэнтры горада, а таксама будаўніцтва, якое можа парушыць ансамблевасць, прапорцыі, стылістыку старой забудовы. Наш праспект Скарыны разам з Верхнім горадам — гэта унікальны твор архітэктурнага мастацтва. Іншая справа, што любая сталіца павінна развівацца, так бы мовіць, дзелавымі цэнтрамі. У гэтым плане мы якраз і вядзём распрацоўку новага "сіці" для Мінска. Пакуль няма адназначнага рашэння, аднак ёсць прапанова размясціць яго ў раёне ад плошчы Незалежнасці да вуліцы К. Цэткін. Цяпер гэта паласа камунальных і вытворчых забудоў, якая зусім не дабратворна ўплывае на аблічча горада. Між тым, гэты ўчастак знаходзіцца ў вельмі выгадным месцы: побач — цэнтральная частка горада, а да вакзала наогул 200 метраў. Акурат тут мы і прапануем пабудаваць "сіці" з высотнымі комплексамі, якія не парушаць гармонію Верхняга горада і праспекта Скарыны. Наадварот, будзе створаны як бы своеасаблівы трохкутнік: тут — гісторыя розных эпох, а тут — будучы дзень. Такое размяшчэнне, мяркуем, зробіць воблік Мінска унікальным.

**— Якія творчыя сілы былі прыцягнуты да распрацоўкі гэтых планаў?**

— Найперш — спецыялісты нашага цэнтра, а таксама "Мінскпраекта", "Белкамунпраекта", "Мінскінжпраекта", іншых арганізацый і ўстаноў. Але асноўная канцэпцыя належыць нашаму інстытуту.

**— І апошняе пытанне, Аляксандр Мікалаевіч. Якія гарантыі таго, што гэтыя планы здзейсняцца? Пытаюся таму, што многае з раней намечанага так і засталося на паперы: то не знаходзілася сіл і сродкаў, то мяняліся ўлады, палітычныя курсы, а разам з імі і планы. З новай канцэпцыяй такога не здарыцца?**

— Калі зацікаўленыя людзі нешта адкарэкціруюць, мы будзем толькі радыя і ўдзячныя. Гэта нармальна, калі канцэпцыя карэкціруецца, удакладняецца. Самае сумнае, калі мы ў прынцыпе памылімся з накірункам, з вызначэннем курса. Але такога, здаецца, быць не павінна. Таму мы не палохаемся, калі нешта не рэалізуецца. Мы рабілі яе такой маштабнай, у значнай ступені абагуленай, каб яна магла ўдакладняцца. Але на стадыі механізмаў яе рэалізацыі ўсе распрацоўкі зусім канкрэтныя і нават дэталёвыя. А ўсе тыя зацікаўленыя асобы, у якіх будуць сродкі, вядома ж, нешта зробяць па-свойму, нешта адкарэкціруюць. Я ведаю, напрыклад, што ў генплан Прагі за тры гады было ўнесена ці не 3 тысячы паправак. Пры складанні канцэпцыі мы нічога не бралі са столі. Мы паглядзелі, пацікавіліся, як развіваліся іншыя сталіцы свету, і дастасоўвалі іхні вопыт да сябе, да нашага Мінска. Мы гарантуем: агульная ўстаноўка несумненна правільная.

Праблемы развіцця Мінска вырашаюцца ў сферы эканомікі, нерухомасці, у сферы палітыкі, пры дапамозе сацыяльна-эканамічных, цэнавых інструментаў рэгулявання жыццядзейнасці горада. Для мяне асабіста важнае значэнне мае падтрымка грамадства, саміх мінчукоў. Галоўнае — каб людзі зразумелі, што час перастаць баяцца ўласніка. Я перакананы, што адзін з важнейшых інстытутаў у выхаванні экалагічнага мыслення — гэта інстытут прыватнай уласнасці, які пачынаецца ў сям'і, дарэчы. Ён фарміруе не толькі правы, але і абавязкі, пачуццё адказнасці за гэтую ўласнасць, уменне ёю кіраваць, распарадзіцца ёю. Уменне ідэнтыфікаваць сябе з будынкам, участкам горада. Калі я змагу індэнтыфікаваць сябе з домам, дык для мяне будуць дарагія і мой дом, і мой горад. Гэтая як бы экстрапаляцыя свайго ўласнага "я" ў знешняе асяроддзе зменіць адносіны нашых людзей да роднага горада, вуліцы, двара, пад'езда. Праблемы горада звязаны акурат з чалавечым матэрыялам, з ягоным насельніцтвам, яго інтарэсамі і культурай, з інструментамі стымулявання развіваць і павышаць гэтую культуру. Без гэтых інструментаў будзе проста гаварыльня. Каб Мінск быў сталіцай, мала зрабіць яго прыгожым горадам, — яго трэба зрабіць горадам прыгожых людзей. Горадам людзей сучасных, прагрэсіўных поглядаў. Людзей, якія самі павінны пабудаваць сабе горад для шчаслівага жыцця. На жаль, нашы людзі, большасць мінчукоў сёння яшчэ не здольныя ўспрыняць многае з запланаванага намі. Людзі ж самі павінны зразумець і сказаць, што яны не хочуць панельных 12-павярховак, якія мы зараз будуем. Пакуль што людзі не разумеюць і не гавораць гэтага. А калі няма загаду на прыгажосць, на гармонію, дык — чаго чакаць? Дачаснікі мы, на жаль, у гэтым свеце. А дачаснікі не пабудуюць горад. Горад пабудуюць свабодныя, разняволеныя, высокаадукаваныя, інтэлектуальна развітыя людзі. Але ж і народзіць іх акурат... горад. Я веру, так і будзе.

**— Дзякуй вам за гутарку, Аляксандр Мікалаевіч! Будзем спадзявацца, што мінчукі ўсё ж акажуцца не дачаснікамі, на вышыні і калі не сёння, дык заўтра падтрымаюць планы і канцэпцыі вашых калег па стварэнні сталіцы незалежнай еўрапейскай дзяржавы з назваю Рэспубліка Беларусь.**

**Інтэрв'ю правяла Марыя МІХАЙЛАВА**

## Беларускае таварыства сучаснай музыкі

паведамляе аб самаліквідацыі ў якасці юрыдычнай асобы ў сувязі з уваходжаннем у Аўтарскі фонд кампазітараў. Па ўсіх пытаннях звяртацца па юрыдычным адрасе:

*220030 Мінск, пл. Свабоды, 5, тэл. 226-74-51. Факс 2769463.*

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне паэту Васілю МАКАРЭВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

ГАСЦЁЎНЯ

# "Душа не на месцы..."

## НА ПЫТАННІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ Рыгор БАРАДУЛІН

**— Надыходзіць, як памоднаму называюць гэтае знакавае з'явішча, мілепіум. Павялося лічыць, што перад пераходамі аднаго стагоддзя ў другое, а тым больш тысячагоддзя ў тысячагоддзе, на свет абрынаюцца разнастайныя катаклізмы. Ці так гэта, Рыгор Іванавіч, у дачыненні да Беларусі?**

— Час таксама старэе, час таксама стамляецца, як і ўсё жывое. У часу свой пераходны ўзрост. І натуральна, пры пераходзе стагоддзя ў стагоддзе, а тым больш тысячагоддзя ў тысячагоддзе, адбываюцца разбуральныя працэсы, катастрофы і ў малых, і ў глабальных маштабах. Адбіваюцца працэсы гэтыя і на людзях, і на дзяржавах. На пачатку 20-га стагоддзя лёс паманіўся быць спрыяльным для Беларусі, а потым забыўся на свае добрыя намеры. Дапамаглі вынішчыць намаладзь беларускае дзяржаўнасці і незалежнасці, дапамаглі бальшавікі з суседзямі. Напрыканцы стагоддзя лёс зноў ласкавейшым вокам глянуў на краіну, але ненадоўга. Зараз мы як бы спяшаемся атрэсціся ад усялякіх рэшткаў кволай незалежнасці, прывіднага суверэнітэту. Збольшага таму, што старэйшае пакаленне не пакідае настальгіі па лагернай пайцы ды цвёрдай руцэ. Хаця туга гэтая — па маладосці, калі была моц і нічога не балела. Вось гэтым і маніпулююць бальшавіцкія лялькаводы.

**— А непакояць вас нейкія асабістыя, так бы мовіць, катаклізмы, як паэта?**

— У кожнага нармальнага чалавека, які меў нахабства назвацца паэтам, заўсягды душа не на месцы. Адно што бяда, калі паэт пачынае думаць пра сябе як пра бронзавага, перажываць, што на нейкую вечарыну не зрабілі запросінаў. Карацей, пра будучы ўласны музей. Жывыя экспанаты лепей глядзяцца ў заапарку.

**— Ад кепскага настрою чым, акрамя вершаў, субліміруецеся? Мо гэта прырода, спорт, жанчыны альбо алкаголь?**

— Дакладны прыклад слова "сублімацыя" — пераход рэчыва пры награванні з цвёрдага стану ў газападобны, мінаючы вадкі стан. Абставіны жыцця, варункі побыту награвалі мяне хіба да кіпення. У газападобны стан не пераходзіў. Ну гэта, вядома, жартам... Было ўсё, акрамя спорту. Калі час дазваляў.

**— Рыгор Іванавіч, а ёсць розніца між тым, як пісалася за савецкім часам, у першыя гады суверэнітэту і зараз?**

— Розніца такая. За савецкім часам пісалася багата, бо быў малады, але не ўсё можна было друкаваць. Пра пэўныя рэчы нават падумаць забаранялася. Хоць Янка Купала яшчэ ў "Кургане" казаў: "думак, князь, не скуеш ланцугамі", савецкая цэнзура клала ланцугі на ўсё. У вузкім прамежку незалежнасці можна было пісаць усё і друкаваць амаль усё. Цяпер пісаць пакуль што можна як не ўсё, але друкаваць толькі тое, што дазволена. У паветры разліты страх, і паступова ён набывае адпаведную канцэнтрацыю. Маладымі мы цытавалі верш Васіля Віткі. Змест быў просты: паэт напісаў верш і нясе яго ў рэдакцыю, разважаючы, надрукуюць ці не. І сам кажа ў канцы верша:

*А што,*
*калі не надрукуюць?*
*Ат! Жаўранка*
*і так пачуюць.*

Цешу і цяпер сябе гэтакім рэзюме выдатнага паэта і педагога.

**— Што значыць быць прафесійным літаратарам? Што азначае сёння гэты статус? Што дае літаратару прыналежнасць да Саюза пісьменнікаў і да ПЭН-цэнтра?**

— Супярэчлівае гэта паняцце — прафесійны літаратар. Прафесія — перш за ўсё рамяство, набытае працаю ўмецтва. А літаратура, і паэзія асабліва, болей хінецца да хобі, да аматарства пры абавязковай апантанасці. За савецкім часам усе сябры (мяне бянтэжыць слова "член" у стасунку да літаратара) Саюза пісьменнікаў аўтаматычна ці рэзалюцыйна лічыліся прафесіяналамі. Некалі Навум Кіслік так перарабіў радкі Маякоўскага: "Я знаў пісьменніка, ён быў непісьменны, не разжаваў нават азбукі соль..." У Маскве — метраполіі савецкай імперыі — так званаму прафесіяналу належала мець сакратарку. Афармлялі сакратаркамі жонак, і ім ішоў працоўны стаж. Увогуле ж, прафесійных літаратараў дужа мала ва ўсіх развітых краінах свету. У Беларусі прафесійным літаратарам ёсць Васіль Быкаў. Быў прафесіяналам і Уладзімір Караткевіч. Прафесійны літаратар — гэта агульнанародны аўтарытэт. Але ён павінен адчуваць, што за ім стаіць дзяржава, што мова, на якой ён піша, з'яўляецца дзяржаўнай. У нас, у застаўшыхся умовах сацыялізму, часам блытаюць прафесіянала з падзённікам. Саюз пісьменнікаў задуманы бальшавікамі на ўзор ідэалагічнага ведамства з вялікім апаратам нагляду і падаўлення ўсялякай свежай думкі. Цяперашні саюз — нешта кшталту арцелі з малымі правамі і абавязкамі. У Купалавым перакладзе "Інтэрнацыяналу", дарэчы, гаворыцца: "Няма правоў без абавязкаў, і абавязкаў без правоў..." Для шараговага сябра выгода ад СП, як таму прадаўцу вараных яек з анекдота. Што мае кіраўніцтва, не ведаю, бо ніколі не цікавілі ні чужыя грошы, ні чужыя прывілеі. На ПЭН-цэнтраўскіх (арганізацыя, што называецца, па інтарэсах) сімпозіумах можна паласавацца кавай і лусценем — і тае матэрыяльнае выгоды. У прынцыпе, я ўжо ў такім узросце, што як і ў маладыя гады, магу сабе дазволіць раскошу быць з тымі, да каго душа ляжыць.

**— Вы ўжо дзесяць год уваходзіце ў сойм Беларускага народнага фронту. Значыць, не зусім падзяляеце думку, што пісьменнік не павінен удавацца ў палітыку, паколькі тады з'яўляюцца страты і мастацкія, і маральныя?**

— У БНФ "Адраджэнне" я з самага пачатку, яшчэ з аргкамітэта. Бо — за незалежнасць, за сапраўдную дзяржаўнасць Беларусі, за беларускую мову, за шлях у Еўропу. Гэта ў нармальнай дзяржаве пісьменнік фармальна далёкі ад палітыкі, хоць ён падспудна ўплывае на палітычнае жыццё. Тут галоўнае, каб пісьменнік проста не зрабіў палітыку прафесіяй. Памятаю, некалі перарабляў таго ж "агітатара і галавара" Маякоўскага (вось, дарэчы, выразны прыклад, як заангажаванасць на палітыку прыводзіць да плакатнага прымітыву і фанерных паэм кшталту "Ленін" і "Добра") — "Палітыка — тая ж здабыча жука. За ім палез — у дзярме рука".

**— Тым не менш вашая публічная падтрымка БНФ, Васіля Быкава ды іншых літаратараў водгуку ў народзе не мае. Насельніцтва пакуль не вызнае і адпрэчвае нават элементарны здаровы патрыятызм. Здаецца, у краіне наогул асоба пісьменніка не з'яўляецца духоўным камертонам, і не толькі ў палітыцы, але і ў іншых сферах жыцця. Чаму?**

— Вы дакладна сказалі — насельніцтва. Для насельніцтва галоўны клопат насяліць зямлю. Для яго не існуе паняцця патрыятызму. Яшчэ інакш слова "насельніцтва" можна прачытаць як "насенніцтва", з якога мусіць вырасці народ. А што тычыцца арыенціраў, дык ні Васіль Быкаў, ні хто іншы не мае на мэце імі быць. Арыенціры патрэбныя пры стральбе артылерыі. Былі ж у бальшавікоў маякі, якія то тухлі, то гаслі.



**— Уявіце, калі ласка, як бы паглядаў на Рыгора Іванавіча Барадуліна і на вамі напісанае дваццацігадовы "ўшацкі хлопец Грышка Барадулін". І якім вы падаецеся сабе зараз 20-гадовы, 30-гадовы, 40-гадовы і г. д.? За што, за якія ўчынкі, таемныя думкі, вершы — можа, сёння вам сорамна ці смешна?**

— Шмат чаго было ў жыцці і ў вершаванні, за што і сорамна і смешна. Адно я стараўся — не прадаць душу д'яблу. І не прадаў. А глядзець на сваю персону збоку не звык. І дзякуй Богу! Значыць, яшчэ жывы. А раз жывы — будуць і новыя памылкі.

**— Унучка ведае на памяць дзедавы вершы? А мо піша ўжо і сама? І наогул якая роля вашай сям'і ў творчасці?**

— Апошняя мая радасць у жыцці, апошняя мая надзея — унучка Дамінічка. Не імкнуся на ёй выпрабоўваць свае вершы. Нешта ведае на памяць, нешта не ведае. Можа і сама напісаць альбо вершык, альбо нават апавяданне караценечкае. А што да сям'і, то не сказаў бы, што яна спрыяе ў вершаванні, але не скажу, што замінае. Сям'я болей апускае на зямлю з мройлівага захмар'я клопатаў пра хлеб надзённы. Прыходзяць на памяць і радкі Булата Акуджавы: "Не женитесь, не женитесь, не женитесь, поэты". А ў самога ёсць і такое: "Так казалі Хаям і Айні. Гэтак роў і бугай каля гаю: жонка трэба на чорныя дні, а на светлыя іншых хапае!"

**— Як часта вы паўтараеце нешта падобнае да Купалавага: "Ёсць жа ў мяне яшчэ сілы!"?**

— Баюся нават услых вымавіць. Каб не сурочыць самога сябе.

**Гутарыў**
**Кірыла ПАЗНЯК**

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

***Ад гэтага разу ў кожным нумары мы будзем прадстаўляць самае, як здаецца, вартае з таго, што мае адбыцца наступным тыднем у культурніцкім свеце. Тэлебачанне, кіно, тэатры, канцэрты, выставы, вечарыны і, мабыць, не толькі гэта.***

***Прычым, спрыяючы вашаму выбару цікава і карысна прабавіць вольны час, пастараемся задаволіць падобным анансаваннем любыя густы, узросты і кашалькі.***

***Здаецца, першымі адышлі ад калядных вакацый нашыя тэатры. Яны ўжо чакаюць гледачоў, стомленых застоллямі. Хоць і ў мельпаменаўскіх будынках ёсць такое месца, як буфет. А вось што перад і пасля знаходжання там можна паглядзець.***

**Купалаўскі тэатр**

*8,9,12 і 13 студзеня* — "Сон у чарадзейную ноч"

*10* — "Ромул"

**Рускі драматычны імя Горкага**

*8 студзеня* — "Хто твой каханак, Жазефа?"

*9* — "Свабодны шлюб"

*11* — "Цяжкія людзі, альбо Жаніх з Ерусаліма"

*12* — "Дзікунка"

*13 і 14* — "Ад'ютантша яго мосці"

*8 і 9* — шоу для дзяцей "Выкрадальнікі вясёлкі"

**"Вольная сцэна"**

*8 і 9 студзеня* — "Апошняя пастараль"

*12* — "Паваліўся нехта"

*13 і 14* — "Стомлены д'ябал"

*16 і 18* — асацыятыўны "Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць"

**Маладзёжны**

*11 і 12 студзеня* — "Прымакі-2"

*14 і 15* — "Жаніцьба"

Квіткі з лепшымі месцамі на гэтыя спектаклі ўжо раскупленыя, засталіся бакавыя і балконныя. Гэта таму, што кошты вельмі танныя. Ну, 60, ну, 80 дэнамінаваных рублёў. Значыць, дырэкцыі тэатраў пакуль што не збіраюцца пужаць падвышкамі. Але тое вось-вось абрынецца, бо зусім нядаўна ім дазволілі самахоць, камерцыйна вызначаць кошты білетаў. Карацей, адрывайцеся ад тэлевізараў і кампутараў, а то вочы згадзіце.

●

Што да здаровых вачэй, дык гэтым надзвычай турбуецца толькі роднае БТ. Рыгор Кісель нават газету "Беларускае тэлебачанне і радыё" распарадзіўся зачыніць. Чаму? І так глядзяць? Альбо наадварот? Калі наадварот, то на Белтэлерадыёкампаніі занадта самакрытычнае стаўленне да таго, чым яны займаюцца і што ствараюць. Такім чынам, давядзецца "ЛіМу" папулярызаваць адзіны (калі заўгодна, унікальны) пакуль айчынны тэлеканал. І ўжо без насцярогі анатацыйным суправаджэннем некаторых праграм дубліраваць выданне БТРК.

*8 студзеня,* субота, 9.30 — **"Кнігазбор"**. Госць вядучай Наталлі Кузьміч Г. Пашкоў распавядзе пра выданне "Гістарычнай энцыклапедыі Беларусі", а У. Лукша, што працуе разам з ксяндзом Завальнюком над кнігай "Шляхам Вайніловіча", агучыць умовы конкурсу на лепшы верш пра малую радзіму.

*9 студзеня,* нядзеля, 10.50 — **"Беларускі дом"**. Пабачыце тэленарысы пра Заслаўе, сядзібу Альберцін, відэашэраг розных рэлігійных збудаванняў з геаграфіяй ва ўсю краіну. Тым, каму лянотна альбо задорага праехацца і паглядзець гэтыя гістарычныя мясціны жыўцом.

*12 студзеня* **ў Доме дружбы** прыхільнікаў інтымнага ладу пашведску, тамтэйшай мадэлі сацыялізму і Лагерлёф запрашаюць на прэзентацыю таварыства "Швецыя—Беларусь".

У **"Кнігарні пісьменніка"** працягваецца распродаж фондаў "Белкнігі", выданняў, нерэалізаваных год, дзесяцігоддзе, два дзесяцігоддзі таму. Дырэктарка крамы кажа, што, паколькі кошты нязначныя (пераважна ў некалькі сотняў рублёў) і кніжкі ёсць амаль рарытэтныя, раскупляюць ахвотна. У нечым правакацыйны распродаж. Пісьменнікам няёмка. А каму ж паскардзішся, што не выдаюць, калі яшчэ тое не раскупілі!

Для несур'ёзных **8 студзеня** свежы чэмпіён КВЗ каманда БДУ прадстаўляе ў Доме афіцэраў праграму "Поўная справаздача аб 20-ым стагоддзі". Пры адсутнасці збольшага айчыннага эстраднага гумару (ну, яшчэ "Хрыстафор" прыгадваецца) і гэта нішто сабе. Адно што назва праграмы выглядае трохі паспешнай: яшчэ адзін год у стагоддзі гэтым застаецца, усялякае можа здарыцца. Вунь Ельцын здзівіў за паўсутак да новага года. Мо і нас што нечаканае ў астатнім 2000-ым чакае?


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-81
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня
"Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк
5.01. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 40

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12